


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

21 СНЕЖНЯ 2001г. № 51-52/4133-4134 КОШТ 138 РУБ.


## СПРАВА НЕАБХОДНАЯ І НАДЗЁННАЯ

*Нататкі Марыі РУДОВІЧ з міжнароднага семінара перакладчыкаў, у якім удзельнічалі літаратары Беларусі і Расіі*

**4**

## РОДНАЯ ПЕСНЯ ЎРАТУЕ СУСВЕТ...

*Ірына БАРОЎСКАЯ — пра кнігу Уладзіміра КАРЫЗНЫ "Хвіліна святла"*

**6—7**

## "І З'ЯВА ГЭТА — РОДНЫ КУТ..."

*Вершы Рамана ТАРМОЛЫ-МІРСКАГА*

**8**

## ХАЙБАХ

*Апавяданне Уладзіміра НЯКЛЯЕВА*

**9, 15**

## БЮРО ЗНАХОДАК

*Старонкі з кнігі Валерыя ГРЫШКАЎЦА*

**13—15**

## МАСТАЦТВА ДЛЯ НАРОДА

*Фотарэпартаж Максіма ПРУПАСА і Пятра ВАСІЛЕЎСКАГА з ААТ "Белмастацкераміка", што ў Радашковічах*

**16**






# Кропка на карце, пазначаная храмам



Да сярэдзіны 70-х гадоў вёска Раўбічы была непрыкметнай кропкаю на карце Міншчыны. Адзінае, што вылучала яе з асяроддзя, гэта напаўразбураны касцёл на вясковых могілках. Кажуць, што мясцовая ўлада колькі разоў хацела разабраць той касцёл па каменьчыках, але за «ўстанову культу» заступіліся... вайскоўцы. Бо стаіць храм на высокім пагорку, бачны здалёк і пазначаны на вайсковых картах як арыенцір. Так ці не, але тым руінам пашчасціла захавацца да лепшых часоў, калі Раўбічы набылі вядомасць, як месца правядзення чэмпіянатаў свету па біятлоне, і сталі любімым месцам адпачынку мінчукоў.

Цяпер у храме музей народнага мастацтва, і менавіта храм, а не спартыўныя пабудовы і гасцініцы, пабудаваныя за апошнія 25 гадоў, з'яўляецца сапраўдным сімвалам гэтых мясцін.

Кожны горад ці вёска, лес ці поле мае сваю, так бы мовіць, «эталонную» пару года, калі гэтая мясціна выглядае найбольш прыгожа. Для Раўбічаў самы прыгожы час — зіма, калі ўсё навокал заснежана. Калі ж снегу няма, вока раздражняе асфальт і бетон, якога тут зараз занадта многа. Далейшае будаўніцтва ў Раўбічах (а такія планы ёсць) можа папросту знішчыць прыродную унікальнасць гэтага кутка Беларусі.

Няхай і надалей Раўбічы застаюцца высокім пагоркам, пакрытым травою альбо снегам. І сёння, напярэдадні калядных святаў і Новага 2002 года, хочацца малітоўна паўтарыць: «Няхай стаіць на пагорку храм».

**П. В.**

*Фота М. ПРУПАСА*







# КОЛА ДЗЁН

***Засталося дзесяць дзён да 2002 года, і амаль большасць з іх — гэта выхадныя. 22 снежня ў Мінску ўключыцца святочная ілюмінацыя. На 26 снежня ў гарадскім Палацы дзяцей і моладзі запланавана правядзенне агульнагарадскога навагодняга прадстаўлення, у якім будзе ўдзельнічаць мэр Мінска Міхаіл Паўлаў. 28 снежня беларускіх дзяцей чакае галоўная ёлка краіны ў Палацы Рэспублікі, дзе будзе прысутнічаць Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. 30 снежня ў 12 гадзін з Кастрычніцкай плошчы ў бок праспекта Машэрава стартуе святочнае касцюміраванае шэсце дзядоў Марозаў і Снягурачак. У навагоднюю ноч у Мінску будуць дзейнічаць чатыры асноўныя канцэртныя пляцоўкі: на Кастрычніцкай плошчы, плошчы Незалежнасці, побач з Палацам спорту і Палацам дзяцей і моладзі. А палове першай ночы на плошчы Незалежнасці і Кастрычніцкай плошчы пачнецца танцавальна-забаўляльная праграма, якая працягнецца да пятай гадзіны раніцы. Кожная гадзіна новага года будзе адзначацца сцэнічным феерверкам. Галоўны навагодні феерверк змогуць убачыць тыя, хто ў навагоднюю ноч а палове другой прыйдзе да абеліска "Мінск — горад-герой". Акрамя ўсяго, мінчан і гасцей сталіцы чакае яшчэ шмат усяго прыемнага і святочнага. З надыходзячымі святамі! Весялей глядзіце ў заўтрашні дзень!***

## СПРАВАЗДАЧА ТЫДНЯ

Адбылося пасяджэнне Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, на якім было разгледжана пытанне аб зацвярджэнні справаздачы аб расходаванні грашовых сродкаў рэспубліканскага бюджэту на падрыхтоўку і правядзенне выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 2001 годзе. У адпаведнасці з каштарысам расходаў на падрыхтоўку і правядзенне выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з рэспубліканскага бюджэту было выдзелена 7 млрд. 590 млн. рублёў. Фактычна выдаткавана 6 млрд. 774 млн. 530 тыс. рублёў. Зэканомлена 815 млн. 470 тыс. рублёў, або 10,74 працэнта ад сумы, прадугледжанай каштарысам расходаў.

## ДАЎГІ ТЫДНЯ

Нягледзячы на тое, што ў час прэзідэнцкіх выбараў было зэканомлена каля мільярда рублёў, амаль на чвэрць павялічылася за лістапад агульная сума пратэрмінаванай запазычанасці па выплаце заробкаў у нашай краіне. Па звестках Міністэрства статыстыкі і аналізу, па стане на 1 снежня ў цэлым па Беларусі запазычанасць складала 51 млрд. 290,9 млн. рублёў, або 11,8 працэнта ад фонду зарплаты за адзін месяц. Запазычанасці не мае толькі авіятранспарт, а ў ахове здароўя запазычанасць зменшылася са 127,3 да 7,4 млн. рублёў, у адукацыі з 60,3 да 21,9 млн., а ў навуцы і навуковым абслугоўванні з 28,3 да 25 млн. Па выніках лістапада адзначаны рост даўгоў работнікам культуры (з 4,4 да 7,2), мастацтва (з 9,2 да 17,3 млн.), аўтатранспарту (з 152,6 да 211 млн.), лясной гаспадаркі (з 1,7 да 259,1 млн.), жыллёва-камунальнай гаспадаркі (з 800,2 млн. да 1 млрд. 183,8 млн.) і г.д.

## ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб пераносе рабочых дзён у 2002 годзе. У адпаведнасці з ёй рабочы дзень з серады 2 студзеня пераносіцца на суботу 5 студзеня, з пятніцы 10 мая — на суботу 18 мая, з панядзелка 13 мая — на суботу 25 мая, з пятніцы 8 лістапада — на суботу 16 лістапада 2002 года. Пастановай прадастаўляецца права арганізацыям з улікам спецыфікі вытворчасці (работы) ажыццяўляць перанос рабочых дзён, устаноўлены гэтым дакументам, у іншым парадку — у адпаведнасці з заканадаўствам.

## ВЫБАРЫ ТЫДНЯ

У Мінску ў Палацы культуры "Сукно" прайшоў 7-ы з'езд грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэнне" і V з'езд партыі БНФ. На з'езд прыехала 370 дэлегатаў з усіх раёнаў нашай краіны. Шмат было выступленняў, але галоўнай мэтай з'езда былі выбары кіраўніцтва. Старшынёй БНФ пераабраны Вінцук Вячорка, які набраў 246 галасоў. 81 чалавек прагаласаваў за Вячаслава Сіўчыкава. Намеснікамі абраны — Юрый Хадыка, Віктар Івашкевіч,Павел Севярынец і Галіна Сямдзянава. Усе старыя знаёмыя...

## ПРАГНОЗ ТЫДНЯ

З прыходам зімы ў нашы хаты прыходзяць не толькі святы — Каляды і Новы год, але і прастудныя захворванні. Па словах галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Рэспублікі Беларусь Валерыя Ключановіча, эпідэмію грыпу ў нашай краіне варта чакаць не раней, чым у канцы студзеня 2002 года. Ён сцвярджае, што медыцынскія ўстановы закупілі неабходныя прэпараты і гатовыя да эпідэміі, да ўсяго сёлета эпідэмія грыпу пройдзе без негатыўных сюрпрызаў. І ўсё ж, як яно там будзе — ніхто не ведае...

## СРЭБРА ТЫДНЯ

Не першы год біятланісты нашай краіны на розных чэмпіянатах паказваюць нядрэнныя вынікі. І на гэты раз на другім этапе Кубка свету па біятлоне, што праходзіць у Паклюцы (Славенія), яны таксама былі сярод мацнейшых. У эстафетнай гонцы 4х7,5 кіламетраў беларусы выйгралі серабро. Маглі б атрымаць і залатыя медалі, але за 2,5 кіламетра да фінішу Вадзім Сашурын прамазаў па мішэні. Трэба спадзявацца, што золата рана ці позна ў нашых біятланістаў будзе, тым больш, што гэта не апошні этап. Праўда, ідуць гады і нашы хлопцы, на жаль, не маладзеюць...

## ЧЭМПІЁН ТЫДНЯ

Зборная каманда Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў зале Маскоўскага палаца моладзі перамагла ў фінальнай гульні каманду з Сочы "Стомленыя сонцам". Гульня ў запісе цягнулася больш за 2 гадзіны 45 хвілін. Яе можна будзе паглядзець па ГРТ 30 снежня. Сачыце за праграмай.

## РАДЫЁ ТЫДНЯ

Да нядаўняга часу ў Мінску дзейнічала дзесяць радыёстанцый. І вось у FM-дыяпазоне на частаце 105,1 FM з'явілася яшчэ адна радыёстанцыя. Называецца яна FM-кропка "Аўтарадыё" і амаль цалкам музычная. На жаль, беларуская ў ёй мала...

## ЦЭНЫ ТЫДНЯ

Новы год без навагодняй ёлкі — гэта як песня без музыкі, таму з году ў год попыт на лясных прыгажунь павялічваецца. У 1995 годзе толькі на Міншчыне было рэалізавана 38 тысяч ёлак, у 1997 — 47 тысяч, у 1998 — 50 тысяч, у 1999-м — 67 тыс., у мінулым годзе — 72 тысячы. Сёлета 15 ёлачных базараў пачнуць працаваць у Мінску 22 снежня. Самыя нізкія цэны на ёлкі будуць на базарах, дзе будуць гандляваць лясніцтвы: ёлка вышынёй да метра будзе каштаваць 2230 рублёў, да двух метраў — 3.600 рублёў, ад двух да трох — 4121 рубель. Тых, хто надумаецца самастойна ссячы ёлку, чакае штраф (ад грамадзян) ад 1 да 3 мінімальных зарплат, а для адказных асоб — ад 3 да 10 "мінімалак". Словам, ёлку лепей купіць на базары, тым больш, што не такія яны ўжо будуць і дарагія...

ПАДЗЕЯ

# Прымалі расійскіх сяброў

Сустрэчы з выдатнымі расійскімі музыкантамі прайшлі ў межах Дзён культуры Расійскай Федэрацыі на Беларусі. Іх урачыстае адкрыццё адбылося 13 снежня ў Вялікай зале сталічнай філармоніі. У той вечар прагучала араторыя С.Пракоф"ева "Іван Грозны".

Было яшчэ некалькі яскравых музычных праграм ды гутарак у імправізаваных гасцёўнях.

Той, хто цікавіўся візітам расійскіх гасцей, ведае: прыязджалі сапраўды знакамітыя асобы. Гэта і маэстра Уладзімір Федасееў, які праз два дзесяткі гадоў наведаў Мінск разам з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам імя П. Чайкоўскага, і хормайстар Уладзімір Мінін, які выступіў са сваім выбітным камерным калектывам, гэта і знаны скрыпач Максім Фядотаў, і папулярны акцёр тэатра ды кіно Аляксей Пятрэнка — удзельнікі выканання араторыі "Іван Грозны"...

У Мінску паказаў свае лепшыя спектаклі паводле А.Астроўскага легендарны маскоўскі Малы тэатр. У музейных залах разгарнуліся экспазіцыі з фондаў сядзібы Кускова ды Цвярской карціннай галерэі. Адбыліся афіцыйныя сустрэчы беларускага да расійскага кіраўніцтва ў галіне культуры з мэтай далейшага развіцця нашых двухбаковых кантактаў.

Нагадаем, што гэтая акцыя краіны-суседкі прайшла ў адказ на правядзенне ў пачатку сёлетняга года Дзён культуры Беларусі ў Расійскай Федэрацыі.

**С. Б.**



*На здымку: міністр культуры Беларусі Леанід ГУЛЯКА адкрывае Дні культуры Расійскай Федэрацыі.*

# Чыгрынаўскія чытанні

Стала добрай традыцыяй штогод на Пухаўшчыне праводзіць літаратурныя чытанні ў гонар народнага пісьменніка Івана Чыгрынава, які быў цесна звязаны з гэтай цудоўнай зямлёй. Тут у яго было шмат сяброў, тут ён часта сустракаўся з чытачамі, чэрпаў натхненне і сілы для творчасці.

Вось і сёлета Саюз пісьменнікаў разам з Беларускім фондам культуры пры падтрымцы мясцовых уладаў наладзілі ў раёне шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных памяці Івана Чыгрынава. Пачаліся яны ў Блоні, у філіяле раённага краязнаўчага музея, дзе ўдзельнікі чытанняў азнаёміліся з цікавай экспазіцыяй, прысвечанай народнаму пісьменніку, а прадоўжыліся ў Мар'інай Горцы, у РДК, куды сабраліся бібліятэкары і настаўнікі раёна.

Сустрэчу адкрыў намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч.

Слова пра Івана Чыгрынава казалі старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, народная артыстка Марыя Захарэвіч, паэт, галоўны рэдактар "ЛіМа" Алесь Пісьмянкоў, пісьменнік Анатоль Бутэвіч, жонка Івана Гаўрылавіча Людміла Прохараўна.

Цікавую праграму падрыхтавалі для сустрэчы вучні і настаўнікі сярэдняй школы №2. Яны выступілі з кампазіцыяй па творах пісьменніка, гаварылі пра яго жыццёвы і творчы шлях.

Сваімі ўспамінамі пра Івана Гаўрылавіча падзяліўся дырэктар мясцовага сельскагаспадарчага каледжа Фёдар Супрун.

Нельга не адзначыць важную ролю ў арганізацыі свята дырэктара раённага музея Аляксандра Прановіча, які прыклаў шмат намаганняў, каб традыцыйныя чытанні на пухаўскай зямлі ў гонар Івана Чыгрынава атрымаліся яркімі і змястоўнымі, а таксама дырэктара Мар'інагорскай СШ № 2 Д.Паўлаву.

**Н. К.**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Госцем беларускіх калег быў нядаўна паэт і літаратуразнаўца з Румыніі Карнел Бракаш. Ён прывёз прывітанне ад Саюза пісьменнікаў Румыніі, кнігі і літаратурны штотыднёвік "Лучаферул". Дарэчы, як нам паведамлялася ўжо, у адным з яго нумароў была апублікавана вялікая падборка твораў беларускіх аўтараў.

Спадар Карнел Бракаш расказаў пра дзейнасць творчай суполкі, сябрам якой ён з'яўляецца, пра сённяшні літаратурны працэс у краіне.

Бакі дамовіліся аб новых сустрэчах, аб падрыхтоўцы дакументаў, якія пашыраюць супрацоўніцтва паміж пісьменнікамі Румыніі і Беларусі.

Ад СБП у гутарцы прымалі ўдзел Навум Гальпяровіч, Віктар Праўдзін, Яўген Каршукоў.

•

Шмат людзей сабралася на вечарыну, прысвечаную 110-й гадавіне з дня нараджэння Максіма Багдановіча, якая адбылася ў вялікай зале Дома літаратара.

З уступным словам да прысутных звярнулася старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава.

У вечарыне бралі ўдзел паэты розных пакаленняў Анатоль Вярцінскі, Сяргей Законнікаў, Эдуард Акулін, Леанід Дранько-Майсюк, Валерыя Кустава, Андрэй Хадановіч, народная артыстка Марыя Захарэвіч, спявак, кіраўнік "Беларускай капэлы" Віктар Скорабагатаў, перакладчык Валерый Стралко, ансамбль "Мінскі гармонік".

**Н. К.**

•

18 снежня ў бібліятэцы СБП адбылася сустрэча пісьменніка Міколы Маляўкі з вучнямі школ Мінска. Сустрэча была прымеркавана да 60-гадовага юбілею пісьменніка.

Прысутныя Мікола Чарняўскі, Яўген Хвалей, Павел Пранузa, Васіль Якавенка не толькі віншавалі юбіляра, але і чыталі вершы, адказвалі на шматлікія пытанні. Вядомы кампазітар Уладзімір Казбанаў праспяваў свае песні на вершы Міколы Маляўкі. Намеснік старшыні СБП Віктар Праўдзін уручыў юбіляру "Ганаровую грамату", а начальнік Галоўнага аналітычнага ўпраўлення Міністэрства інфармацыі Наталля Аляшковіч уручыла нагрудны знак "Выдатнік друку Беларусі".

**В. П.**

АДГАЛОСКІ

# З майстрам падпішуць дамову?

***Міністэрства культуры Беларусі па просьбе нашай рэдакцыі разгледзела артыкул "Прыярытэты", або Пра што маўчала СТБ", змешчаны ў "ЛіМе" за 28.09.2001 г. (Нагадаем, што гэтая публікацыя, ужо не ўпершыню на старонках тыднёвіка, узняла праблему захавання і рамонту канцэртнага аргана ў сталічнай філармоніі). У лісце за подпісам першага намесніка міністра культуры Беларусі У.Рылаткі, дасланым на імя галоўнага рэдактара газеты, гаворыцца наступнае.***

"У 1999 годзе кіраўніцтва Белдзяржфілармоніі звярнулася на фірму "Reiger-kloss" з просьбай зрабіць агляд, функцыянальныя выпрабаванні і распрацаваць экспертныя высновы наконт правядзення рамонту трубчатага аргана Reiger-kloss. Фірма "Reiger-kloss" гатовая выканаць названыя работы пасля пацвярджэння іх фінансавання. Кошт работ па правядзенні прафесійнай экспертызы складзе 2,8 тыс. долараў ЗША, капітальны рамонт і далейшая аддзелка аргана — арыенціровачна 200 тыс. долараў ЗША.

Пытанне наконт правядзення прафесійнай экспертызы будзе разгледжана пасля прыняцця рэспубліканскага бюджэту 2002 г.

Што датычыць прафілактычнага рамонту, які можа быць выкананы майстрам Чарняўскім С.М., дык Міністэрства культуры ў лютым г.г. рэкамендавала Белдзяржфілармоніі скарыстаць на гэтыя мэты грашовыя сродкі, якія вылучаюцца на набыццё абсталявання. Пры гэтым дамова на выкананне названых работ павінна быць заключана ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

Цяпер гэтая дамова знаходзіцца на стадыі афармлення і падпісання".

## Прысвечана Багдановічу

«Максім Багдановіч: аспекты жыцця і творчасці» — так называлася рэспубліканская навуковая канферэнцыя, якую ладзілі ў Гродне Упраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкама, музей Максіма Багдановіча і Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы.

У канферэнцыі бралі ўдзел пісьменнікі і навукоўцы са сталіцы Алег Лойка, Ірына Багдановіч, Людміла Сінькова, Уладзімір Содаль, Галіна Тычка і іншыя.

У адкрыцці і рабоце канферэнцыі прымала ўдзел і выступіла старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава.

Н. К.

## Сустрэча з землякамі

У пярэдадзень Новага года адбылася сустрэча пісьменніка Анатоля Бутэвіча са сваімі землякамі. У Лінскай сельскай бібліятэцы сабраліся прадстаўнікі бібліятэк Нясвіжскага раёна, мясцовыя школьнікі — аматары мастацкага слова.

Адбылася шчырая гаворка пра стан беларускай літаратуры, пра ролю яе ў выхаванні моладзі, пра вытокі творчасці пісьменніка. Анатоль Бутэвіч расказаў пра свае творчыя задумы, пра тое, як нараджаліся ягоныя творы, пра перакладчыцкую дзейнасць, а таксама падзяліўся ўражаннямі ад працы за мяжой — у якасці Генеральнага консула ў Гданьску, пасла Беларусі ў Румыніі.

А ўвогуле сустрэча вылілася ў развагі пра нас, пра наш час і лёс, пра гістарычнае мінулае і сённяшні дзень нашай краіны, яе стасункі з блізкімі і далёкімі суседзямі.

Да сустрэчы ў бібліятэцы была разгорнута кніжная выстаўка, прысвечаная творчасці пісьменніка. А Нясвіжская раённая бібліятэка прымеркавала да гэтага спецыяльны буклет пра свайго земляка.

Т. М.

## Шэдэўр сусветнай літаратуры

Акурат напярэдадні Новага, 2002 года на паліцах кнігарань з'явілася падарункавае выданне паэмы Адама Міцкевіча "Дзяды" ў перакладзе на беларускую мову Кастуся Цвіркі.

У аснове паэмы — старажытны беларускі абрад памінання продкаў Дзяды. Незвычайная таямнічасць рытуалу Дзядоў, яго высокая маральнасць, звязаная з глыбокай пашанай беларусамі сваіх продкаў, з маладых гадоў прываблівалі паэта. У стварэнні паэмы Адам Міцкевіч абапіраўся на беларускі фальклор, ён прызнаваўся, што "абрадавыя песні і заклінанні ў сваёй большасці пададзены дакладна, а часам і даслоўна, узяты з народнай паэзіі", вядома ж, беларускай.

Сюжэтным стрыжнем паэмы стала каханне самога яе аўтара,які выступае тут пад імем спярша Густава, а потым Конрада, да беларускай шляхцянкі з Навагрудскага павета Марылі Верашчакі.

Чытач з цікавасцю пазнаёміцца таксама з патрыятычнай дзейнасцю філаматаў і філарэтаў, якія паказаны ў паэме пад сваімі ўласнымі імёнамі.

"Дзяды" — гэта сапраўдная жамчужына сусветнай літаратуры, напісаная з натхненнем, вельмі паэтычна і ўзнёсла.

Н. ГРЫГОР'ЕВА

## «Мастацтва», №11

«Дзесяць гадоў «Базару» — развагі Д.Падбярэзскага пра міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Змешчаны артыкулы Л.Лысенкі «Катковы — дынастыя мастацкая», В.Нячай «Зямная сцяжына і экранныя вобразы Міхаіла Якжэна», Т.Мушынскай «Пра «Спячую красуню» — і не толькі пра яе», М.Цыбульскага «Інсталяцыі Уладзіміра Вольнава», Д.Стэльмах «Каралёва — каралева», Ж.Некрашэвіч «Сганарэль у сармацкім абліччы», С.Манько-Радкевіч «Сімвал нашай нязломнасці» (вобраз Рагнеды ў графіцы, жывапісе, скульптуры), І.Каранеўскай «Рукатворнасць, згорнутая гісторыяй», Я.Сахуты «Метал, агонь і ўмелыя рукі», Н.Бярнадскай «Саракі» па-магілёўску», Р.Раманава «Нечаканая вісавочнасць», К.Лавыш «Татарскія мячэці ў Беларусі». Т.Мушынская («Беларуская опера заваёўвае Еўропу») запісала расказ дырэктара і мастацкага кіраўніка Нацыянальнага тэатра оперы кампазітара С.Картэса.

ВАНДРОЎКІ

# У Старыя Дарогі. У новы музей

Да свайго сораму, у Старыя Дарогі я ехаў упершыню. І калі б не настойлівасць Уладзіміра Мікалаевіча Шахновіча (ён кіраваў аўтамабілем), наўрад ці знайшлі б гэты не такі і далёкі ад сталіцы райцэнтр. З паказальнікамі, вядомая справа, у краіне — праблема. Асабліва, калі мінаеш аўтастраду, іншую вялікую дарогу. Затое, праўда, у пошуку былі і свае прыемнасці. Як, прыкладам, і тое, што ў Старыя Дарогі мы дабіраліся праз Асіповіччыну. Дабіраліся ж 10 снежня, праз дзень пасля 110-х угодкаў з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Асіповіччына — гэта і ёсць адна з крыніц, што наталяла вялікага паэта моўным багаццем, вяртала Багдановіча ва ўлонне Беларусі.

Абмінулі, захапляючыся заснежанасцю асіповіцкіх сасоннікаў, і Дараганава. Памяць адразу падказала: «Дарагое маё Дараганава, дарагія мае землякі...» Так, у Дараганаве ў сярэдняй школе выкладаў беларускую мову і літаратуру паэт Янка Непачаловіч. Прыгожыя назвы ў яго вершаваных кніг – «Мера любві», «Позні паром», «Перад заходам сонца». А радзіма Янкі Непачаловіча — Старадарожская вёска Мінкавічы.

Усё роўна як за нашы доўгія пошукі — узнагарода: толькі заехалі ў Старыя Дарогі і спыталі пра музей Анатоля Белага — адразу наказалі, як і што, куды ехаць. Спрабавалі перапытаць, а ці правільна нас зразумелі, маўляў, патрэбен не раённы краязнаўчы музей, а хата Белага. Дарэмнымі былі сумненні. Пра што пыталіся — тое і сказалі. Парадаваліся ў душы: ведаюць жа пра Белага не толькі ў Мінску, але і ў Старых Дарогах.

Так мы патрапілі на адмысловае свята беларускасці. Былі на ім і жыхары Старых Дарог. А болей за ўсё — гасцей. Дабіраліся яны і машынамі, і аўтобусам, і цягніком. З Мінска, з Мастоў, з Баранавіч, са Слуцка. Асабліва як з Баранавіч, ды ў сцюдзёны мароз — дарога халодная і няблізкая. Ды гледзячы на твары гасцей Анатоля Белага, гаспадара прыватнага мастацкага музея ў Старых Дарогах, пра мароз і не дужа думалася. Ля скарбніцы беларускіх мастацкіх каштоўнасцяў вітаў цёплы дух. Іначай, відаць, і быць не магло, бо ня помнікаў, размешчаных на сядзібе, — Ларысе Геніюш, бацьку і сыну Багдановічам (вось дзе, у Старых Дарогах, сустрэліся старыя і малады вераб'і!) і паэты, і сталінскія вязні гаварылі рознымі словамі пра адно: пра нашу Беларусь. А хіба ж без сардэчнага цяпла можна гаварыць пра Айчыну?..

Уражвае мастацкі твор, уражваюць калекцыі Анатоля Белага. У экспазіцыі музея — каля 120 карцін, літаграфій, бюстаў, медалёў, іншых прадметаў мастацтва. А ўсяго старадарожская частка калекцый Белага налічвае болей як 300 адзінак. Захоплена, з вялікай цікавасцю аглядалі унікальныя зборы самыя розныя людзі. Гэтым разам — старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, навуковец і выдавец Ягор Фядзюшын, паэт і краязнаўца Яўген Гучок, краязнаўца, архівіст, гісторык Анатоль Валахановіч, паэт і журналіст Міхась Скобла, дасведчаны гісторык Анатоль Грыцкевіч, паэт Станіслаў Суднік... Паглядзець жа сапраўды ёсць што. Работы Анатоля Барановскага, Аляксея Марачкіна, Яўгена Бусла (мастака, які працуе без кісцяў рук), Івана Рэя, Алеся Цыркунова і шмат каго яшчэ, безумоўна, — упрыгожванне любога музея, любой выставачнай галерэі. Асобна вылучаны палотнішчы, графічныя лісты мастака Аляксея Пятрухны (шкада, што пражыў ён так мала — усяго 45 гадоў, памёр у 1984-м). Па творчасці гэтага руплівца можна вывучаць пэўны адрэзак у гісторыі выяўленчага мастацтва Беларусі. Яшчэ прыйдзе час — і мастацтвазнаўцы адкрыюць сутнасць зробленага Аляксеем Пятрухным.

Збор Анатоля Белага унікальны і па калекцыі медалёў. У такіх абсягах, як у старадарожскім музеі, нідзе ў краіне не прадстаўлена медальернае мастацтва. Работы Міхала Байрачнага і Уладзіміра Летуна, іншых творцаў прыадчыняюць багацці беларускага выяўленчага мастацтва з новага боку. І медальерная частка калекцыі, і зборы жывапісу, графікі, скульптуры, кніжная экспазіцыя музея — усё гэта ў Старых Дарогах аб'яднана адным: жаданнем Анатоля Белага ўсімі сабранымі скарбамі расказаць пра Беларусь, пра гістарычны шлях нашай Айчыны.

Прыватны мастацкі музей журналіста, мастацтвазнаўца, літаратара Анатоля Белага — унікальны асветніцкі асяродак. І для Беларусі ўвогуле. І для Міншчыны, у прыватнасці. А найперш — для Старых Дарог, для Старадарожскага раёна. І хоць музей прыватны, усё ж такі, як мне асабіста падаецца, ён мог бы спрыяць у рэалізацыі самых розных культурніцкіх праектаў, якія, безумоўна, ладзяць і будуць ладзіць старадарожскія ўлады. Варта толькі аб'яднаць намаганні. І да літаратурнай славы Старадарожчыны (у гэтым краі нарадзіліся пісьменнікі Кастусь Цвірка, Міхась Парахневіч, Алесь Усеня, згаданы Янка Непачаловіч) дадаецца і багатая мастацкая біяграфія.

І яшчэ колькі слоў услед за ўражаннямі ад сустрэчы, знаёмства з музеем Анатоля Белага. Ужо зараз надышоў час выдаць поўны каталог, які б прадстаўляў мастацкую калекцыю. Шэраг праектаў (серыі партрэтаў беларускіх ваяроў, дзеячаў асветніцтва) рэалізаваны спецыяльна для музея ў Старых Дарогах. Чаму б не выдаць гэтыя серыі асобнымі паштоўкамі (Анатоль Белы, здаецца, распачынаў падобныя выдавецкія праекты). А зараз сваё плячо магла б падставіць і дзяржава, зрабіўшы паштоўкі досыць вялікім накладам... Відавочнай з'яўляецца і наступная патрэба: музей Анатоля Белага варты самай шырокай прапаганды. І як вопыт падобнага роду, і як месца прыцягнення наведвальнікаў, турыстаў.

Кастусь ЛАДУЦЬКА

ВЫСТАВЫ

# Гульні для безнадзейна дарослых

Выставу "Лялечныя хронікі", што адкрылася ў Музеі сучаснага мастацтва, самі арганізатары і супрацоўнікі музея аднеслі да калядняй, хоць там нідзе няма традыцыйнай святочнай сімволікі. Яна проста прыгожая — найперш зборам унікальных калекцыйных лялек, зробленых Ганнай Балаш, Аленай і Мікалаем Байрачнымі, Марынай Капілавай. Усе яны, як мастакі, займаюцца рознай творчасцю. Напрыклад, А. Балаш вядома як мастак па касцюмах, М. Байрачны — кераміст, мультыплікатар, захапляецца вырабам старажытнай зброі. Аб'ядноўвае іх любоў да лялькі, апранутай у арыгінальныя старажытныя строі. Гэта зрабілася для іх часткай прафесійнай творчасці. Прыгожыя лялечныя гульні падтрымліваюць цыкл кампазіцый фотатаварыства пад кіраўніцтвам Андрэя Шчукіна. Прадстаўленыя на выставе работы стварыліся групай прафесіяналаў і аднадумцаў: у здымках прымалі ўдзел мадэлі агенцтва "Тамара", аўтары грыму і візажу Н. Сідарава, камп'ютэрнага дызайну Н. Нядзельскі, а тапіўшыя ў кадр карціны належаць С. Барташэвічу. На адкрыцці выставы дэманстраваўся пра іх відэафільм Зоі Катовіч, што вядома па праграме "Хто я?" на канале СТБ.



Можна па-рознаму аднесціся да нечаканых, шмат у чым штучных аўтарскіх імправізацый на тэмы з жыцця лялек. Нездарма выстава мае назву "хронікі". Усе мастакі на поўным сур'ёзе называюць сябе "хранічна хворымі", таму што працягваюць гуляць у лялькі і ў дарослым жыцці, насяляючы будзённы свет сваімі лялечнымі героямі...

Наталля ШАРАНГОВІЧ

*На здымку: на адкрыцці выставы.*

*Фота М. ПРУПАСА*

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Арабскімі літарамі па-беларуску

У Цэнтральнай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася выстава-прэзентацыя пад назвай «Рукапісы Беларуска-літоўскіх татар XVII—XX стагоддзяў» з калекцыі бібліятэкі АН. Усе тэксты на цюркскіх і славянскіх мовах (Куран, Тэджвід, Тэфсір, Хамаіл, Кітаб) напісаны арабскімі літарамі. Прэзентацыя арганізавана сумесна з беларускім грамадскім згуртаваннем татар-мусульман «Зікр уль Кітаб» («Памяць і кніга»). У адкрыцці прынялі ўдзел Надзвычайны і паўнамоцны пасол Турцыі на Беларусі спадарыня Фатма Тула Сойсал, муфцій мусульман Беларусі Ісмаіл Александровіч, прадстаўнікі пасольства Ірана на Беларусі ды азербайджанскай дыяспары. Фатма Тула Сойсал адзначала, што сувязі Турцыі з Беларуссю на працягу стагоддзяў добра захаваліся дзякуючы татарскай абшчыне. Абодва бакі талерантныя да рэлігіі і культуры татар. І добра, што такая ініцыятыва рэалізавана ў Цэнтральнай бібліятэцы АН. У працяг сваіх словаў спадарыня пасол падаравала бібліятэцы АН Беларусі надрукаваны ў Турцыі традыцыйным метадам Каран.

Ісмаіл Александровіч, уражаны гэтай выставай, адзначыў, што прадстаўленыя на выставе кнігі вельмі каштоўныя для татар. Ён пашкадаваў, што ў свой час было знішчана шмат выданняў, напісаных арабскімі літарамі на старажытнабеларускай, польскай, рускай мовах. Ібрагім Канапацкі падзякаваў паслу Турцыі за яе прысутнасць на сустрэчы ў святы месяц Рамазан, а таксама перадаў бібліятэцы АН ад згуртавання татар кнігу «Сады праведных», упершыню перакладзеную на рускую мову, а таксама «Жыццеапісанне прарока», выдадзеныя ў Турцыі з падзагалоўкам «Для людзей, якія разважаюць», кнігу пра Іслам для дзяцей «Свет мураўёў», трэці том каталога «Рукапісы і леугіры», выдадзены ў Польшчы. Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч выказаў павагу да справы адраджэння культуры беларускіх татар і адзначыў: «Некалькі гадоў назад і марыць не маглі, што надыдзе такі час, калі можна будзе займацца пошукамі сваіх каранёў, продкаў. Заўважна, што татары акрыялі і ім стала цікава жыць, самае галоўнае — яны ў згодзе і паразуменні жывуць з карэнным насельніцтвам на працягу стагоддзяў. І дай Бог беларусам, каб яны адстойвалі сваю культуру так, як яе адстойваў татарын Сцяпан Александровіч. Будзем захоўваць кнігу і даражыць ёю, калі кніга служыць дабру, чалавечнасці, святлу».

Старшыня згуртавання Абу-Бякір Шабановіч аддзячыў усіх прысутных за тое, што яны прыйшлі на сустрэчу, а значыць паважаюць яго народ, пазнаёміў з выданнямі Кур'ана, якія яму дасталіся ад яго продкаў. Сярод іх Кур'ан канца 19 ст., надрукаваны ў Вільні.

Пасля адкрыцця выставы прайшла канферэнцыя, на якой выступіла з дакладам пра беларускіх татар XIV—XVII стагоддзяў Зарына Канапацкая. Навуковы супрацоўнік Інэса Ганчарова падзялілася праблемамі рэстаўрацыі кніг.

Галія ФАТЫХАВА

СЕМІНАРЫ

# Справа неабходная і надзённая

Днямі ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў адбыўся двухдзённы міжнародны семінар "Пераклад — нацыянальнае, арыгінальнае, універсальнае", у якім узялі ўдзел айчынныя майстры перакладнога жанру Уладзімір Анісковіч, Вячаслаў Рагойша, Міхась Кенька, Эрнест Ялугін, Яўген Каршукоў, Валерый Стралко, Іван Чарота, Уладзімір Саламаха, галоўныя рэдактары літаратурна-мастацкіх часопісаў, прадстаўнікі выдавецтваў, прэсы, а таксама госці з Масквы — вядомыя паэты Рыма Казакова і Уладзімір Леановіч, галоўны рэдактар часопіса "Дружба народов' Аляксандр Эбанаідзе.

Як адзначыла ў вітальным слове старшыня СБП Вольга Іпатава, пераклад — справа заўсёды неабходная і надзённая, якой трэба надаваць пільную ўвагу, таму што літаратура, якая не перакладаецца, не ідзе да іншамоўнага чытача, пачуваецца збяднелай і незапатрабаванай. Творы беларускіх пісьменнікаў, асабліва маладых, сёння перакладаюцца, але намаганні ў гэтым накірунку былі недастатковыя, і прычыны тут перш за ўсё матэрыяльныя: кніжку перакладаў трэба арганізаваць, вылучыць лепшае, што ёсць у нацыянальнай літаратуры, знайсці перакладчыкаў (хоць сувязі нашы не абарваліся і амаль ва ўсіх рэспубліках былога СССР ёсць сябры, якія гатовы заняцца перакладам беларускай прозы і паэзіі) аплаціць іх працу і, нарэшце, знайсці грошы на выданне кніжкі. І ўсё-ткі ў 1998 годзе быў праведзены першы міжнародны семінар перакладчыкаў, вынікам якога пры падтрымцы пасольства РБ у Балгарыі з'явілася анталогія беларускай паэзіі на балгарскай і беларускай мовах, што пабачыла свет у Сафіі і ў якую ўвашлі лепшыя дасягненні беларускай паэзіі ад старажытных часоў. Дарэчы, сёння Уладзімір Анісковіч перакладае на беларускую мову творы А.Дончава. Зараз праз прэзідэнцкі грант робіцца спробы знайсці сродкі на выданне твораў славацкіх пісьменнікаў на беларускую мову, падтрымліваць творчыя адносіны з літоўскімі, украінскімі, рускімі перакладчыкамі. Зборнік апавяданняў беларускіх пісьменнікаў перададзены ў Іспанію, дзе ў рамках праекта "Літаратурны экспрэс-2000' ёсць надзея пабачыць кніжку, выдадзеную ў перакладзе на іспанскую мову. "Дружба народов' — гэта, можна сказаць, стратэгічны часопіс, таму што менавіта праз рускамоўную стыхію творы беларускіх пісьменнікаў вядомыя не толькі ў краінах былога СССР, але і ў замежжы. Зараз клопатам Рымы Казаковай рыхтуецца зборнік перакладаў беларускай паэзіі на рускую мову.

Пытанням узаемнага супрацоўніцтва было прысвечана выступленне Аляксандра Эбанаідзе, які падрабязна высвятліў праблемы, звязаныя з выданнем часопіса ва ўмовах рынку, у тым ліку і фінансавыя. Сёння часопіс выходзіць рэгулярна, з'явілася магчымасць у нейкай ступені падвысіць ганарары, выплачваць невялікія прэміі па выніках года, падтрымліваць кантакты з літаратарамі розных рэспублік, ажыццяўляць пераклады і друкаваць іх. Найбольшым клопатам часопіса з'яўляецца сёння тыраж, бо адзіная крыніца фінансавання — гэта сродкі ад падпіскі, якая па-за межамі Расіі вельмі малая зноў-такі з-за матэрыяльных цяжкасцей. Але часопіс патрэбны ўсім, каб атрымліваць інфармацыю пра літаратурны працэс на абшарах былога СССР. Ёсць нават прапанова выпускаць яго на дзвюх мовах: на мове арыгінала і паралельна ў перакладзе, але тады паўстае праблема публікацыі твораў буйнога жанру. На працягу апошніх гадоў "Дружбу народов' падтрымліваў фонд Сораса, але зараз гэта дапамога змяншаецца, што можа выклікаць шэраг праблем, у тым ліку памяншэнне акладаў, ганарараў і г.д. Што тычыцца кантактаў з беларускімі пісьменнікамі, то сувязі ёсць і вельмі пажадана іх не толькі не згубіць, але і пашыраць далей. За апошнія гады ў часопісе было шмат публікацый беларускіх аўтараў, у тым ліку Максіма Танка, Васіля Быкава, Святланы Алексіевіч, Віктара Казько, Уладзіміра Бутрамеева, Валерыя Ліпневіча, Леаніда Дранько-Майсюка і іншых, плануецца апублікаваць падборку вершаў Рыгора Барадуліна. Часопісу вельмі не хапае інфармацыі пра жыццё пісьменніцкіх арганізацый у краінах садружнасці і прытоку літаратараў новага пакалення. Аляксандр Луарсабавіч выказаў спадзяванне на ажыўленне кантактаў і папаўненне выдання канкрэтнымі прапановамі і таленавітымі, цікавымі творамі, бо ў перыяд сацыяльнай ломкі літаратура — вельмі неабходны інструмент, бо ні палітыкі, ні эканамісты не могуць заўважыць тых працэсаў, якія звязаны з асобай чалавека, з выхаваннем маральнага процістаяння новым жыццёвым умовам.

Іван Чарота падзяліўся сваімі меркаваннямі пра стан перакладчыцкай дзейнасці на сённяшні дзень. На выдатную перакладную працу, якая выйшла на Беларусі, можа не з'явіцца ніводнай рэцэнзіі, сур'ёзнай анатацыі, анонса. Аслабела такое неабходнае пачуццё карпаратыўнай еднасці перакладчыцкага цэха, праца перакладчыка не заахвочваецца належнымі ганарарамі, яго статус рэзка панізіўся. Чытачы губляюць цікавасць да добрай, сур'ёзнай літаратуры. Зніклі альманахі "Братэрства', "Далягляды', "Ветразь', якія існавалі выключна для перакладаў і кантактаў між літаратурамі. Перапынена выдатная серыя "Скарбы сусветнай літаратуры' — гонар выдавецкай, перакладчыцкай, літаратурнай справы. На жаль, зніклі таксама серыі "Бібліятэка замежнай прозы' і "Бібліятэка замежнай паэзіі'. Недзяржаўныя выдавецтвы, у прыватнасці "Беларускі кнігазбор', намагаюцца хаця б часткова ўзяць гэтыя функцыі на сябе, але належнага аб'ёму ў ажыццяўленні перакладной дзейнасці дасягнуць пакуль што не могуць. Балючай застаецца праблема кантактаў, бо адсутнічае, на думку І.Чароты, сістэма сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі іншых краін. Значэнне сувязей і ўзаемадачыненняў паміж літаратурамі адыгрывае вельмі вялікую ролю ў справе ідэнтыфікацыі сваёй уласнай літаратуры, бо пераклад — найважнейшы сродак ідэнтыфікацыі нацыянальнага мастацтва, нацыянальнай культуры, нацыянальнай літаратуры. У свой час у Маскве дзейнічалі больш за дваццаць актыўных перакладчыкаў з беларускай мовы, за год выдавалася сорак сем кніг беларускіх аўтараў.Зараз гэта актыўнасць значна зменшылася: з 1990 года выйшла ўсяго адзінаццаць кніг, пагоршылася якасць перакладаў. Перакладчыку сёння даводзіцца пераадольваць фінансавыя цяжкасці, інерцыю, ускладаць на сябе дадатковыя абавязкі, часам шукаць спонсараў. Але ёсць пераемнасць, ёсць пакаленне маладых перакладчыкаў, якія больш аператыўна вырашаюць падобныя пытанні.

Прафесар Вячаслаў Рагойша, які гаварыў пра мастацкі пераклад у сістэме сучасных усходнеславянскіх літаратурных узаемасувязей, выказаў думку, што гэтыя сувязі абавязкова наладзяцца на належным узроўні, створыцца агульная інфармацыйная прастора.

Пад час "круглага стала', які адбыўся ў бібліятэцы СБП, пра пераклад скандынаўскай літаратуры ў Беларусі падрабязна гаварыў Лявон Баршчэўскі, са змястоўным дакладам пра неабходнасць перакладу менавіта з мовы арыгінала выступіў Андрэй Хадановіч, праблемы беларуска-ўкраінскіх паэтычных узаемадачыненняў закрануў Валерый Стралко, слушныя прапановы па паляпшэнні перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасці, умацаванні літаратурных сувязей выказалі намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, вядомыя літаратары Кастусь Цвірка, Ала Канапелька, Генадзь Дзмітрыеў, Сяргей Законнікаў, Алесь Пісьмянкоў, Адам Глобус, Ганад Чарказян, Уладзімір Леановіч. Асаблівы акцэнт на самацэннасці і унікальнасці беларускай мовы і неабходнасці абароны яе на дзяржаўным ўзроўні зрабіла Вольга Іпатава.

Госці выступілі перад студэнтамі БДУ, дзе адбылася цікавая гаворка пра сённяшні стан літаратуры, мастацтва, культуры.

Па выніках работы семінара прынята сумесная рэзалюцыя, якая прадугледжвае развіццё і пашырэнне ўзаемных кантактаў паміж беларускімі і расійскімі літаратарамі, Саюзам беларускіх пісьменнікаў і часопісам "Дружба народов', паміж літаратурамі сумежных краін, ажыццяўленне сумесных праектаў.

**Марыя РУДОВІЧ**



*Навум Гальпяровіч, Аляксандр Эбанаідзе, Уладзімір Леановіч і Вольга Іпатава падчас працы семінара*



*Рабочы момант семінара*

НАДЗЁННАЕ

# Гэта не дробязі

Наўрад ці мае сэнс аспрэчваць сцверджанне, што архітэктура з'яўляецца найбольш значным элементам агульнай культуры, паколькі ў гэтым відзе дзейнасці сінтэзуюцца такія сацыяльна значныя фактары як: ідэалогія, веданне законаў формаўтварэння, функцыянальныя асаблівасці, якасць будаўніцтва і інш. У першую чаргу, гэта датычыцца тых архітэктурных аб'ектаў, якія з'яўляюцца знакавымі, дамінантнымі ў гарадскім асяроддзі, эстэтычная якасць якіх вызначае культурны ўзровень, які грамадства мае на дадзены момант. Гэта аб'ёмны след навуковай, мастацкай і інжынернай думкі, увасоблены ў камені, бетоне, метале, шкле і іншых адносна «вечных» матэрыялах.

Далей пра наш родны Мінск. Сёння гэта чысты, прасторны, зялёны, у цэнтры добра асветлены, з акуратна памаляванымі фасадамі.

Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці, толькі за два апошнія гады закончаны і здадзены ў эксплуатацыю аўтавакзал, лядовы Палац, Палац Рэспублікі, чыгуначны вакзал; будуюцца і рэстаўруюцца храмы, аб'екты культуры. Што ведаюць людзі нашага горада пра планы горадабудаўнікоў, архітэктараў, аўтараў праектаў, архітэктурнастылёвыя асаблівасці новых праектаў, функцыянальныя тэндэнцыі, новыя матэрыялы? Можна было б спаслацца на выставу дасягненняў беларускай архітэктуры, якая летась экспанавалася ў Палацы мастацтваў. Але і яна асвятлялася ў сродках масавай інфармацыі мінімальна. А на гэтым матэрыяле можна было б зрабіць серыю навукова-пазнаваўчых перадач, далучаць людзей да таго, каб як мага больш яны ведалі пра той альбо іншы архітэктурны аб'ект, пра яго аўтара. Гэта важна і для рэпутацыі саміх архітэктараў, каб людзі не толькі меркавалі пра іх вынікі дзейнасці на ўзроўні — падабаецца ці не падабаецца, прыгожа ці не прыгожа, а валодалі больш шырокай інфармацыяй, у тым ліку і для выяўлення аб'ектыўнай ацэнкі. Неабходны дыялог з грамадскасцю па асабліва важных праблемах. Без дыялога думка не развіваецца. Безумоўна, праблему будуць вырашаць прафесіяналы, але грамадская думка толькі ўзбагаціць і павысіць адказнасць усіх. Неабходна абуджаць у людзей волю да інтэлектуальнага дзеяння, а не адводзіць ім ролю пасіўных сведкаў значных падзей.

І яшчэ пра «дробязі».

Неяк праходзячы міма новага чыгуначнага вакзала, быў моцна расчараваны. Арыгінальнае архітэктурнае вырашэнне, высокая якасць будаўніцтва, шмат сродкаў затрачана — і вось табе маеш! Надпіс «чыгуначны вакзал», які знанціраваны наверсе, не тое што кепскі, а горш. І мне падумалася: «Напэўна, вырашылі, што паколькі тут ужо быў прэзідэнт, то цяпер можна астатняе дарабляць абы-як». Узнікае пытанне: калі так і ў праекце, то ёсць жа і другая інстанцыя — галоўны архітэктар горада і галоўны мастак. Для культурна-значнага аб'екта такога маштабу гэта не дробязь. Тым больш, што гісторыя, тэорыя і практыка шрыфту цесна звязаны з развіццём архітэктуры. Вялікія архітэктары былі і вялікімі майстрамі шрыфту, і такіх прыкладаў нямала.

Не цешыць вока і тое, як налеплены надпісы і на іншых будынках: на фасадзе цырка, філармоніі, аграрна-тэхнічнага універсітэта, політэхнікума, БПА... Можна працягваць і далей. Надпісы зроблены не ў стылі, не ў маштабе, размешчаны дзе папала. Адна з асноўных прычын, відавочна, у тым, што на стадыі праектавання гэтая частка работы недаацэньваецца. Паралельна тут узнікае яшчэ адна праблема, звязаная з самім зместам назваў аб'ектаў і лозунгавых надпісаў. Напрыклад, на музеі Вялікай Айчыннай вайны ўстаноўлены адзін лозунг, а літаральна праз трыста метраў каля помніка Перамогі — другі аналагічнага зместу. Навошта?

Яшчэ пра адно самае элементарнае.

Як скажаюць фасады будынкаў абазначэнні назваў вуліц, нумары дамоў, пад'ездаў. Як толькі і чым толькі не робяць надпісы. Здавалася б, прасцей за простае: адзін раз распрацаваць універсальны вузел для мацавання, форму надпісу, асвятленне. Усё гэта павінна ўлічвацца ў праекце і выканана адзін раз пры будаўніцтве, а домакіраўніцтва абавязана сачыць, каб не было самадзейнасці. А што робіцца з зашклённем лоджыяў і балконаў? Пры гэтым дастаткова архітэктарам адзін раз распрацаваць некалькі варыянтаў або модуляў з указаннем, для якіх тыпаў дамоў і пры домакіраўніцтве сачыць за выкананнем, а жыхары абавязаны такія віды работ узгадняць з імі.

І ў заключэнне, пра вадасцёкавыя трубы. Колькі традыцыя кожны год дарагога ацынкаванага жалеза, працы, а яны ўсе вясной абрываюцца і абрываюцца. А дастаткова толькі зменшыць дыяметр трубы ў два разы, якасна выканаць работу, а практыка паказвае, што гэта надзейна і надоўга. І няма праблем.

Можна ад усяго гэтага адмахнуцца — дробязі. Але, на жаль, бяда ў тым, што іх шмат, а таму яны прама і ўскосна негатыўна ўплываюць на культурны вобраз нашага роднага горада.

**П. СЕМЧАНКА,**
**прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў**

## «Куды ні пойдзеш...»

**Іван Муравейка нядаўна адзначыў сваё 80-годдзе. А даўно кажуць, што кніга — лепшы падарунак. Яго і падрыхтавала Івану Андрэевічу выдавецтва «Юнацтва», выпусціўшы ягоную кнігу «Куды ні пойдзеш — цуды знойдзеш». Змест зборніка склалі вершы, апавяданні, казкі, загадкі, што ўвайшлі ў раздзелы «Тут людзі добрыя жывуць», «Няхай усюды свецяцца ўсмешкі»,»Унукам — навука». У творах гэтых шмат досціпу, займальнасці, таму лепшыя з іх і сапраўды стануць для юных чытачоў (кніга адрасавана ў першую чаргу малодшаму школьнаму ўзросту) тым цудам, напаткаць якое заўсёды прыемна**



**нават тады, калі штодня пра многае незвычайнае даведваешся па тэлевізары. Але цуды І.Муравейкі такія, што звязаны з паўсядзённым жыццём. Пісьменнік расказвае пра забавы дзяцей, іх вучобу. Ён паэтызуе прадметы, што акружаюць маленькіх, знаёміць з раслінным і жывёльным светам. Пра ўсё гэта хлопчыкі і дзяўчынкі, канечне, чыталі і ў іншых аўтараў, але І.Муравейка заўсёды знаходзіць свой падыход, таму тое, пра што ён паведамляе, запамінаецца. А вершаў, напісаных з добрым веданнем псіхалогіі маленькіх, у зборніку нямала. Некаторыя з іх вельмі займальныя, як, для прыкладу, верш «Бурачок і бычок»:**

*Бурачок-дзівачок*
*Высунуўся з градкі.*
*А бычок — за бачок*
*І з'еў без аглядкі.*

*Тут прыбегла Ала*
*І бычка прагнала:*
*Ты сякі, ты такі!*
*Хай растуць буракі!*

**А хіба не цікава будзе хлопчыкам і дзяўчынкам даведацца пра незвычайнага зайца, які не моркву вырошчваў ці харчаваўся ёю, як гэта звычайна робяць ягоныя суродзічы, а вырашыў назапасіць сена. І так шчыраваў, што няблага атрымалася, пазайздросціць можна рупнасці касавокага:**

*Заяц сена накасіў,*
*Згроб і ў копы панасіў.*

*Як пагоркі — копы-копы...*
*— Да вясны да самай хопіць.*
*І з суседкаю казой*
*Падзялюся я зімой.*

**Верш жа «Радыё прастудзілася» увогуле арыгінальны:**

*Наш прыёмнік прастудзіўся —*
*Як вады з ільдом напіўся:*
*То ён шэпча, то хрыпіць,*
*То пакрыўджана маўчыць.*
*Мабыць, горлачка баліць.*
*Чым жа мне яго лячыць?*

**Няцяжка здагадацца,што гэта прамаўляе хлопчык ці дзяўчынка, а таму і завяршэнне твора адпаведнае:**

*Хто навучыць, хто параіць?*
*Можа, — так, а можа, — гэтак?*
*Ну чаму не выраблююць*
*Радыётаблетак?*

**Заключны раздзел «Унукам — навука» — цалкам празаічны, хоць і ў першых двух поруч з вершаванымі творамі змешчаны і апавяданні. А ў трэцім раздзеле юныя чытачы маюць мажлівасць зноў сустрэцца з Пятром Перапечкам, з якім знаёмы па кнізе І.Муравейкі «Прынёс з вайны»: «нават у свае «пад восемдзесят» Пятро Андрэевіч застаўся маладым душой, веселуном-балакам. Асабліва хіляцца да яго дзеці. Яны слухалі б дзеда Пятра бясконца». Як прызнаецца аўтар, ён «некаторыя яго аповеды і казкі... запісаў і ўставіў у гэту кніжку». Няцяжка здагадацца, што ў раздзеле «Унукам — навука» моцныя аўтабіяграфічныя моманты. І.Муравейка згадвае асобныя эпізоды з уласнага маленства, расказвае пра сябе і сваіх равеснікаў, якія, гэтаксама, як і сённяшнія дзеці, уваходзілі ў жыццё. Але ў іх былі і свае радасці. Пра ўсё гэта цікава прачытаць, але не менш цікава даведацца, што паміж тымі дзецьмі і сучаснымі нямала агульнага. Яны ж былі гэткімі дасціпнымі, прагнымі да пазнання, ім хацелася стаць хутчэй дарослымі.**

**Міхась ГЕНЬКА**

КРЫТЫКА

# Родная песня ўратуе сусвет...

Сказаць па шчырасці, не вельмі чакала, што сустрэну падобныя радкі ў кнізе выбранага слыннага паэта-песенніка, творы якога — ва ўсякім разе асобныя — ведаю на памяць. Бо ўпершыню пачула і палюбіла іх яшчэ ў тыя шчаслівыя часы, калі не толькі не ўмела чытаць, але і наогул не ведала, што такое песня ці, тым болей, такое паняцце як паэзія, ці, яшчэ больш, лірыка. Хаця і гадавалася ў пісьменніцкай сям'і, дзе заўсёды шанавалася і цанілася ўсё згаданае. Магчыма так і нараджаюцца адпаведныя стэрэатыпы, якія потым пераадолець даволі складана (падчас немагчыма), нават калі пачынаеш прафесійна займацца той адметнай сферай айчыннага мастацтва, што чароўна і шматаспектна называецца ёмкім і прыгожым словам — Песня.

Таму яшчэ раз шчыра згадваю, што для мяне (як і, напэўна, для многіх чытачоў) сталіся даволі нечаканымі яскрава-публіцыстычныя радкі Уладзіміра Карызны з цыкла «Новыя песні і вершы», змешчанага ў зборніку «Хвіліна святла» (нядаўна ўбачыў свет у выдавецтве «Харвест»). Трэба згадаць, што былі ў паэта Карызны і вершы, дзе ў той ці іншай ступені і манеры закраналіся актуальныя ў 80-я гады праблемы міру і вайны з іх даволі ваяўнічымі пошукамі вінаватых у парушэнні грамадскага спакою і асуджэннем рэальных ці больш-менш уяўных ворагаў сацыяльнага прагрэсу (згадаем зборнік «Расколіна на звоне Свабоды», 1986). Гучалі яны даволі традыцыйна ў хоры тагачасных «вандроўных», «рэпартажных» (з нагоды наведвання Амерыкі) вершаў у беларускай паэзіі. Але і ў іх трапляліся цікавыя знаходкі. Так, поруч з асуджэннем зданяў, што блукаюць у *«хмарачосах»* Амерыкі і разам са стрэламі і тэлевізарамі не даюць заснуць нашаму паэту, у ягоных творах, бы звон кафедральны, гучаць згадкі-ўспаміны эмігрантаў-беларусаў.

У новым жа цыкле выходзіць на першы план эміграцыя беларусаў на роднай зямлі, дзе яны становяцца чужымі. Невыпадкова малітва звону пераходзіць у рэквіем-плач, ці, што будзе больш па-беларуску, у галашэнне людзей мясцовых (а можа, тутэйшых), у якіх «Укралі Радзіму» (аднайменны верш) і якім *«Сярод чужынцаў Мне месца адведзена, як пілігрыму»*. Паэт душою адчувае, як рушацца звыклыя традыцыі *(«Усё, нам дарагое, Спалілі, як Хірасіму»)*. Ён зрокава бачыць, як гіне родная мова, якую мы забываем і тым самым забіваем уласныя душы, збываем Радзіму чужынцам, а самі становімся рабамі. Беларусы, як дурныя вераб'і, калоцяцца між сабою, губляюць пер'е, а каршукі, што добра ведаюць сваю справу, хапаюць іх па аднаму («Вераб'і»). Тым болей, што і грамадства падзялілася на антаганістычныя класы, якія ніколі не знойдуць агульных слоў і ідэалаў («У новых беларусаў»). І прыгажуні *«не бачаць нас, а толькі тых, хто з «Вольвамі», бо «хочуць быць багатымі і вольнымі»* («Ах, прыгажуні...»). Відаць, час такі. Некалі Залатая арда крала нашых белагаловых, цяпер жа яны самі гатовы пабегчы за любой ардой. Тым болей, што сышлі вялікія беларусы — гонар і сумленне нацыі («Раніца на Нарачы» прысвечана М.Танку). Хто ж вінаваты ў гэтым? Мы самі — гаворыць паэт. А што ж нас выратуе? — спытае дапытлівы чытач. Але наўрад ці пачуе адназначны адказ. Паэт не прарок, не прадказальнік, не вяшчун. Таму і ягоныя парады будуць адметныя. Як той Дастаеўскі, што спадзяваўся на прыгажосць, якая ўратуе свет, Карызна моліцца на «Песню» — універсальнейшую з'яву быцця чалавечага, што можа прывесці беларуса да гармоніі як з самім сабой, так і з роднай зямлёй і ўсім чалавецтвам. Бо песні ўсё пад сілу: адны з іх ажыўляюць змярцвелую душу, іншыя ж могуць заганяць у ГУЛАГ («Ёсць песні»). Зразумела, што гаворка можа ісці толькі пра першую, родную, дарагую, жывую. Але незвычайна магутную сілу яна можа ўвабраць выключна на роднай зямлі, зямлі сваіх продкаў — толькі ў такіх варунках матчына песня становіцца святой. Яна *«найсамая ціхая»*, але ўсе беларусы менавіта з ёю павыходзілі ў свет, і толькі яна, нягледзячы на сваю рахманасць, застаецца апошняй надзеяй народу не стаць рабом. Але сёння веюць іншыя *«вятры. З-за хмар не відаць Ні вясны, ні зары, І страшныя песні З чужой стараны Клююць нашы душы, нібы груганы...»* («О, родная песня!»). Страшэннае выпрабаванне і нацыі, і роднай песні. І на жаль, далёка не першае.

Ідэалам у гэтай велічнай справе для нашага сучасніка застаецца вялікі Янка Купала. Так, ужо ў кнізе «Музыка ў свеце» (1985) у «Трыпціху Янку Купалу» ён згадвае, як свецяць вочы матчыны, калі *«заспяваюць «Спадчыну» ці «Явар з калінаю» «Песняры» — ... Колькі ў душы зары!»* Звяртаючыся да вечна жывога песняра, ён сцвярджае: *«Іван Дамінікавіч, Вас не толькі чытаюць — Спяваюць і слухаюць Вас!»*

Шчаслівай у гэтым плане была і доля самога Уладзіміра Іванавіча, якога Беларусь і чытала, і, асабліва, слухала. Бадай што ніхто з беларускіх паэтаў-песеннікаў апошніх гадоў не можа пахваліцца такой папулярнасцю, як Карызна. На яго вершы пісалі музыку А.Багатыроў, Ю.Семяняка, І.Лучанок, Э.Зарыцкі, Л.Захлеўны, В.Іваноў і іншыя. У апошні час шэраг цудоўных мелодый на бацькоўскія творы стварыў сын паэта, Уладзімір Карызна-малодшы. Чым жа так зацікавіў кампазітараў Карызна-паэт, чаму амаль палова ўсіх яго твораў сталі песнямі? Сярод вялікай колькасці адказаў на гэтае пытанне звычайна губляецца, на наш погляд, самая галоўная прычына: Уладзімір Карызна найбольш яскрава ўвасобіў у нашых умовах класічную традыцыю беларускай песні, у якой спалучыліся векавыя народныя эстэтычныя вартасці і ўсё лепшае, створанае на працягу двух стагоддзяў прафесійнымі паэтамі, г.зн., на працягу ўсяго часу, колькі існуе новая беларуская літаратура, якая і пачалася з песні — славутай «Дзеванькі» Яна Баршчэўскага. А ўся філамацкая лірыка Яна Чачота ўяўляе сабой не што-небудзь іншае, як песню нязздзейсненага кахання, якую аўтар праспяваў сваёй Зосі Малеўскай. Песня стала вызначальнай у паэзіі Ул.Сыракомлі, Ф.Багушэвіча, Цёткі, К.Каганца з яго цыклам «Каханне Каганца» і, нарэшце, у творчасці вялікага Купалы яна — своеасаблівы код да разумення і спасціжэння яго сусвету, сімвал агульнасці нацыянальных ідэалаў і творчай індывідуальнасці кожнага. Як згаданых вышэй, так і крыху пазнейшых Коласа, Броўкі, Танка, Гілевіча.

Бадай што ніхто цяпер не будзе аспрэчваць і той факт, што ў адным радзе з песняй К.Буйло «Люблю» («Люблю мой край, старонку гэту»), «Спадчына» Янкі Купалы, «Мой родны кут» Якуба Коласа стаяць і песні

---

*Уладзімір Карызна. Хвіліна святла. — Мн. "Харвест", 2000.*

# На тым і на гэтым свеце

Літаратура заўсёды была люстэркам жыцця. Яна адбівала і па-мастацку асэнсоўвала тыя працэсы, якія адбываліся ў грамадстве. Сацыяльныя праблемы здаўна цікавілі пісьменнікаў, знаходзілі адлюстраванне ў мастацкіх творах. У дваццатым стагоддзі, багатым на рэвалюцыі і войны, літаратура стала не толькі аналізаваць ужо існуючыя праблемы, але і паспрабавала спрагназаваць магчымыя адмоўныя вынікі пэўных сацыяльных працэсаў. Шматлікія сацыяльныя крызісы і ўзнікненне таталітарных рэжымаў у розных краінах нарадзілі антыутопію, літаратуру-папярэджанне, якая засцерагала чалавека ад памылак, паказвала, як за самымі прывабнымі словамі можа хавацца неверагодны татальны прыгнёт і сацыяльная несправядлівасць. Не засталася ўбаку і беларуская літаратура. Антыутопія ўвайшла ў яе ў другой палове васьмідзесятых гадоў дваццатага стагоддзя. Гэта было звязана з працэсамі перабудовы грамадства, з асэнсаваннем сапраўднай сутнасці сацыяльнага ладу, існаваўшага ў нашай краіне, ацэнкай перспектыў далейшага развіцця.

Гаворачы пра беларускую антыутопію, нельга абмінуць аповесць Янкі Сіпакова «Блуканне па іншасвеце». Гэты твор вылучаецца з шэрагу іншых ужо тым, што аб'ядноўвае адразу некалькі сацыяльных мадэляў, апісвае некалькі заганных шляхоў, па любым з якіх можа пайсці і нашае грамадства. Пісьменнік карыстаецца прыёмам, які ўжо добра вядомы беларускай літаратуры. Герой трапляе ў іншасвет, свет паралельны нашаму, які жыве па сваіх уласных законах, але няўлоўна нагадвае нашае жыццё, судакранаецца з ім. Дастаткова прыгадаць паэму «Тарас на Парнасе», аповесць Вацлава Ластоўскага «Лабірынты», «Ладдзю роспачы» Уладзіміра Караткевіча. Герой, паблукаўшы па іншасвеце, лепш пачынае разумець той свет, у якім жыве. Невыпадкова менавіта падчас падарожжа адбываецца сталенне героя аповесці Я.Сіпакова.

Радзім Яснавец невядомым чынам трапляе ў паралельны свет. Блукаючы па іншасвеце, ён праходзіць праз некалькі краін, у якіх па той ці іншай прычыне жыццё стала амаль немагчымым або ператварылася ў тэатр абсурду. І першым месцам, у якое ён трапляе, становіцца зямля, спустошаная чалавекам: «Разглядаў з вышыні зямлю, і яму рабілася страшна, куды ён апускаецца: зямлі, той зямлі, якая вабіць, якая цвіце і буяе, шчыра кажучы, не было, а пад ім невыразна шарэла нейкая голая непрытульная пустыня. І як ён ні ўглядаўся, і куды ні кідаў свой позірк, — вочы нідзе не маглі зачапіцца хоць за якое дрэва, за якую хату, сцежку, ужо не кажучы пра што-небудзь жывое. Праўда, калі пустыня пабліжэла, Радзім пачаў распазнаваць на ёй былыя, даўно перасохлыя рэчышчы, руіны вёсак і гарадоў, разараныя калісьці прамавугольнікі, дзялянкі, лапіны палёў і сенажацяў».

Зямля, калісьці жывая і прыгожая, ператварылася ў мёртвую пустку. Толькі высахлыя рэчышчы рэк і ручаёў, руіны гарадоў і вёсак нагадваюць, што на гэтай мёртвай зямлі калісьці бруіла жыццё. Герой, думаючы пра прычыны гэтай катастрофы, згадвае пра вайну, і невыпадкова: нават калі вайны і не было, усё роўна зямлю забілі. Пісьменнік падкрэслівае абсалютную безжыццёвасць гэтых мясцін, гаворачы, што і гукаў не было ў гэтай мёртвай прасторы.

Але не вайна забіла жыццё, а гаспадарчая дзейнасць чалавека. Людзі, каб дабіцца вялікіх ураджаяў, атрымаць сінтэтычны матэрыял для гаспадарчых патрэб, шырока выкарыстоўвалі хімію, не паклапаціўшыся прадугледзець магчымыя наступствы. Таксічныя адходы вытворчасці выліваліся ў рэкі і азёры, выкідваліся ў паветра. Вельмі хутка гэта прывяло да экалагічнай катастрофы, у выніку якой усё жывое загінула, а людзі вымушаны былі перабрацца пад купалы або ў падземныя бункеры. Людзі спрабавалі прадухіліць катастрофу, але не тым, што пачалі выкарыстоўваць новыя тэхналогіі, якія ўлічвалі магчымае ўздзеянне на прыроду, не распрацоўвалі праектаў ачысткі ўжо забруджаных тэрыторый. Замест таго, каб разам шукаць выйсця з небяспечнага становішча, людзі пачалі ваяваць паміж сабой. Прасцей было абраць нейкага і зрабіць яго вінаватым ва ўсім, што адбылося. Варожасць да хімікаў у Зэміі была настолькі вялікая, што аднаго падручніка па хіміі, які быў у Радзіма, было дастаткова для таго, каб яго пасадзілі ў турму. Людзі збіраліся ля вязніцы, каб падзівіцца на «злачынцу», нібы на драпежнага звера ў заапарку.

Хімікі, якія адасобіліся ад зэмаў і стварылі сваю дзяржаву, таксама пакутуюць ад наступстваў экалагічнай катастрофы. Але яны таксама знайшлі сабе ворага, якога можна абвінаваціць ва ўсім. Наколькі зэмы ненавідзяць талямаляў, настолькі і талямалі ненавідзяць зэмаў. Ва ўсіх сваіх бедах яны вінавацяць зэмаў, не жадаючы шукаць іншых прычын. Нават немагчымасць рашыць усе неабходныя задачы пры дапамозе хіміі яны гатовы прыпісаць зэмам, а не абмежаваным магчымасцям сваёй навукі:

« — У мяне ёсць да вас пытанне. Вось вы ўсё ведаеце. У вас такая глыбокая навука. Скажыце, навошта вам мае яблыні?

— Як гэта — навошта? — разгубіўся прафесар. — Каб аднавіць зямлю. Каб выйсці, урэшце, на паверхню.

— А чаму вы не пабудуеце, не сканструюеце яблыню? Самі?

— Не атрымліваецца, — шчыра прызнаўся прафесар. — Быццам зачаравана, — і крыху падумаўшы дадаў: — Гэта зэмы...»

Варожасць стала для людзей нечым накшталт рэлігіі, каб абвінаваціць ворага ва ўсіх няўдачах і няшчасцях, не трэба ніякіх доказаў. Дастаткова самога факта няўдачы. Людзі замкнёныя ў сваёй варожасці, яны жывуць у прывіднай рэальнасці, створанай іх нянавісцю. Варожасць не толькі раз'яднала людзей,але паралізавала іх творчыя здольнасці. Дзеля чаго шукаць новыя падыходы для вырашэння існуючых праблем, калі і так вядома адзіная прычына ўсіх няўдач: шкодніцтва ворагаў.

Наступнай краінай, якую ўбачыў Радзім у сваім падарожжы, стаў Жалезны Хаос —

У.Карызны «Беларусь мая сінявокая», «Люблю цябе, Белая Русь». Бо ніхто з сучасных паэтаў-песеннікаў, акрамя бадай што Ніла Гілевіча, не ганарыцца так тым, што ён беларус і што яму выпала такое шчасце нарадзіцца і спазнаваць жыццё менавіта тут, сярод гэтых бяскрайніх і непаўторных жытнёвых палёў і лясоў, азёр, крынічанькі ў лузе, жаўрука ў небе. Амаль у кожным сваім творы ён будзе прызнавацца ў любові *«да хатак ля гаю", «сініх азёр і палёў залатых», «вясёлкі над ракою», «бярозкі дзяцінства».* Ціхмяная на першы погляд песня У. Карызны надзвычай адпавядае славутай сваёй рахманасцю беларускай душы. Асабліва ўдаюцца паэту пейзажныя замалёўкі. Падчас нават здзіўляешся, адкуль аўтар знаходзіць незвычайныя параўнанні, эпітэты, метафары. Ды і некаторыя традыцыйныя, здавалася б, ужо ўстойлівыя і крыху заезджаныя тропы пад рукой майстра атрымліваюць новае жыццё і зіхаценне. Каб зразумець зацікаўленасць кампазітараў і слухачоў да паэзіі У. Карызны, лічым мэтазгодным спыніцца крыху на некаторых моўных сродках яго песеннай творчасці. Абавязковай умовай, што папярэднічае вызначэнню творчай манеры паэта, з'яўляецца аналіз паэтычнага тэксту па яго сэнсавым і фармальным параметрах. Калі пад зместам разумець агульную ідэю твора, то форма, у якой ён рэалізуецца, павінна прыцягнуць увагу даследчыка-лінгвіста. Канкрэтны выбар і частае выкарыстанне найбольш «любімых» сродкаў і прыёмаў дазваляюць меркаваць аб накіраванасці паэта да пэўных моўных вырашэнняў вызначанай тэмы.

Нельга не заўважыць удалага выкарыстання аўтарам магчымасцяў алітэрацыі (паўтарэнне аднолькавых ці падобных зычных гукаў) і асананса (паўтарэнне аднолькавых ці падобных галосных гукаў: С*л*авай с*л*аўная ты бы*л***нн**аю, За*л*атою сваёй красой. («Беларусь мая сінявокая»); К*а*лі в**я**сн*а* в**я**рт*а*е н*а*м ц**я**пло, Кр*а*су п*а*лёў і х*а*р*а*ство з*а*ры... («Прыходзяць дзяўчаты бярозкамі»).

Гукапіс добра ўлаўліваецца слыхам і адыгрывае вялікую ролю ва ўздзеянні на слухача. Гэта з'ява глыбокая, асацыятыўная, якую звязваюць і з музычнымі заканамернасцямі, хаця, па сутнасці, у ёй дзейнічаюць фанетычныя законы.

Калі гаварыць не проста пра вершаваны радок, а пра песенны, то паміж мелодыяй і інтанацыяй, музыкай і мовай існуе непарыўная сувязь. Кампазітар і паэт па-свойму адчуваюць гукапіс і інтанацыю, якая з'яўляецца мелодыкай фразы, яе «музыкай». Для паэзіі гучанне і сэнс слова — паняцці непарыўныя, а для музыкі — яе адзіная аснова. Кампазітар адчувае музыку не на кожны вершаваны твор. Калі ўзнікае гармонія пры стварэнні твора, тады песня, так бы мовіць, удаецца. Вось і паэзія У. Карызны вельмі падабаецца кампазітарам. І не толькі таму, што яна лірычная, псіхалагічная, але яшчэ і таму, што мае своеасаблівы гукапіс, інструментоўку, пластычную інтанацыю сказа. Напрыклад, песня «Даўно ў той хаце не была» мае такія радкі:

*І ў сэрцы шчасце смутным болем:*
*Даўно ў той хаце не была...*

Падбор глухіх (**с, ш, ц, ч, х**) і санорных (**м, н, л, р**) садзейнічае стварэнню пэўнага эмацыянальнага малюнка. Дарэчы, пэўная тэматыка песень аб'ядноўвае і словы адпаведных тэматычных груп. Напрыклад, «Зямля мая» — *зямля, акіян, мора, планета, лясы, грыбы, арэхі, сады, азёры, рэкі.*

У творчасці паэта вялікае месца адводзіцца памяншальна-ласкальным суфіксам: *ночка, хвілінaчка, залацінaчка, бярозкі, краёчкам, ножкі, дарожкі, родненькі* і г.д.

Марфалагічныя сродкі стылістычна шматфункцыянальныя. Звычайна ў кантэкстах назоўнікі з'яўляюцца сродкам перадачы статыстычных з'яў рэчаіснасці:

*Ой,* **зямля** *мая, Тая самая, Заінелая на* **зары**, **Рэчка** *сонная,* **Сцежка** *санная, нібы з печы жар,* **снегіры** («Песня аб роднай зямлі»).

Гаворачы пра граматычныя сродкі, нельга не адзначыць, што важнае месца адводзіцца сінтаксічным. У. Карызна карыстаецца такой сінтаксічнай фігурай паэтычнай мовы, як інверсія — расстаноўка слоў або словазлучэнняў у вершаваным радку, якая парушае іх звычайны парадак: **Б'е** *ў скроні Гулка боль, Што і* **парой вясенняй** *Ракет чамусьці больш, а Птушак меней, меней.* («Давайце любоў берагчы»).

Мілагучнасць радка стварае сістэма моўных паўтораў. Найчасцей У. Карызна выкарыстоўвае паўторы назоўнікаў і дзеясловаў, чым дасягае стварэнне пэўных эмацыянальных настрояў: "**Беларусь** *мая сінявокая,* **Беларусь** *мая, родны край»* (аднайменная песня); *Сама дабрыня і* **краса** *майго* **краю Азёры, Краса** *майго* **краю — Азёры**. («Азёры дабрыні»). **Была, была, была** *пара* («Снежнае святло»).

Найбольшую цікавасць з усіх моўных сродкаў уяўляюць лексічныя, таму што асноўнай адзінкай мовы з'яўляецца лексема (слова). Кожны творца па-свойму падыходзіць да выкарыстання слоў у радку, раскрывае новыя сэнсавыя магчымасці, спалучае іх, выклікаючы як звычайныя, так і незвычайныя асацыяцыі. Прычым заўважана, што, чым болей сэнсавая дыстанцыя паміж словамі ў спалучэнні, тым большае эмацыянальнае ўздзеянне яны аказваюць на слухача: *шчасцем захмелена, загуляе... ручаёк.* У паэтычным радку спалучаюцца нейтральныя словы, але пэўнае іх спалучэнне пачынае несці эмацыянальна-экспрэсіўную нагрузку: *палі залатыя, жаўруковая далячынь, рэчка сонная, васільковае ціхае полымя.*

У аналізуемых песнях сустрэўся такі стылістычны прыём, як сінестэзія (від тропа, заснаваны на своеасаблівым спалучэнні розных асацыяцый): *вецер сіні, тайны сінія* і г.д.

Пры пашырэнні семантычнага аб'ёму слова за кошт узнікнення ў яго пераносных значэнняў, заснаваных на падабенстве, мы гаворым пра метафару. Гэты сродак вельмі пашыраны ў У. Карызны. Выдзелім паэтычныя *(зелені свежасць, цяпло рук, зара залаціцца, песня хадзіла)* і вялікую колькасць аўтарскіх метафар *(блакіт жывых крыніц, Твайго бору тайны сінія, Серабро азёр тваіх* і г.д.).

На аснове метафары створана адухаўленне і персаніфікацыя. Перанясенне ўласцівасцей жывых істот на прадметы, абстрактныя паняцці, з'явы прыроды і рэчы носіць назву адухаўленне, а наданне чалавечых уласцівасцей рэчам, прадметам, з'явам прыроды — персаніфікацыя. Чалавек заўсёды звяртаўся да прыроды, як да жывой істоты. Паэт, каб выклікаць пэўныя эмоцыі і перадаць свае, адухаўляе прыроду. Часта назіраецца зварот да месяца, зор, сонца; да зімовага і веснавога пейзажаў; да ручая, ветру, хмар; да бору, дрэў: **Золак** *яшчэ* **не ідзе** — *пастой* («Вішнямі белымі»); ... /**дыхнула неба** *цёплай ласкай* («Буслы»); ... *Ці* **сонца рассыпае** *летні жар* («Шчасце маё»).

Для песеннай паэзіі У. Карызны характэрна і ўмоўнае абазначэнне сутнасці якой-небудзь з'явы, паняцця пэўным прадметным або слоўна-вобразным знакам. Так, да моўных сродкаў паэтычнай мовы можна аднесці сімвал. У паэта ў песні «Гэй, мой конік» сімвалам руху і вернай дружбы з'яўляецца казачны конік, які ў зіхатлівых промнях кахання паветраным шляхам нясецца, звініць падковамі і ляціць да чароўнай красы-дзяўчыны: *Ты ляці-ляці ў прастор Да красы-дзяўчыны, Пераскоквай цёмны бор, Рэкі і даліны.*

Вялікае месца займаюць у песенных радках У. Карызны эпітэты. Гэты вобразна-выяўленчы сродак перадае атмасферу лірычнасці, закаханасці ў родныя мясціны, прыроду свайго краю. Найчасцей — гэта агульнамоўныя эпітэты: *неба чыстае і глыбокае, густых садах, залатою красой, палёў залатых, сініх азёр, песня родная, цёплая, светлая* і інш. Песня «Якая ты цудоўная, Радзіма» змяшчае аўтарскі — *вецер сіні.*

Самым пашыраным тропам з'яўляецца параўнанне. Гэты сродак дазваляе сцісла і асацыятыўна выказаць свае адносіны да рэчаіснасці, шляхам супастаўлення двух прадметных паняццяў паказаць іх спецыфічнасць, адметнасць. Многія параўнанні У. Карызны разгорнутыя, скіраваныя на аўтарскія асацыяцыі роднай прыроды, замілаванне сваёй Радзімай.

*Цёплая,* **нібы вясны світанне,**
*Светлая,* **як вераснёвы сум,**
*Шчырая,* **як праўда майго краю...**
(«Песня родная»).

*Прыходзяць дзяўчаты* **бярозкамі** (Аднайменная песня).

Так, разгляд толькі некаторых моўных сродкаў у песенных радках У. Карызны дазваляе сцвярджаць аб вялікім таленце паэта, што так прыцягвае да сябе кампазітараў. Фанетычныя, лексічныя, граматычныя сродкі скіраваны абудзіць душы слухачоў, выклікаць эмоцыі, тым самым сфарміраваць зацікаўленае ўспрыманне песні.

Вялікае шчасце, лічыць паэт, мець песню, што *«светла калісьці на ногі стаўляла цябе ў салаўінай калысцы».*

Такую, як песня матчына, што *«так дзіўна Душу з нябёсамі»* яднае («Салаўіная калыска»). У. Карызна нагадвае загадкавага чараўніка з «Лясной казкі», што змайстраваў сабе жалейку, якой заваражыў увесь лес, а потым, як той Пігмаліён, стварыў са святла красуню. Беларускі паэт стварае ў сваіх мроях-песнях класічную беларусачку прыгажуню, невыпадкова такой паэтычнай становіцца яго любоўная лірыка. Усе яго гераіні амбівалентныя — яны адначасова і рэальныя дзяўчаты, і магічныя істоты, што могуць чараваць-варажыць словамі, замовамі, *«месячыкамі веснавых вачэй і маладзічкамі вуснаў»*, нават белай ночкай, світаннем:

*Ласка шчырых слоў*
*дорыць мне святло.*
*Сэрца маладзее.*
*Гэтак першы гром будзіць ціхі дол,*
*Траўка зелянее.* («Зорачка мая»).

Невыпадкова аўтар неаднойчы заяўляе, што *«песня родная — маё каханне».* Як некалі юны Максім Багдановіч, ён абагаўляе жанчыну. Жанчыну ва ўсіх яе іпастасях. Жаночая ласка, увасобленая ў нясмелай дзявочай, гарачай каханкі, спагаднай матчынай — гэта непераўзыдзеная казка жыцця («Жаночая ласка»). Беларусачка, як і сама наша краіна, выключна прыгожая, лагодная. А маці заўсёды існуе для сыночка, няхай на тым месцы, дзе некалі была калыска, засталася толькі маміна вішня (аднайменны твор).

Відаць, адметнасць творчай манеры У. Карызны і ў тым, што яго крэда — *«нельга мучыць песню алгебрай»* («Паедзем»). Песня павінна з'яўляцца сама, як споведзь душы, як захапленне сусветам. І няхай на гэтым свеце ўсё адыходзіць: і лета, і восень, і сама зіма, трэба цаніць кожнае імгненне існавання, быцця з яго цудоўнымі краявідамі, каханнем, любоўю матчынай. Хай жа доўжыцца да скону веку **хвіліна святла**. Агульнай песняй гучаць усе творы паэта У. Карызны — і пра боль вайны, і трывогі далёкага В'етнама, але гэта строфы з адзінай Песні, што нясе збаўленне зямлі. Песні, што нясе глыток збаўлення ў роспачныя хвіліны чалавечага жыцця.

**Ірына БАРОЎСКАЯ**

---

зямля абясточаных робатаў. Жыццё пакінула Жалезны Хаос у выніку вайны паміж робатамі і іх стваральнікамі, якія не згадзіліся з самастойнасцю машын. Праблема супрацьстаяння чалавека і створанай ім разумнай істоты або машыны не новая ў навукова-фантастычнай літаратуры. Не адзін пісьменнік апісаў сітуацыю, у якой машыны паўставалі супраць сваіх стваральнікаў. Але ў Я.Сіпакова гэта не адзіны канфлікт, а адзін з многіх канфліктаў недасканалага свету. Як ваявалі Зэмія і Талямалія, так ваявалі Дурбудзія і Жалезны Хаос. Толькі прычыны канфліктаў былі розныя. Дурбудзія адмовілася прызнаць разумнасць робатаў, іх правы на свабоду і самастойнасць, бо не пажадала адмовіцца ад іх працы. Мець рабоў, якія старанна працуюць і не маюць ніякіх правоў, з'яўляючыся ўласнасцю гаспадара, было для дурбудаў больш выгадна. Пісьменнік не прымае і бок робатаў, хаця і сімпатызуе ім. Барацьба за вызваленне не можа не выклікаць спачування, але не тады, калі яна суправаджаецца татальным вынішчэннем праціўніка. Невыпадкова пісьменнік згадвае, што пад робатамі на Жалезным Хаосе адны косці, падкрэслівае, што робат з радасцю і насалодай прыгадвае, як ён і яго таварышы забівалі ворагаў. Нават той чалавек, які ўключыць энергію на Жалезным Хаосе, не будзе пакінуты жывым. Варожасць да людзей у робатаў занадта вялікая, яна перавышае нават удзячнасць за вернутае жыццё. Такія адносіны да людзей на Жалезным Хаосе нагадваюць адносіны да хімікаў у Зэміі, збліжае гэтыя краіны, паказваючы, што, нягледзячы на розныя прычыны, сутнасць вайны не змяняецца. Любая вайна нараджае нянавісць, але і нянавісць, нарадзіўшыся, пачынае падтрымліваць вайну. Пакуль варожасць не пераадолена, вайна не зменіцца мірам, яна будзе ўспыхваць зноў і зноў. І не мае перспектыў тое грамадства, якое не здолее пераступіць праз нянавісць да прымірэння.

Чым далей працягваецца падарожжа Радзіма па іншасвеце, тым больш абсурдныя краіны ён бачыць.

Дурбудзія, у якую Радзім трапляе, выбавіўшыся з Жалезнага Хаосу, апраўдвае дадзеную аўтарам назву, якая пераклікаецца са словазлучэннем «дурная будова». Жыццё ў краіне і сапраўды пабудавана па-дурному, нібы яго планаваў нейкі вар'ят. Нават людзі ў гэтай краіне лічаць за вялікую пашану і гонар, калі іх клічуць дурнямі і ідыётамі, і няма для іх большай абразы, чым палічыць іх разумнымі. Розум для дурбудаў не проста загана — гэта злачынства, за якое караюць.

Адсурд і бязглуздзіца сустракаюцца ў Дурбудзіі на кожным кроку. Чалавек, які стаіць на месцы, сур'ёзна сцвярджае, што ён ідзе, прычым абураецца, што яго затрымліваюць размовай, перашкаджаюць «ісці». Людзі душацца, каб «ехаць» у аўтобусе, які не проста стаіць на адным месцы, але нават і колаў не мае. Свежы, толькі што спечаны хлеб закопваюць у зямлю, між тым як людзі ў краіне недаядаюць. Працу замяняе стаянне ў чарзе, якая не вядзе нікуды. Самі дурбуды не бачаць у гэтым нічога дзіўнага, яны нават абураюцца, калі нехта гаворыць ім пра абсурднасць такога ладу жыцця.

Але такі лад — вынік пэўнай дзяржаўнай палітыкі. Разваліўшы краіну, кіраўніцтва палічыла за лепшае замяніць нармальнае жыццё на гэты гратэск, у якім і хаос у гаспадарцы, суцэльная галеча ўспрымаюцца як адзіная магчымая норма жыцця. Нармальнае ўспрыманне рэчаіснасці ў людзей падмяніў сацыяльны міф. Праца падмяняецца ўяўленнем працы, замест хлеба людзям прапануюць відовішчы. Кіраўніцтва свядома падтрымлівае такі стан, бо ён не дае людзям магчымасці задумацца над тым, як яны жывуць і хто павінен адказваць за развал краіны. Гэтае прывіднае жыццё зацягвае настолькі, што нават апляваць сябе ўчарашняга для дурбудаў — нармальная з'ява, само жыццё настолькі прывіднае, выдуманае, што, змяніўшы свае погляды, чалавек лічыць, што і сам ён стаў абсалютна іншым, які не мае нічога агульнага з тым, якім ён быў яшчэ ўчора.

Дурбудзія — краіна сацыяльнага міфа. Але гэта і наша жыццё. Аўтар уводзіць некаторыя рэаліі, якія непасрэдна дасылаюць чытача да нашай рэчаіснасці. Гэта асобы прэзідэнтаў: пляшывага і калматага, якія падобныя да Гарбачова і Ельцына нават знешне. Невыпадкова на лобе ў пляшывага прыкметная адмеціна. Сітуацыя ў краіне — гэта сітуацыя пасля развалу СССР. Тут і перабудова, беспрацоўе, чэргі, мітынгі, якія нічога не вырашаюць, нават дзяржаўны пераварот, які прывёў калматага да ўлады, вельмі нагадвае падзеі жніўня 1991 г. Хада на месцы, «язда» ў аўтобусе, які нікуды не едзе — гэта метафары, якія апісваюць бяздзейнасць, якую ў нас часта выдаюць за бурную дзейнасць, а ў аповесці яны проста пераўтварыліся ў жыццёвыя рэаліі. Такая ж ажыццёўленая ўмоўнасць — чалавек, які аплёўвае ўласны партрэт, бо змяніў свае погляды на жыццё. Колькі было ў нашай гісторыі прыкладаў, калі людзі пад прымусам або шукаючы сабе нейкіх выгод адмаўляліся ад сваіх поглядаў, думак, знаёмых, нават ад уласных бацькоў. Я.Сіпакоў не столькі прыдумвае фантастычныя рэаліі, колькі пераўтварае ў іх метафары, выпрацаваныя нашым жыццём.

Наступная краіна, якую апісвае Я.Сіпакоў, — Другое Паўшар'е, аддзеленае ад Дурбудзіі безданню, праз якую перакінуты вераўчаны мост. Лад на Другім Паўшар'і яшчэ больш абсурдны, чым у Дурбудзіі. Калі Дурбудзія ідзе супраць законаў розуму, то на Другім Паўшар'і пайшлі супраць прыроды чалавека. Запраўляюць на Другім Паўшар'і жанчыны, але гэта не краіна амазонак са старажытных міфаў. Прагнучы зраўняцца з мужчынамі, жанчыны паступова адмовіліся і ад сваёй жаночай прыроды. Яны не проста адабралі ў мужчын уладу, але амаль цалкам памяняліся з імі месцамі. Нават карміць немаўля тут павінны мужчыны. І сам знешні воблік жыхароў гэтай краіны нагадвае пра гэтую падмену:

«— А ведаеш, якія мужчыны тут у пашане? Тыя, у каго самыя вялікія грудзі і тоўстыя седакі! А жанчыны — наадварот. Калі плоская-плоская, як дошка, — тады яна каралева прыгажосці...»

Дзеля чаго пісьменніку спатрэбілася прыдумваць такую краіну? Толькі дзеля займальнасці, дзеля дэманстрацыі магчымасцяў сваёй фантазіі? Не. Тое, што адбылося на Другім Паўшар'і, мае правобразы ў нашым жыцці. Ваяўнічая эмансіпацыя з руху ў абарону правоў жанчын можа лёгка пераўтварыцца ў імкненне адмовіцца ад сваёй жаночай прыроды. Мода, якая прапагандуе ў якасці ідэалу жаноцкай прыгажосці высокіх хударлявых жанчын з маленькімі грудзямі, вузкімі клубамі толькі садзейнічае гэтаму, бо падобны целасклад не вельмі характэрны для жанчыны, асноўная біялагічная функцыя якой — нарадзіць дзіця. Адмаўленне ад сваёй прыроды — гэта ненармальны стан для чалавека. Невыпадкова на Другім Паўшар'і перастаюць нараджацца дзеці. А народ, які не мае дзяцей, не мае і будучыні.

Жанчыны Другога Паўшар'я хаця б падсвядома адчуваюць ненатуральнасць такога становішча. Таму самым вялікім ворагам для іх, які выклікае найвялікшую нянавісць і пагарду, становяцца тыя жанчыны, якія не пажадалі адмовіцца ад сваёй прыроды на карысць існуючых ідэалаў. Такім чынам, зайшоўшы настолькі далёка па шляху эмансіпацыі, жанчыны не толькі не атрымалі жаданай свабоды, але апынуліся ў палоне ўласнаручна створаных грамадскіх ідэалаў, якія пазбавілі іх свабоды выбару.

Абсурдную сітуацыю на Другім Паўшар'і Я.Сіпакоў выкарыстаў і для таго, каб даследаваць праблему канфармізму. Оя, надзейная спадарожніца Радзіма, нечакана атрымлівае над ім уладу проста таму, што ён мужчына, а яна жанчына. Як ёй паступіць? Прыняць звычаі Другога Паўшар'я ці адмовіцца падпарадкавацца ім, разумеючы, што гэта скончыцца для яе зняволеннем? З аднаго боку страх перад пакараннем, з другога — магчымасць добра ўладкавацца ў жыцці. Усё гэта садзейнічае канфармізму, бо прыняць існуючы лад прасцей, чым рызыкаваць, спрабуючы змяніць яго. Канфармізм нараджае ў душы чалавека практыцызм, які мяжуе з цынізмам.

Пра гэта нагадвае і апісанне краіны За — апошняй краіны іншасвету, якую наведаў Радзім. Гэта другая Дурбудзія, краіна, апанаваная абсурдам, са сваімі патлатымі і пляшывымі. Але гэта ўжо завяршаючы этап развіцця сістэмы, калі дурнота пераходзіць у вар'яцтва. Нездарма ўсе разумныя людзі краіны За апынуліся ў вар'яцкім доме, нібы схаваўшыся за яго высокімі сценамі ад вар'яцтва жыцця на волі.

Зэмія, Талямалія, Жалезны Хаос, Дурбудзія, Другое Паўшар'е, Краіна За — такія розныя. Кожная з іх сваім шляхам прыйшла да крызісу, які паставіў яе на мяжу знікнення.

Аповесць «Блуканне па іншасвеце» з'явілася ў сярэдзіне дзевяностых гадоў, але не страціла сваёй актуальнасці і сёння.

**Галіна ВАРОНАВА**

## «След ваўкалака»

**Адчуваць сябе па-сапраўднаму беларусам — не толькі шанаваць родную мову, карыстацца ёю, а і ведаць вялікі шлях, пройдзены нашымі папярэднікамі, як і ведаць жыццё тых, хто жыў дзеля Бацькаўшчыны і ў імя Бацькаўшчыны. У гэтым сэнсе цяжка пераацаніць значэнне мастацкай літаратуры гістарычнай тэматыкі. Калі даследчыцкія працы, прытрымліваючыся фактаў, дакументаў, праўдзіва ўзнаўляюць тое, што было, дык творы мастацкія, калі аўтары іх**




**валодаюць вялікім талентам, творчай інтуіцыяй, дазваляюць уявіць і тое, што магло б быць, хоць яно адпаведнымі дакументамі і не падмацавана. У гэтым сэнсе шмат даюць раманы Леаніда Дайнекі «Меч князя Вячкі», «След ваўкалака» і «Жалезныя жалуды». Першы з іх, як вядома, быў адзначаны Літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа, а за першы і другі Леанід Мартынавіч атрымаў у 1990 годзе Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Кастуся Каліноўскага. І вельмі добра, што выдавецтва «Юнацтва» ўзялося за перавыданне гэтых твораў. Спачатку ўбачыў свет «Меч князя Вячкі». Цяпер выйшаў «След ваўкалака», а ў планах і перавыданне «Жалезных жалудоў». Адразу хочацца засведчыць, што ў «Юнацтве» належным чынам паставіліся да гэтай справы. Чытач можа не толькі перачытаць любімыя творы (а новае пакаленне, безумоўна, адкрые іх для сябе ўпершыню), а і атрымаць эстэтычнае задавальненне ад афармлення і паліграфічнага выканання.**

**А гэта яшчэ больш падахвоціць хутчэй пазнаёміцца з творамі, у дадзеным выпадку з раманам «След ваўкалака», які расказвае пра легендарную постаць у беларускай гісторыі — князя Усяслава Брачыслававіча, які вядомы як Чарадзей. Не абдзелены ён увагі і невядомым аўтарам «Слова пра паход Ігаравы»:**

*Усяслаў-князь людзям*
*чыніў суды,*
*радзіў княствам гарады,*
*а сам уночы ваўком рыскаў,*
*з Кіева паспяваў да пеўняў*
*да Тмутараканя,*
*Хорсу вялікаму шлях*
*праціна́ў*

Пер.Р.БАРАДУЛІНА

**Паводле летапісаў, калі маці нарадзіла Усяслава, у яго на галаве была «язвена» — магчыма, вялікі радзімы знак, можа, якая рана. Калі Усяслаў падрос, ён мог быццам бы ператварацца ў ваўка, тура, сокала. Ва ўсходніх славян з'явілася быліны пра мудрага Волха Усяслававіча. Правобразам яго і стаў Усяслаў Брачыслававіч. Чарадзей карыстаўся вялікай вядомасцю ў сучаснікаў. Бацька і сын —Брачыслаў Ізяслававіч і Усяслаў Брачыслававіч — кіравалі полацкай дзяржавай цэлае стагоддзе. З 1001 года, калі на трон узышоў князь Брачыслаў, да 1101-га, калі не стала князя Усяслава Чарадзея. А правіў ён, як вядома, не толькі полацкай зямлёй, а і нават Кіевам.**

**Уласна з гэтага моманту і пачынаецца раман «След Ваўкалака». Правільней з таго, калі Усяслаў з сынам знаходзіцца ў Кіеве ў так званым порубе. Вязяну размясцілі ў глыбокай сырой яме князя Яраслававіча, перад гэтым падмануўшы Усяслава Брачыслававіча. Палон працягваўся 14 месяцаў і 5 дзён. Было пра што падумаць Чарадзею, аб многім разважаў ён са сваімі сынамі і ўсё больш пераконваўся, што не падманам, не хцівасцю можна захаваць уладу, а даверам народа. Ён і быў вызвалены кіяўлянамі, яны ж і пасадзілі яго на кіеўскі трон. У рамане шмат яркіх, запамінальных эпізодаў — не сакрэт, як хораша ўмее пісаць Л.Дайнека. Ён і надзіва глыбокі псіхолаг, і па-філасофску разважлівы аналітык, а таксама майстра сюжэта, але не такога, калі займальнасць існуе дзеля займальнасці. Напружанасць дзеяння дапамагае пісьменніку лепш спасцігнуць паводзіны тых ці іншых персанажаў у надзвычайных сітуацыях, бо менавіта ў такіх выпадках кожны паўстае тым, кім ён у сапраўднасці. Але прываблваюць у рамане і тыя мясціны, дзе, здавалася б, нічога незвычайнага няма. Для прыкладу, калі Усяслаў Брачыслававіч сустракаецца з тым, хто памяняў сваю веру, а ён жа некалі настаўляў яго. У словах Чарадзея не толькі асуджэнне. Ён не прымае здраду: «Дроў, напэўна, вялікі князь кіеўскі не шкадуе для манастыра вашага і хлеба з мясам не шкадуе. Я думаў, што ты, як нябесная птушка, адной расой харчуешся. А ўсё проста, як яблык. На старасці ты захацеў пажыць сытым. Я разумею цябе, бо сам не раз быў галодны. Я разумею твой страўнік, але душу тваю ніколі. Ніколі». «След ваўкалака» — адзін з лепшых беларускіх раманаў на гістарычную тэматыку.**

**Міхась ГЕНЬКА.**

ПАЭЗІЯ

Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ



# «І з'ява гэта — родны кут...»

## Жальба

*Ашчаперыла за шыю,*
*Хоць якая гэта шыя? —*
*Старажытнейшая вые,*
*Па якой вяроўка вые...*
*Ты не плач па мне, не плач,*
*Сама бачыш — я не плачу,*
*Адкармлюся я на дачы,*
*Ёсць на свеце многа дач...*
*Адагнаў жа я хваробу,*
*На той свет яе адправіў,*
*Як любіцельку худобы...*
*Справы зараз мы папраўім.*
*Шыі дзве перапляліся —*
*Дзве вяроўчыны ў адной.*
*Анікому не прысніся*
*Ява з гэткаю жальбой...*

●

*Колькі можна ўзвышацца душой,*
*Вымывацца расінкай?*
*У катарсіса нават збой,*
*Бы заела пласцінка...*
*Анікому твая чысціня*
*Сёння як непатрэбна,*
*У высокае быццам гульня*
*Душ святых і ганебных.*
*Новы святасці перадзел —*
*Катавальні растуць і храмы.*
*Дзве апраткі век новы надзеў —*
*Зноў камедыю з драмай.*

●

*Што жахацца ды хрысціцца,*
*Бо не так, не тое ў нас?..*
*Дайце дурням аддурніцца —*
*І разумных прыйдзе час.*

*Дайце ім свае дурноты*
*Перад светам паказаць —*
*Будзе менш тады работы*
*Для разумных... Не ў слязах,*
*Не ў шуканні мройных ісцін,*
*Дабраты ды пекнаты —*
*У чаканні наша выйсце,*
*У чаканні яснаты.*

*Што мы, хто мы ў свеце цэлым —*
*Бога спеў ці грома стрэл,*
*Белы край у свеце белым*
*Ці для чорных спраў падбел?..*

## Пакутнае

Памяці Аркадзя КУЛЯШОВА

*Не лепшыя сімвалы мы выбіралі*
*І з імі хадзілі на працу, на бой,*
*Але ж не за іх на вайне паміралі,*
*Яны — толькі знакі праявы зямной.*

*Што іншаму часу іначшыя меркі?!*
*Дзень кожны жывы*
*толькі ўласнай парой.*
*Білет камсамольскі і праўда паперка,*
*Ды сам камсамолец — герой жа, герой!*

*Якога ж быць трэба маленькага росту,*
*Якую душу чалавечую мець,*
*Кружыць каб над вершам*
*з нікчэмнаю помстай —*
*Прасіць і для верша пакутную смерць?!*

●

*На плоце збанкі, гаршкі,*
*Пад плотам п'яныя бомжы.*
*Хто духу багацце множыць,*
*Запісаны ў ранг — вяршкі!*

*Між імі ў працы народ —*
*Цярпячы, вісячы, стаячы...*
*Не любіць адно ён — ляжачых:*
*Яны — ненадзейны аплот.*

*Гародзяць сярэднія плот*
*Уладны і безуладны,*
*І трошачкі прышпарады,*
*Бо з імі — ніякіх згрызот.*

*Відовішч пабольш і хлеба,*
*Само сабою, піва —*
*І стане аўчынка небам:*
*Купайся ў шчасці, братва!*

●

*Птушкі не ляцяць у эміграцыю,*
*На пабыўку хіба што ляцяць —*
*Холад перабыць... І маюць рацыю:*
*Тут іх нараджаецца дзіця.*
*Тут яны і з пер'ем і з карэннямі*
*Вечна паміж небам і зямлёй!*
*На пабыўцы — ані гуку дрэннага*
*Пра той кут, што з нараджэння свой.*
*У людзей жа ўсюды недарэчнасці,*
*На сумленні гэтулькі ў іх плям...*
*У каго з нас болей чалавечнасці?*
*Не, не з птушкамі спрачацца нам.*

## Самаразгляд

*Людзі кажуць: акрыяю,*
*Падлячуся між травы*
*І пайду ізноў па краю*
*На зламанне галавы...*
*Прызнаюся, што прадбачу*
*Не заўсёды ўласны лёс,*
*Што на вершыкі ішачу,*
*Як той конік — на авёс.*
*Часта слухаў я не зухаў,*
*Згодны з многімі, але*
*Прыпыняць не стану руху,*
*Тым жа буду і далей.*
*Мне патрэбна дзеўка Муза,*
*Каб любоў і плоць гасіць...*
*Як вайна таму французу,*
*Злядзянеў што на Русі.*
*Я ж не сеў не ў свае сані.*
*Дык чаго вылазіць з іх?*
*Як што будзе, скажа ранне,*
*Мой на адно вуха слых.*
*Шчыплю траўку па-сабачы.*
*Лёс мудроны, ты пацеш:*
*Хоць адзін па мне заплача*
*Ці прастогне верш найперш?..*

## У застоллі з «Экзюперы»

*Штосьці душа мітусіцца, гарыць,*
*Прадчувае бяссонную ночку...*
*Пачытайма «Экзюперы» —*
*Хто па кроплі, хто па глыточку.*
*Маладзейма, бацькі і дзяды,*
*Вышукальнікі рэдкага слова!*
*Безнадзейныя нашы гады,*
*Калі ўсе пра былое размовы.*
*Калі ж чарку ўпаляваць*
*Ды яшчэ маладзіцу да чаркі,*
*То падставы няма гараваць*
*І, хто лепшы, заводзіць сварку.*
*Усе збольшага на вышыні,*
*Незвычайныя проста загадкі*
*Пры таемным каньячным агні,*
*Пры чарговым нутра беспарадку.*
*Дык паслухаем звон крышталю,*
*Нашых душ, нашых дум сутыкненне!*
*Хто адчайны, той кум каралю,*
*Веку ён валадар і натхнення.*
*Гэта помесь — француз-беларус —*
*Кроў бунтуе, дальбог жа, калегі,*
*На знаёмы настройвае курс*
*І мы ў нечым яшчэ ўсе стратэгі!..*
*Хай гукнецца і Экзюперы*
*На тым свеце — вялікаму творцу,*
*Які ў сэрцы дарогу адкрыў*
*Прынцам казачным... Проста хлопцам...*

●

*Рады я, што ў коле маладых*
*Застаюся ўсё яшчэ я свойскім,*
*Сярод слоў не блытаюся коскай*
*І трымаю ўдар, як б'юць пад дых;*
*Што бяруць на зуб мае радкі*
*Без усякіх на старэчасць скідак,*
*Кідаюць мяне, каб я іх кідаў —*
*Першы доказ, што не слабакі.*
*Бласлаўляю творчы іх імпэт,*
*Іх узлёт айчынасці з гадамі,*
*Буду рад, як важкімі слядамі*
*Стопчуць яны прывідны мой след.*
*Без прарыву гэтага ў душу*
*З маладою дужасцю і верай —*
*Плакацца нам вечна на паперы,*
*Па Радзіме ўжо спраўляць імшу...*

●

*Што ж ты робіш са мною?*
*Акупіравала душу.*
*Гэтай дзіўнай вайною*
*І жыву я цяпер, і грашу.*
*І няма пакаяння,*
*І ніякіх сумлення згрызот.*
*Больш руховіца ранне,*
*Лепшы думак стаў умалот.*
*Сведчу факт адраджэння*
*І пагляда, і цела, і сну.*

*Ад на восень малення*
*Павярнула душа на вясну.*
*Так адна пара года*
*Адштурхнула астатнія ўсе.*
*Вечны грай асалоды*
*Адна постаць штодзённа нясе.*

●

*Дадому хочацца, дахаты,*
*Як ні хвалілі б цябе тут...*
*Ёсць з'ява большая, чым сам ты,*
*І з'ява гэта — родны кут.*
*І з глыбінёй артэзіянскай*
*Крынічка чыстая ля ног*
*Шуміць не фестывалем канскім,*
*І ты пры ёй — Паэт і Бог!*

●

*Мы яшчэ ўсё паўчалавекі,*
*Дурні круглыя*
*круглай ЗЯМЛІ.*
*Мы — нішто без прыроднай апекі,*
*Горш, чым голыя каралі.*
*І ўсе нашы патугі на розум,*
*На высокі і зорны ўзлёт —*
*Не вышэй ад бялюткай бярозы,*
*Над якою — фабрычны кнот...*

●

*Замураваныя ў сабе,*
*Мы ўласныя зламалі краты,*
*Каб волю ўласную пакратаць,*
*І — не знайшлі яе ў сябе.*

*Акамянелы ў душах страх*
*Мы разбурылі напалову —*
*З адчаю пракрычалі словы,*
*Што трызніліся нам у снах.*

## Прадонне

*Ці ўвечары званю, ці ўранні —*
*Званкі трымцяць паміж муроў,*
*Няма сяброў...*
*Усе на пахаванні*
*Сяброў.*
*І гэта пачалося не сягоння,*
*Не ў Лету*
*з лета запрашае шлях, —*
*Правальваемся мы ў прадонне,*
*Што адшукалася ў "шчаслівых" днях.*

●

*О Божа мой!*
*Даўно я не раўную.*
*Паспеў я палюбіць і адлюбіць.*
*Я сэрца толькі беднае руйную*
*Развагай,*
*што магло іначай быць...*
*І ўсё — нібы знарок*
*ці мімалётам,*
*Каб зачапіць крылом,*
*а не рукой, —*
*Яе душу, збалелую употай,*
*Сваю душу, што ўведала спакой.*

## Твары гісторыю...

*Шаноўны Марачкін А., брава*
*Твайму жыццю з жальбой, з журбой*
*І што пагоня добрай славы*
*Так рана ўлегла за табой.*

*Няма патрэбы адраджацца*
*Таму, хто генны беларус...*
*І хоць зычліўцы б'юць па шапцы,*
*Ідзеш на скрут і нерватрус.*

*Твары гісторыю Айчыны!*
*Хай аглядае час, народ*
*Глыбакадумнымі вачыма*
*Падзенні нашыя і ўзлёт.*

*Такая доля мастакова —*
*Глядзець з усімі... Як не ўсе,*
*Убачыць новы дзень нанова;*
*Час розны колер свой нясе...*

## Тварэнне

*Так лёгка марыць і так проста нявечыць*
*Заўсёды яго — рызыканта з агнём...*
*Сапраўдны паэт здольны жыць і галечай*
*І нават... І нават самім нежыццём.*

*Ёсць фактаў даліха і сведак няма,*
*Калі на Радзіме так званай «малой»*
*Яму аднаму адрадзіцца хапала*
*Са скрыдліка слова і мары адной.*

*У схові́шчах самых драбнюткіх малекул*
*Ёсць формулы годнасці, волі, журбы*
*З падказкай, якім быць заўжды чалавеку,*
*Якім чалавеку ніколі б не быць.*

*Крый божа, дзяўбці чытачу пра знямогу*
*Ад працы, з якою ты небна жывеш...*
*Не, з пальца высмоктваць не трэба нічога.*
*Тым болей тварэнне па імені ВЕРШ.*

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

# ХАЙБАХ

АПАВЯДАННЕ



СЁННЯ дзень серада.

Заўтра, ці ўчора быў чацвер – і ў чацвер мяне забілі. Таму мне ўсё адно, ці будзе чацвер заўтра, ці быў ён учора. Тут адзін нейкі дзень, назва якога мне пакуль не адкрылася, але я адчуваю, што ён блізкі да раўнавагі, да таго, што гэтым словам пазначаецца, таму па зямной памяці я называю гэты дзень серадою.

У мяне пакуль толькі зямная памяць. Можа, ніякай іншай нідзе і няма, што дзіўна, як дзіўна тое, што няма смерці. Ёсць ***нешта і недзе, дзе мне спакойна, і я сплю.***

Яны забівалі мяне ўтраіх, няхай іх завуць Панядзелкам, Аўторкам і Серадою, хоць у серады ёсць імя, яна жанчына – і якраз яна сказала:

– Давайце яго заб'ём.

Яна сказала так пасля таго, як тыя двое, Панядзелак з Аўторкам, падышлі, адвялі мяне ўбок і спыталі: «Мужык, што нам з табой рабіць?.. Як цябе ўбатожыць, каб памоўчваў, дажываў сваё і не ў сваё не лез?..» Яны не прынялі яшчэ рашэння забіць мяне, пакуль толькі страшылі, а яна пачула іх і не прыдумала нічога іншага, як сказаць:

– Ды які ён мужык, давайце яго заб'ём.

Яна сказала так альбо з таго, што сапраўды надумала мяне забіць, альбо хацела паглядзець, як я стану бараніцца і заб'ю тых двух. Яна нацкавала іх на мяне, забыўшыся, што я стаміўся забіваць.

Адзін ударыў мяне пад дых:

– Кастрат!

Мяне сагнула ў тры пагібелі...

Гэта было ўночы ў парку каля мастка цераз Свіслач, дзе запруда. Падаючы, шумела вада. Роўным-роўным шумам, які я звык любіць.

Яно, магчыма, тым бы на гэты раз і абышлося, каб я не папрасіўся:

– Хлопцы, не забівайце...

Ім здалося, што я іх баюся. Я распаліў у іх гераізм.

– На, сука!

Другі гвазлануў у скронь кісцянём. Такімі кісцянямі даўно не б'юцца, яны пагубляліся ў мінулым стагоддзі, у паслясталінскіх часах. Як і шмат што іншае, але не ўсё. Сталінскае ў краіне Сталіна дарэшты не можа пагубляцца. Я глядзеў, як той другі тыркаў у кісцень пальцы, рукі ягоныя біла калатэча, мне нават стала ніякавата: «І гэты чмут мяне заб'е?»

Мяне хістанула, але я ўстаяў, не зрабіў ніякага руху, каб абараніцца, тады яна не вытрывала: «Ну, шо ты стаіш?! Што ты стаіш?!» – і, з трох крокаў разбегшыся, штурхнула мяне ў плечы, перакуліла праз парапет у пену пад запрудай, у роўны шум вады.

Так усё проста.

Я пазнаёміўся з ёй, вярнуўшыся з першай сваёй вайны, з Афганістана, дзе забіваў толькі для таго, каб абараніцца, каб выжыць, каб не забілі мяне. Там за два гады я хоць і навучыўся, і прывык забіваць, але так і не палюбіў смаку крыві, дурманнага яе паху, самага мёртвага і самага жывога, якога, аднойчы ўдыхнуўшы, не маглі ўжо выдыхнуць многія і многія.

Я б мог забіць тых двух. Яны і ўцяміць, і запомніць не паспелі б, што іх забілі. Пад канец першай сваёй вайны я займеў за гэта два медалі.

А сераду звалі Марай. Імя у яе было Маргарыта, ды сама яна называлася Марай, і ўсе яе так называлі, і я так называў.

– Мара, – назвалася яна, холадна на мяне зірнуўшы з нейкай ледавіковай вышыні, недаступнай, як мне адразу здалося, не толькі для мяне, для ўсіх астатніх, але і для яе самой. – Ты на гітары граеш? Сыграй песню, якую хачу пачуць.

Няўпэўнена, баючыся, што не ўгадаю, якую яна хоча пачуць песню, я ўзяў гітару і стаў спяваць. Вачыма спытаўся ў яе: «Гэта тое?» – і яна згодна кіўнула, а калі я даспяваў, сказала:

– Ты не мог ведаць гэтай песні. Такой песні для цябе няма.

Я не стаў спрачацца.

– Значыць, няма... Я і не думаў, што яна ёсць, Алег для цябе яе напісаў, але яна з майго жыцця.

– Алег з майго жыцця, Алег з майго, і ты не лезь, не лезь!.. – істэрычна ўчапілася яна мне ў твар, ледзь вочы не выдрала, бо ўжо тады, на самым пачатку нашага знаёмства ёй хацелася мяне знішчыць. Я пра гэта здагадваўся, таму і заставаўся з ёю кожны раз, калі трэба было пайсці. Адышоўся я ад яе толькі двойчы: адзін раз на другую сваю вайну, у Чачню, і другі раз на трэцюю сваю вайну ў Чачню.

Алег граў на гітары, ён з'явіўся ў Афганістане з артыстамі. Пасля канцэрта, падняўшы баявы дух, артысты перапіліся, штабнікоў п'яных упрасілі даць ім з аўтаматаў пастраляць. Адзін артыст узяў ды ў вайну пагуляў: трох паклаў, у тым ліку Алега.

На канцэрце Алег спяваў песню, якую хацела пачуць Мара: «Я паўсюль над табой белым воблакам...»

Каб неяк выкруціцца з артыстычнымі трупамі, штабнікі прыдумалі, быццам на іх душманы напалі: нас паслалі, мы набілі тузін афганцаў, да штаба прывезлі, пакідалі, поле бою наладзілі. Артыстаў за гэта ўзнагародзілі, трох, у тым ліку Алега, пасмяротна.

Так усё проста.

Тыя двое, што мяне забівалі, выглядалі братамі тых двух, што загінулі з Алегам. Я нават хацеў спытацца: «Хлопцы, гэта не вы?» – але такога, вядома, быць не магло, мне гэта падалося, я ўжо не суадносіў рэальнасць з трызненнем, не адчуваў мяжы.

– Дзе ён табе пра мяне казаў, як ён мог табе пра мяне казаць, калі быў ужо мёртвы? Ты брэшаш, сабака, ты брэшаш, гэта ты і забіў яго! – крычала Мара, і я думаў: «А, можа, і праўда?..» Іншым разам усё вырашалася імгненнем, за якое куля далятае, у якое і ведаць не можаш, ты забіў ці цябе забілі.

Артыстаў запаялі ў цынкавыя труны, мяне выклікалі – я адваяваў сваё – і сказалі: «Гітарыст гэты – твой зямляк, ты там глядзі, гераізм і ўсё такое...» Калі б не сказалі, дык я і забыўся б пра Алега, а так вярнуўся і ў ваенкамаце дазнаўся адрас, каб знайсці ягоных бацькоў, а знайшоў Маргарыту. Не скажу, што пра тое шкадую, хоць выйшла як выйшла.

Каб не забілі Алега, не забілі б і мяне. Толькі як такое вылічыць?

*У Алега фотакартка Маргарыты была, штабнікі мне яе далі: «Можа, знойдзеш, глядзі, якая... Суцешыш і сам суцешышся...» На адвароце фотакарткі было напісана: «Я* паўсюль над табой белым воблакам...»

Калі знайшлася Мара, фотакартку ёй я не вярнуў, не паказаў нават, каб не забрала. Пайшоў з той фотакарткай на сваю другую вайну, у Чачню.

*Адным з камандзіраў маёй другой вайны быў генерал, якога пасля забіла жонка. Ён і на маёй першай вайне, у Афганістане, камандаваў, я ваяваў у абодвух ягоных* амспах; *асобных мотастрэлковых палках, 860-ым і 191-ым. Было гэта ў 1983-м і 1984 гадах, на той час генерал быў яшчэ падпалкоўнікам. А ў 1998 годзе ён стаў трупам генерала.*

Забойства ягонае, як і маё, – цьмяная гісторыя. Генерал палез у палітыку, зліквідавалі яго нібыта па загадзе з Крамля, бо задумаў ваенны пераварот, а жонка генерала ні пры чым, яе пад забойства падставілі. Я і не сцвярджаю, што яна забіла, думаю толькі, што магла забіць. Калі мая Мара мяне забіла, дык чаму жонка генерала забіць яго не магла? Усіх нас, хто прайшоў праз Афганістан, а пасля праз Чачню, можна знішчаць, не разбіраючы, хто генерал, хто радавы... Магчыма, мы не людзі, наўрад ці мы людзі. На першай маёй вайне мне было дваццаць гадоў, на другой – трыццаць, на трэцяй – трыццаць пяць, і ўсе гэтыя гады я альбо забіваў, альбо сніў, што забіваю. Таму з Марай у мяне нічога й не выйшла, не магло выйсці. Таму яна мяне знішчыла.

Роўна праз дзесяць гадоў пасля маёй першай вайны, 31 снежня, калі Мара ставіла дома ёлку, калі ўсе сустракалі Новы год, я штурмаваў горад Грозны. Штурмаваць загадалі 31 снежня, бо гэта быў дзень нараджэння міністра абароны. Ён самому сабе зрабіў такі падарунак.

Дарагім аказаўся падарунак, царскім, нават больш чым царскім... Толькі ў 131-й брыгадзе, што наступала з поўначы, чачэнцы спалілі дваццаць танкаў з дваццаці шасці і сто дзве баявыя машыны пяхоты са ста дваццаці. Ва ўсім гэтым жалезе дагаралі і разрываліся жывыя людзі.

Было каля дзевяці раніцы, міністр абароны быў не зусім яшчэ п'яны і наступленне 129-га палка, які прабіваўся з усходу, спыніў, загадаў адыходзіць, але адступіць полк не паспеў: неба абрынулася на яго рэактыўнымі снарадамі з самалётаў-штурмавікоў «Су-25». Думаючы, што пазіцыі палка ўжо занятыя чачэнцамі, свае палілі і разрывалі сваіх, рускія рускіх.

Наш генерал, камандзір 8-га корпуса, дзе я быў афіцэрам-кантрактнікам 33-га палка, надумаў наступаць на Грозны не па Петрапаўлаўскай шашы, як загадаў міністр, а ў абход – паўз аэрапорт «Паўночны» і далей дарогай цераз рускія могілкі. Па абодва бакі дарогі нас чакалі засады чачэнцаў і, калі мы падышлі да іх, наша артылерыя стала біць уздоўж дарогі, справа і злева па могілках. Мы ішлі калідорам паміж выбухамі, нас секла нашымі асколкамі – і на танкі нашы, на баявыя машыны пяхоты, на галовы нашыя ў свісце, агні і громе абрушвалася з каранямі чачэнская зямля, уздымалася і падала з чачэнскіх засадаў дымнае, крывавае, толькі што разарванае чалавечае мяса, сыпаліся і сыпаліся з уздыбленых рускіх магіл чарапы і косці, чарапы і косці...

Полк наш замыкаў калону корпуса, і калі мы амаль прайшлі могілкі, з неба, узняты апошнім снарадам, упаў на дарогу, паўстаў перад намі грудок, надмагілле – і крыж на ім.

Полк стаў. Спіхла, зрабіўшы сваё, артылерыя. У цішыні ўчулі мы пахі: едка пахла порахам, саладка – крывёй, мясам, цяжка — сырой зямлёй. І ва ўсім гэтым – знак, крыж на нашай дарозе, і не адзін я, мусібыць, падумаў: «Нездарма мы ў 33-ім, зратуй нас, Божа...» Кожнаму і ўсім разам нібы штосьці адкрылася, усе і кожны ўбачылі шлях і канец шляху, аслупянела зразумелі, куды і да чаго мы ідзём.

– Далей я полк не павяду, – перадаў камандзір палка, наш палкоўнік нашаму генералу, камкору.

Калі б камандзір кінуў полк і збег, генерала б гэта не надта здзівіла. Як на афганскай, так і на чачэнскай вайне камандзіры кідалі сваіх байцоў і збягалі, ратуючы шкуру, – генералу гэта было не ў навіну. З акружэння пад Кабулам на верталёце ўцёк камандзір 191-га асобнага мотастралковага палка, якога замянілі нашым генералам, з-пад Грознага далі лататы камандзір і намеснік камандзіра 104-ай паветрана-дэсантнай дывізіі... Але ж тут не тое, зусім не тое, і нешта такое было ў гэтым зусім не тым, у самім голасе палкоўніка, у ягонай катэгарычнасці, што генерал рашэнне палкоўніка, з якім колькі ваяваў, столькі сябраваў, перавёў у загад.

– Загадваю часова заставацца ў рэзерве!

Так я часова застаўся жыць... Як аказалася, не да лепшага.

Пад канец лета вайна ўжо была нібыта прайграна, і мужчыны захацелі жанчын. Захацеўшы, яны іх займелі, хадзіць па іх было недалёка: вайна ішла там, дзе жылі жанчыны і дзеці.

Салдаты злавілі дзвюх чачэнак, прапусцілі іх праз усіх, хто хацеў, а пасля не ведалі, што з імі рабіць. «Стрэльнуць, – прапанаваў Бігін, салдат ціхі і хуткі. – Інакш раскажуць».

– Ты і стрэльні, – сказаў я яму. Усе і ўсіх на гэтай вайне рабавалі, гвалцілі, забівалі, чачэнцы рускіх, рускія чачэнцаў, для ўсіх гэта было нормай, для мяне таксама. Салдат Бігін павёў жанчын у руіны Злоснага акопа, рэдута, збудаванага на беразе Сунжы яшчэ царскім генералам Ярмолавым, але не застрэліў. Яны паабяцалі яму грошы — ён іх адпусціў, сказаўшы нам, што застрэліў. «Ціхаму не вер, хуткага не бойся», – кажуць чачэнцы.

Я помню чачэнскія прымаўкі і шмат чаго ведаю пра Чачню – сябра меў чачэнца. Ён быў з тэйпу Бархчой, з акінцаў, пра якіх згадваў яшчэ Герадот, пісалі Пталамей і Пліній. Разам з ім ваяваў я ў Афганістане, потым разам вучыліся мы ў горным інстытуце, жылі ў інтэрнаце ў адным пакоі. Ад яго я дазнаўся пра сталінскую дэпартацыю чачэнцаў і пра аул Хайбах, чачэнскую Хатынь.

Калі я дабраўся да другой сваёй вайны, дык у Маздоку штабны маёр, праглядаючы мае дакументы, сказаў: «Ты ж з Беларусі, з іншай дзяржавы. Кантрактнік – гэта не наёмнік, наёмнікаў мы не бяром». Ён глядзеў на мяне хітра – і я ведаў, што яму адказаць. «Маёй і вашай дзяржавай, наш з вамі, таварыш маёр, дзяржавай быў, ёсць і застанецца Савецкі Саюз». Ён згодна кіўнуў:

– Ваюй.

Мы адваяваліся. Лілі дажджы, мы сядзелі ў палатках, у гразі, забытыя ўсімі і нікому не патрэбныя, з бляшанкай тушонкі на суткі на трох. Наша войска з Чачні выводзілася. Нас прыйшло сюды сорак тысяч, мы атакоўвалі і бралі Грозны, Аргун, Шалі, Самашкі, тысячы з нас загінулі – салдаты пыталіся: «За што?.. Дзеля чаго?..» Глядзячы на фотаздымак Мары, я пра гэта не пытаўся. Я быў тут, каб быць на вайне, быць дзе-небудзь там, дзе б мяне забілі.

Досвіткам на нас напаў чачэнскі атрад, прыведзены жанчынамі, якіх адпусціў салдат Бігін. Сонных і мокрых у абы-як нацягнутых палатках нас закідалі гранатамі. Тыя з нас, што ўцалелі, біліся з чачэнцамі, з «чэхамі», як мы іх называлі, ва ўпор, вочы ў вочы. І ў руінах Злоснага акопа я ўбачыў вочы Ясу Джамаева. Разам мы былі ў Афганістане, потым вучыліся ў адным інстытуце, жылі ў інтэрнаце ў адным пакоі.

З усяго, што расказваў Ясу пра Чачню, я ад пачатку не верыў толькі гісторыі пра аул Хайбах, дзе людзей, старых і дзяцей, энкавэдысты жывымі спалілі ў час дэпартацыі. Гэтаксама, як фашысты спалілі жывых людзей у Хатыні, як спалілі ў Лідзіцэ. Я пытаўся: «За што?.. Дзеля чаго?..» Тады Ясу паказаў мне машынапісную, самвыдатаўскую кнігу з копіямі дакументаў, якія кожнаю літараю ўрэзаліся ў маю памяць.

*СОВЕРШЕННО СЕКРЕТНО*
*НАРКОМУ*
*ВНУТРЕННИХ ДЕЛ СССР*
*тов. Л.П.Берия*

Только для ваших глаз. Ввиду нетранспортабельности и в целях неукоснительного выполнения в срок операции «Горы» вынужден был ликвидировать более 700 жителей в местечке Хайбах.

*Полковник Гвишиани.*

*ГРОЗНЫЙ. УВД.ГВИШИАНИ*

За решительные действия в ходе выселения чеченцев в районе Хайбах вы представлены к правительственной награде с повышением в звании. Поздравляю.

НАРКОМ ВНУТРЕННИХ ДЕЛ СССР БЕРИЯ.

От имени ВКП(б) и Комитета обороны СССР объявляю благодарность всем частям и подразделениям РККА и войск НКВД за успешное выполнение важного правительственного задания на Северном Кавказе.

И.СТАЛИН.

Я працягваў выконваць важнае ўрадавае заданне ў руінах рэдута, збудаванага амаль дзвесце год таму генералам Ярмолавым, а Ясу глядзеў мне ў вочы – і першы апусціў аўтамат.

– Ідзі, – сказаў ён. – І болей не прыходзь.

Не забіўшы мяне, Ясу ўсё ўскладніў: выявілася, што мне ўсё адно няма куды ісці, апроч як на вайну. Ніхто і нідзе мяне не чакаў, не выбіраў, адна вайна чакала і выбірала.

– Як гэта цябе не забілі? – пыталася Мара, упіраючы кулачкі мне ў грудзі, ненавідзячы, не пускаючы да сябе, а я баяўся зламаць яе маленькую сілу. – Алег толькі глянуў на вайну і не вярнуўся, а ты... Ты носіш яе на сабе, скінь, ад цябе крывёй, смерцю пахне!..

Развучыўшыся жыць без вайны, я не мог навучыцца быць з Марай. І ўсё ж, калі б вайна зноў не пачалася, я б не пайшоў на яе. Але яна пачалася – і праз чатыры гады я вярнуўся ў Чачню.

Я апынуўся на той жа – і не на той вайне. Гэта была не проста другая чачэнская вайна, яна была інакшая, яшчэ болей жорсткая і бязлітасная. Увайшоўшы ў Кізляр з Кадарскай зоны, войска, малоцячы чачэнцаў штурмавікамі і артылерыяй, прарала агнём і жалезам раўніну і ўперлася ў горы. Я павінен быў загінуць на самым пачатку горнай вайны разам з 6-ай ротай 104-га дэсантнага палка ў Аргунскай цясніне, праз якую прарываліся на Ведзяно атрады Хатаба і Басаева. Але я не загінуў. Гэтая вайна нібыта ведала, хто мяне павінен забіць, і выбрала мяне для таго, каб перад тым, як знішчыць, усё ўва мне яшчэ і растаптаць, раструшчыць, знявечыць. Каб Мары ўжо не было каго, а таму не шкада было забіваць.

Дэсантнікамі на трэцяй маёй вайне камандаваў мой зямляк. Я ведаў ягонага сына, якога забілі на першай чачэнскай. Сына звалі Алегам. Чамусьці ўвесь час я гэта помніў – і мяне гэта торгала. Не ведаю, чаму. На вачах маіх у Афганістане і ў Чачні забівалі не адных Алегаў.

*(Заканчэнне на стар. 15)*



## ЧАСАПІС

### «Дзе кожная нацыя — кветка...»

**Букет рознакаляровых кветак заўсёды прываблівае непаўторнасцю разнастайных колераў, формаў, водараў. Розныя музычныя плыні, выканаўцы, людзі, думкі і меркаванні. Наш свет розны і таму рухомы, дынамічны, цікавы. Уявіце сабе хоць на хвілінку, што ўсё навокал раптам зрабілася аднолькавым.**

**Вядомы рускі філосаф Павел Фларэнскі, якога сучаснікі называлі энцыклапедыстам XX стагоддзя, казаў, што рознасць культур — гэта рознасць патэнцыялаў, менавіта яна і з'яўляецца крыніцай жыцця. Кваяцістасць — адметнасць усебеларускага Фестывалю нацыянальных культур. Адкажыце, дзе вось так увачавідкі можна адразу пабачыць такое сувеццe нацыянальных талентаў, паспытаць столькі смачных страў нацыянальных кухняў і пачуць столькі адметных песень, у якіх адкрываюцца душа народа, яго характар і светаўспрыманне. Сёлета гэты фестываль чацвёрты раз завітаў на Беларусь. Напрыканцы восені яго прымала Магілёўшчына. І адразу шэры, змрочны лістапад стаў яркім, урачыстым і запамінальным дзякуючы каларыту нацыянальных культур, якія былі прадстаўлены на заключным канцэрце.**

**Рыхтаваліся да свята амаль з самага пачатку года. Быў сфарміраваны аргкамітэт у складзе супрацоўнікаў упраўлення культуры і Савета па справах рэлігій і нацыянальнасцей Магілёўскага аблвыканкама, спецыялістаў абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці, якія прагледзелі канцэртныя праграмы, выбралі лепшыя нумары. Рэжысёр канцэрта, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Бараноўскі працаваў з кожным калектывам.**

**Прадстаўнікі сонечнай Арменіі і Азербайджана, бясконцых украінскіх стэпаў, нашчадкі Шагала, Міцкевіча і Гётэ, заўсёды таямнічыя рамалы прымалі ўдзел у абласным туры чацвёртага Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур, што адбыўся ў Палацы культуры і тэхнікі МВА «Хімвалакно». Рознымі шляхамі прыйшлі яны на магілёўскую зямлю, але адзіны лёс з'яднаў іх і Беларусь стала ім другой Радзімай.**

**Свята распачалося выставай вырабаў дэкаратыўна-прыкладной творчасці нацыянальных культур. Сапраўдныя кулінарныя дзівосы паказалі армяне і азербайджанцы. А праз колькі часу зазіхацеў рознымі гукамі-краскамі вялікі вянок-канцэрт, дзе побач з творчымі калектывамі нацыянальных суполак бралі ўдзел і слынныя калектывы. На сцэну выходзілі ансамбль польскай песні «Машэка» і народны харэаграфічны ансамбль «Рунь», яўрэйскі вакальна-харэаграфічны ансамбль «Тайбэле» і народны ансамбль танца «Вянок», народны ансамбль «Магілёўцы» і вядомы ў вобласці цыганскі ансамбль «Тэрнэ Бэрша», народны фальклорны ансамбль «Пярэзвы» і вакальная група «Лерхен» Цэнтра нямецкай культуры. Усяго звыш дваццаці адмысловых кветак-калектываў. Выступленні самадзейных выканаўцаў ацэньвала строгае, але добразычлівае журы, якое ўзначальваў народны артыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прафесар Міхась Дрынеўскі.**

**Летась абласное свята нацыянальных культур распачало фестывальную эстафету года, а сёлета яно гэты фестывальна-святочны марафон завяршыла.**

**С.БУХЕЛЬ,**
*г.Магілёў*

### Мастак-настаўнік

**Выстава твораў лідскага мастака У.Мельнікава адбылася ў доме Дружбы. Сярод прац, выстаўленых творцам, былі і партрэты некаторых пісьменнікаў. На адкрыцці выступіла старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, якую звязвае цеснае супрацоўніцтва з лідскай сярэдняй школай №14, дзе працуе мастак.**

**Н.К.**

ЮБІЛЕІ

# Мелодыі роднага краю

Мастак Іван Пратасеня вядомы як выдатны акварэліст і пейзажыст. Гэта пацвердзіла і яго юбілейная выстава, прымеркаваная да 70-годдзя мастака, якая адбылася ў Палацы мастацтваў. Тонкія, празрыстыя акварэлі І.Пратасені напоўнены празрыстасцю і чысцінёй, у іх адчуваецца неабыякавасць мастака да Бацькаўшчыны, да чалавека і прыроды. «Мелодыі роднага краю», так назваў ён сваю акварэльную кампазіцыю, на якой дзяўчаты ў маляўнічых народных строях іграюць на жалейках. Серабрыста-блакітная гама акварэлі нагадвае гукі лірычных, задушэўных беларускіх песень. Выдатнае валоданне мастака тэхнікай акварэлі, што досыць складаная і патрабуе цвёрдай рукі, дакладнага бачання колеру, адчуваецца не толькі ў пейзажах Пратасені, але і ў яго сюжэтна-тэматычных работах («Бацькоўскі дом», «Аб перажытым», «Партрэт бацькі», «Адвечнае», «Вяселле ў Падгор'і» і іншых).

Без адлюстравання мінулага Бацькаўшчыны складана ўспрымаць і сённяшні дзень, лічыць мастак. Таму на працягу многіх гадоў ён стварае акварэльныя партрэты славутых гістарычных асоб. І.Пратасеня адзін з нямногіх піша партрэты ў акварэльнай тэхніцы. Змястоўныя, цікавыя па колеры і па кампазіцыі, яны прыцягваюць гледача. Вобраз беларускай паэтэсы Алаізы Пашкевіч, напрыклад, у партрэце-карціне «Думы Цёткі» прасякнуты ўнутраным драматызмам. Гераіню сваёй карціны Іван Пратасеня атачае эпічным і апаэтызаваным пейзажам-панарамай, вобразамі з яе твораў. Працуючы над вобразам асветніка Кірылы Тураўскага, мастак сабраў і вывучыў вялікі матэрыял, азнаёміўся з эпохай, у якой жыў і працаваў дзеяч XII стагоддзя. І.Пратасеня кіраваўся славесным апісаннем знешняга выгляду Тураўскага, што захаваўся ў гістарычных крыніцах. Упершыню партрэт быў прадстаўлены ў 1986 г. у чацвёртым томе «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва». Дарэчы, Іван Пратасеня доўгі час прапрацаваў у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» мастацкім рэдактарам. У жанры кампазіцыйнага партрэта выкананы вобразы Ф.Скарыны, К.Каліноўскага, Янкі Купалы, Якуба Коласа, М.Багдановіча, А.Блока, П.Труса, П.Броўкі...



Але чыстая, светлая душа мастака найбольш выявілася ў пейзажах. Тут мастак найбольш раскаваны. Яго лірычныя творы гучаць спевам роднаму краю. Акварэлі І.Пратасені светлыя, узнёслыя, адухоўленыя і разам з тым філасофскія.

«Гэта выдатна, калі пасля прагляду выставы ў душы застаецца святло і цяпло, радасць ад сустрэчы з вялікім мастацтвам і мастаком, які здолеў так хораша пра нашу

# Спадкаемнасць "Песнярам"

Сваё 15-годдзе Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі, як вядома, адзначыў грунтоўнай творчай працай. 10—11 снежня калектыў на чале з арганізатарам і мастацкім кіраўніком Міхалам Фінбергам прадставіў публіцы новую праграму: "У свеце музыкі — "Бітлз" і "Песняры". І калі "Сімфонія "Бітлз", створаная салістам аркестра, гітарыстам і аранжыроўшчыкам Уладзімірам Ткачэнкам, ужо вядомая многім слухачам, дык "Сімфонія "Песняроў", напісаная ім жа, сталася прэм'ерай. Яна прагучала як адмысловая згадка-настальгія пра "залаты век" беларускай эстрады. Бо перастварыла грунтоўна распрацаваныя ў новым інструментальным асяроддзі самыя папулярныя матывы з рэпертуару мулявінскіх "Песняроў", у складзе якіх, дарэчы, 8 гадоў працаваў і У. Ткачэнка.

Па-майстэрску ўплеценыя ў аркестравую канву залацінкі знаёмых мелодый заззялі ў атачэнні свежых тэмбравых фарбаў, віртуозных сольных пасажаў, утвараючы вынаходлівы сімфанізаваны рух песенных вобразаў: ад расквечаной каларытам народных інструментаў "Ой, рана на Йвана" да знакавай інтанацыі "Белая Русь тыя мая!" Паміж "Песнярамі" ды аркестрам, таксама аддадзеным беларускай ідэі ў мастацтве, пазначылася глыбінная родная повязь...

Паўнюткая зала сталічнай філармоніі разпораз выбухала авацыяй, вітаючы салістаў У. Ткачэнку, С.Анцішына, Г. Грачухіна, Д. Бударына, С. Іванюковіч, І. Лютага. У. Ксёнца, В. Шчарыцу, А. Старажука, А. Славінскага ды іншых класных інструменталістаў, якімі багаты аркестр.

Перад прэм'ерай Дзяржаўны канцэртны прымаў шматлікія віншаванні, афіцыйныя і сяброўскія. А ў філарманічным фае два вечары запар ладзілася прэзентацыя CD з лепшымі запісамі калектыву. Самыя спрытныя гледачы, прабіўшыся праз натоўп цікаўных, змаглі ўхапіць "калядны падарунак" — юбілейныя дыскі раздаваліся ўсім жадаючым.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*На здымках: народны артыст Беларусі прафесар М. ФІНБЕРГ; заслужаны артыст У. ТКАЧЭНКА; трамбаніст Д. БУДАРЫН.*

СУСТРЭЧЫ

# З перспектывай

«Беларусь і музычная спадчына XX стагоддзя». Такую назву мела навуковая канферэнцыя, якая адбылася ў Беларускай акадэміі музыкі. Падзея сабрала пад адным дахам не толькі сталічных даследчыкаў: удзел у канферэнцыі бралі спецыялісты з Гродзенскага, Магілёўскага, Віцебскага дзяржаўных універсітэтаў. Свае даклады прадставілі некаторыя супрацоўнікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, аспіранты Акадэміі музыкі.

Тэматыка навуковых пасяджэнняў агарнула шматлікія праблемы гісторыі і тэорыі сусветага музычнага мастацтва, даследаванняў сучаснай беларускай музыкі; філасофіі музыкі, псіхалогіі і культуралогіі. Асобныя секцыі абмяркоўвалі вы-

ВЫСТАВЫ

# Казачная непасрэднасць

Мастакі розных творчых прыхільнасцяў ужо паказвалі свае творы ў Светлагорскай карціннай галерэі «Традыцыя» імя Германа Пранішнікава. На гэты раз яе выставачная зала набыла менавіта казачнасць і непасрэднасць, якая ўласціва хіба што дзіцячаму ўспрыманню жыцця. Усё, што ўвасоблена ў творах, здаецца рэальнай нерэальнасцю. Мы з радасцю пазнаём мінскія двары, вуліцы, будынкі, але напісаныя так, нібыта яны таксама з казак, галоўнымі героямі якіх заўжды былі вось гэтыя крыху незвычайныя і ў той жа час вельмі простыя, даверліва-шчырыя людзі. Менавіта таму так хораша побач з імі ўсім гэтым сабачкам, катам, птушкам, коням, каровам...

Зрэшты, было б наіўным не заўважыць, што пры ўсёй іх казачнасці творы новай экспазіцыі ўвасабляюць далёка не заўсёды тое, што характэрна толькі дзіцячаму ўспрыманню. Мы адзначаем шмат такіх псіхалагічных назіранняў, радуемся шчырасці чалавечых узаемаадносін, маляўнічай канкрэтнасці...

Інакш, думаецца, і быць не магло, бо ў Светлагорскай карціннай галерэі на гэты раз паказвае свае творы сямейны дуэт мастакоў — Людміла Шчамялёва і Ігар Рымашэўскі. Можна назваць іх творчасць прымітывізмам, інсітным (наіўным) мастацтвам... Аднак таленавітае майстэрства заўжды больш значнае за любыя вызначэнні! Кампазіцыйная бездакорнасць, дакладнасць сюжэтаў, казачная яркасць, якая ніколі не пераходзіць у стракатасць, нейкая стрыманая іронія і лаканічная жывапіснасць — усё гэта і многае іншае пераканаўча прысутнічае ў творах мастакоў. Наўрад ці варта праводзіць нейкія паралелі! Людміла і Ігар — мастакі, падобныя толькі на саміх сябе. Час вучнёўства, калі, па іх уласным прызнанні, яны даволі складана выходзілі з моцнага прыцягнення творчай манеры бацькі Людмілы, народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва, прайшоў, хаця дапамог захаваць святочную яскравасць каларыту.

17 твораў прадставіла на выставу Людміла Шчамялёва. Тут жанравыя карціны, нацюрморты, пейзажы, партрэты. Светлагорцы з захапленнем спыняюцца ля яе «Зязюлінай хаты», ля твораў «У гасцях у мастака», «Сустрэча ў кавярні», «Чыстае сумленне», «Жанішок», «Класік» і іншых.

Не меншай прываблівасцю валодаюць і творы Ігара Рымашэўскага. Яны яшчэ больш дэкаратыўныя, абагульняючыя і ў той жа час дакладна канкрэтныя, радуюць пазнавальна мінскім каларытам. «Кветкі паэту», «Закаханы трэнер», «Свята горада», «Хочам у Парыж», «Люлі-люлечкі» — далёка не поўны пералік карцін, якімі парадаваў светлагорцаў мастак.

Гэтая радасць асабліва адчувалася ў час адкрыцця выставы, якое аздобіў сваёй музычнай прысутнасцю мясцовы ансамбль народных інструментаў «Экспромт». Шмат удзячных слоў пачулі шаноўныя госці ад старшыні гарвыканкама Б.Пірштука, намесніка старшыні райвыканкама М.Чырвы, ад сябра, таксама мастака, Ігара Лаферскага і іншых.

— Можна лічыць, што гэта наша першая выстава не ў сталіцы. Мы шмат добрага чулі пра Светлагорскую галерэю і вось зараз самі шчасліва пераканаліся ў тым, што ўсё





зямлю сказаць. Дзякуй вам, Іван Міхайлавіч, за гэту радасць, за гэта свята душы...», напісаў у кнізе водгукаў Іван Саламевіч. Можна цалкам згадзіцца са словамі акварэліста Уладзіміра Рынкевіча, які назваў І.Пратасеню «жывым класікам акварэльнага жывапісу, мастаком сучаснага вобразнага мыслення, тонкім лірыкам і пранікнёным псіхолагам, маэстра яе вялікасці акварэлі».

**Галіна ФАТЫХАВА**

*На здымках: мастак І.Пратасеня; «Кірыла Тураўскі»; «Набат 1863. Марыся».*





канальніцкае мастацтва і музычную адукацыю на Беларусі.

Паведамленні дакладчыкаў выклікалі жывую цікавасць слухачоў: многія з пытанняў рабіліся падставай для доўгіх дыскусій. Своеасаблівымі момантамі рэлаксацыі для прысутных сталіся музычныя інтэрмедыі, якія запаўнялі перапынкі паміж пасяджэннямі. У іх прагучалі яшчэ малавядомыя творы сучасных беларускіх кампазітараў.

Вынікі канферэнцыі пераконваюць у тым, што сучасная беларуская музычная думка бадзёра рухаецца наперад, асвойваючы здабыткі мінулага стагоддзя і шукаючы новых перспектыўных шляхоў.

**Марына МРАЧКО,**
**студэнтка Беларускай акадэміі музыкі**





гэта існая праўда. Мы ўдзячны за гасціннасць, за шчырасць, з якой паставіліся тут да нашай творчасці, — падзяліўся ўражаннямі Ігар Рымашэўскі.

Застаецца толькі дадаць, што пасля месячнай экспазіцыі два творы, падараваныя Ігарам і Людмілай, застануцца ў Светлагорску, у мастакім фондзе галерэі.

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

*На здымку: Людміла ШЧАМЯЛЁВА і Ігар РЫМАШЭЎСКІ.*

*Фота В.СТРЫБУКА*

КАНЦЭРТЫ

# Дзевяць сюжэтаў для флейты



Дэкада сучаснай музыкі, зладкаваная падчас Міжнароднага фестывалю «Беларуская музычная восень», звярнула на сябе ўвагу шукальнікаў свежых мастацкіх уражанняў. Уражанні былі досыць разнастайныя, звязаныя з прыездам ужо знаёмага мінчукам экстравагантнага шведскага кампазітара і саксафаніста Дрора Файлера, зусім не знаёмых, але, як аказалася, найвыбітных галандскіх перкусіяністаў, чарадзеяў марымбы і вібрафона Ларэнца Ферандзіса ды Густава Гімена, Варшаўскага маладзёжнага аркестра на чале з маэстра Лукашам Баровічам, камернымі вечарамі фартэпіяннай і вакальнай музыкі з удзелам беларускіх выканаўцаў... Нават гэтага пераліку дастаткова, каб адчуць, наколькі стракатымі ды непараўнальнымі імпрэзамі поўнілася музычнае жыццё сталіцы падчас фестывалю.

Адной з такіх своеадметных падзей стаўся канцэрт сучаснай музыкі для флейты. Насуперак завядзёнцы ў нашым кампазітарскім асяроддзі — наведвацца ў філармонію толькі тады, калі выконваецца ўласны твор, — гэтая вечарына ў зале на Залатой Горцы прывабіла і тых, чые прозвішчы ў праграме не значыліся. Пэўна, ёсць свая магія ў інструмента са старажытным радаводам — флейты, здатнай выклікаць глыбінныя і вытанчаныя перажыванні ў кожнага, хто ўслухоўваецца ў яе чарадзейны заваблівы голас.

Дзевяць нумароў канцэртнай праграмы ўспрымаліся як асацыятыўныя музычныя сюжэты, адлюстраваныя ў гучанні флейты.

«Тры фрагменты» польскага класіка XX стагоддзя Вітальда Лютаслаўскага, неарамантычныя «Чатыры погляды на Анры Русо» нашага сучасніка Юрыя Павалоцкага з Ізраіля, інвенцыі Вячаслава Кузняцова для флейты сола — пазначаныя таксама як чатыры погляды — неарамантычныя погляды беларускага кампазітара XXI стагоддзя на ўзор серыйнай музыкі стагоддзя мінулага, тэму А.Веберна...

Тут жа — трыпціх «Basso ostinato» («Мелодыя», «Рытм», «Гармонія») Дзмітрыя Смольскага, прызнанага яго маладзейшымі калегамі пачынальнікам авангардных напрамкаў у айчыннай кампазітарскай школе. У гэтым цыкле для флейты і фартэпіяна памайстэрску злучыліся рамантычны меладызм, джазавая імпульсіўнасць, структурная дакладнасць, незмушаны пераход гукавой гульні ад простасці да выштукоўвання.

Непараўнальныя былі ў канцэрце і вучні шаноўнага прафесара. Вытанчаны інтэлект, праніклівасць мастакоўскага погляду і эмацыйнасць Галіны Гарэлавай увасобіліся ў «зашыфраваных» партрэтах-дарунках для яе сяброў: «Песня-Кевіч-Птушкі» ды «Маленькая калядная фантазія для Радаславы». Трохчасткавая «Амадэй-саната» Уладзіміра Каральчука — таксама вынік пільнага мастакоўскага позірку і асэнсавання, аб'ектам якога зрабілася Моцартава музыка, улучаная ў кантэкст сучаснай эпохі, прасякнутай духам плюралістычнасці, полістылістыкі, постмадэрнізму. Дзмітрый Лыбін прадставіў ужо добра знаёмыя меламанам «Адлюстраванні сонца ў вадзе» для флейты, фартэпіяна і тэмпл-блока, адметныя сваім гукавыяўленчым эфектам, каларытнай санорыкай.

І яшчэ адно непаўторнае ўражанне таго вечара — «Прапорцыі» для флейты сола. Аўтар гэтага твора, румынскі кампазітар Сарын Лярэску, быў госцем фестывалю і зведаў хвалюючыя хвіліны сваёй мінскай прэм'еры. «Прапорцыі» захапілі слухачоў свежасцю музычнага вобраза, вынаходлівым гукапісам, эфектамі ў штрыхах, цеплынёй і экспрэсіяй аўтарскага выказвання, пранікнёна і віртуозна перададзенага выдатнай маладой беларускай флейтысткай Вікторыяй Дрыгінай.

Так, у канцэрце ўдзельнічалі лепшыя прадстаўнікі айчыннай флейтавай школы: спрактыкаваны прафесіянік Якаў Гелер, яркая перспектыўная моладзь — Алена Каўтуневіч, Аляксандра Рананская, Аляксей Юранок. З імі ў ансамблі былі чулыя партнёры — піяністка Ала Трафімава, перкусіяніст Уладзімір Бяляўскі...

Але ж які ансамбль без публікі! Яе трапяткая ўвага, душэўная сугучнасць атмасферы музычнага свята, адкрытая сімпатыя да выканаўцаў і творцаў успаміналіся як неад'емная частка ўражанняў ад канцэрта.

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: кампазітары Д.Лыбін, С.Лярэску, В.Кузняцоў, У.Каральчук, Г.Каротkіна, Г.Гарэлава; грае А.Рананская; Я.Гелер.*

*Фота А.МАЦЮША*





## Спасцігаючы жыццё

### Міколу ВОРАНАВУ – 65

**Вёска Гіры Гарадоцкага раёна — радзіма Міколы Воранава. Скончыўшы Азяркоўскую сямігодку, ён працаваў камбайнерам, служыў на Балтыйскім флоце. З 1959 года на журналісцкай рабоце — літсупрацоўнік суражскай раённай газеты «Клич Ильича», аршанскай «Ленінскі прызыў», загадчык сельскагаспадарчага аддзела сенненскай раённай газеты «Ленінская іскра». Першае апавяданне «Асінавае шула» надрукаваў у 1963 годзе ў «Віцебскім рабочым». Выдаў кнігі апавяданняў і аповесцяў «Ветраны дзень" (1976), «Перад адлігай» (1984), раман «Маланка паліць жыта» (1990). У часопісе «Маладосць» былі апублікаваны аповесці «Завея» і «Вадалазы»...**

**Віншуем Міколу Гаўрылавіча з 65-годдзем! Зычым далейшага плёну ў жыцці і творчасці!**

## З краёў слуцкіх

### Вячаславу ДУБІНКУ – 60

**Нарадзіўся Вячаслаў Андрэевіч у горадзе Слуцку. У 1961 годзе скончыў Чарнавіцкі тэхнікум чыгуначнага транспарту. Працаваў брыгадзірам комплекснай брыгады, прарабам, начальнікам будаўнічага ўчастка ў Слуцку, а з 1964 года звязаў лёс з фотажурналістыкай. З'яўляўся супрацоўнікам любанскай газеты «Будаўнік камунізму», салігорскай «Шахцёр», працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», у студыі «Фота і жыццё» Саюза журналістаў Беларусі, фатографам рэстаўрацыйнай майстэрні Міністэрства культуры БССР, у рэдакцыі часопіса «Беларусь»... Пабываў на Камчатцы і Курыльскіх астравах, на Чукотцы і Калыме, адкуль таксама прывёз нямала цікавых здымкаў.**

**Але больш за ўсё В.Дубінку вабяць краявіды і людзі роднай зямлі. Ён аўтар фотанарысаў, фотаальбомаў «Бабруйск», «Нясвіж», «Магілёў», «Брэст» і іншых. Асабліва хараша зарэкамендаваў сябе і як празаік, публіцыст, аб чым, у прыватнасці, засведчылі кнігі «Паплач ля роднае крынічкі» (1981), «Ой, зялёны дубочак...» і «Не плач, душа мая» (абедзве 1983), «Браты святой ночы" (1986), «Развітальная песня» (1989), «Сіндыкат Мані Дулі» (1992)... Для прозы В.Дубінкі характэрна вобразная насычанасць, тонкі, дасціпны, блізкі да народнага, гумар. У асобных творах аўтар умела выкарыстоўвае элементы прыгодніцтва, дэтэктыву.**

**У запісе В.Дубінкі выйшла кніга П.Ратайкі «На жыццёвых кручах». А да ўсяго ён з'яўляецца неперасызданым майстрам выцінанак з паперы. Апошнім часам шмат друкуецца на старонках газеты «Народная воля».**

**З 60-годдзем, Вячаслаў Андрэевіч! Жадаем Вам доўгіх год жыцця і нязменных творчых поспехаў!**

## «Роднае слова», № 11

**Творчасць М. Зарэцкага-навеліста разглядае В. Максімовіч («Палоннік мастацкай праўды»). Змешчаны артыкулы Т. Тарасавай «Апавяданне Якуба Коласа «Адукацыя», Е. Лявонавай «Інтэрпрэтацыя біблейных вобразаў у літаратуры: Марыя Магдаліна ў рамане У. Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», Алены Яскевіч «Ля вытокаў жанру балады ў беларускай літаратуры», Н. Перавалавай «Як Арыстоцель Аляксандра Македонскага павучаў», Ю. Бушлякова «Беларуская літаратурная мова: патэнцыял нармалізацыі», В. Рагойшы «Максім Танк», Т. Мушынскай «Страсці па Рагнедзе», І. Завадскай «Згарэў бы летапіс, што ўзяўся распавесці пра палкае каханне палачанкі...» (спектакль «Палачанка»), П. Вайніцкага «Набліжэнне да падання» (помнік Рагнедзе і Ізяславу ў Заслаўі), М. Мушынскага «Карані дружбы і крона духоўнасці» (да юбілею Т. Кабржыцкай), Т. Кабржыцкай «Пісьменнік — нацыя — універсум» (беларуска-ўкраінскія сувязі ў часе і прасторы), С. Галоўкі («Абмен палітвязняў на станцыі Коласава», перапляценні лёсаў Б. Тарашкевіча і Ф. Аляхновіча). У сувязі з 70-годдзем А. Вярцінскага з ім гутарыць А. Пісьмянкова («Паэзія — праява самой душы...»), а таксама друкуецца падборка паэта «Вершы розных гадоў». Шэраг матэрыялаў прысвечаны 50-годдзю В. Скорабагатава: «Дзейнасць творцы» Ганны Каржанеўскай, «Праца і талент» В. Дадзёмавай, «Поўнасць быцця» В. Вайткевіча, «Віктар Скорабагатаў» І. Алоўнікава. Прапануецца працяг «Гісторыі хрысціянскай культуры» Т. Шамякінай. М. Мацюкевіч («Будзе вечна свяціцца Рагнеды імя...») падрыхтавала сцэнар літаратурна-музычнай імпрэзы, прысвечанай Рагнедзе.**

ЗАМЕЖЖА

# Каляды на чужыне

З Юры Весялкоўскім я завочна пазнаёміўся даўно, гадоў дваццаць назад. Тады ён, апрача іншых грамадскіх абавязкаў, меў адзін, як уяўляецца, найбольш значны, клопатны і адказны. Выдаваў часопіс «Голас часу». Увесь штат, па сутнасці, і складаўся з яго аднаго. Апрача гэтага, трэба было няспынна думаць-меркаваць, на якія сродкі рэгулярна выпускаць саліднае памерамі выданне. Бо багачом ніколі не быў, зарабляў на пражыццё, працуючы інжынерам.

«Голас часу» быў ягонай трыбунай, тут ён надрукаваў шмат артыкулаў, якія пазней сталі грунтам для кніг па гісторыі Беларусі ад даўнейшага часу. Усе ягоныя кнігі выдадзены за межамі, пераважна на Беласточчыне, а на Бацькаўшчыну, дзе найбольш патрэбныя, трапілі лічаныя асобнікі. Таму імя аўтара сярод навуковай грамадскасці зусім, хіба што за рэдкім выключэннем, невядомае. Між тым навукоўцы, якім я прапанаваў пазнаёміцца з кнігамі Ю.Весялкоўскага, адгукаліся пра іх вельмі высока, ставячы яго як гісторыка старажытнай Беларусі побач з Міколам Ермаловічам. Спашлюся на меркаванні-высновы, бо яны былі выказаны і ў друку, такога аўтарытэтнага навукоўца, як Леанід Лыч. Але сапраўды глыбокае і ўсебаковае адкрыццё зробленага Ю.Весялкоўскім яшчэ наперадзе. Пакуль што, як гэта ні парадаксальна, ягонае імя нават не ўзгадваецца ў беларускіх энцыклапедычных выданнях, у тым ліку і ў шматтомнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Ды тут вінаваты не так рэдактары, як спадчынныя вынікі ідэалогіі і палітыкі, паводле якіх беларуская эміграцыя была штучна адрэзана ад Бацькаўшчыны.

Летась мне пашанцавала сустрэцца з гэтым абаяльным чалавекам на ягонай другой радзіме, якая, як і для многіх, з'яўляецца хутчэй краінай часовага пражывання. Бо душа не падарожніца. І яна, як і думка, часцей за ўсё лунае над Беларуссю, куды, мяркую, вернецца назусім.

Ад родных мясцін (гэта Нясвіжчына) у маладым веку Ю.Весялкоўскага адарвала ваеннае ліхалецце. Будучы жыхаром Заходняй Беларусі, якая, як вядома, у міжваенны перыяд знаходзілася ў складзе польскай дзяржавы, ён змагаўся супраць фашыстаў у шэрагах арміі Андэрсана і разам з ёй адмераў цяжкія вёрсты вайны, у тым ліку браў удзел і ў славутай бітве пад Монта-Касіна. Як вайсковец меў баявыя ўзнагароды і льготу на набыццё вышэйшай адукацыі, з чаго ён і скарыстаў, скончыўшы адзін з самых прэстыжных універсітэтаў Вялікабрытаніі. Мяне ўразілі шчырасць, сціпласць і дабрыня гэтага чалавека як увасабленне лепшых традыцыйных якасцяў беларуса, якія, часам, у ростані з Бацькаўшчынай захоўваюцца больш трывала, чым у многіх, хто на сваёй зямлі пераўтвараецца ў «чужака». Вернасць свайму, роднаму і крэўнаму, не перашкодзіла яму далучыцца да здабыткаў сусветнай культуры, ведаць некалькі еўрапейскіх моў, што спрыяла ў напісанні навукова-папулярных прац па гісторыі і сучаснасці.

За межамі Беларусі, у Вільні, выдадзена і кніга вершаў Ю.Весялкоўскага «Каляды на чужыне». У рэдакцыйным уступным слове наконт адметнасці твораў зазначаецца: «Хоць іхны аўтар сцвярджае, што ён «пачаў пісаць вершы аказыйна», што «ёсць гэта не паэтычныя творы, але выказаныя думкі ў codeршаванай форме», — чытач знойдзе на старонках кнігі шмат жывога пачуцця, трапных вобразаў, глыбокіх разважанняў...»

Што гэта сапраўды так, чытачы газеты, спадзяюся, адчуюць і па гэтых навагодне-калядных радках.

У радасна-ўзвышаныя Дні Божага нараджэння хацелася б пажадаць нашаму суродзічу з Лондана доўгіх, шчаслівых і плённых гадоў жыцця. Ад сэрца шчыра, як ён сам жадае сваім чытачам!

**Яўген ЛЕЦКА**

Юры ВЕСЯЛКОЎСКІ

### Каляды на чужыне

*Ужо за месяц да Каляд*
*У горадзе нібы парад.*
*Вітрыны крамаў зіхацяць,*
*У розных колерах мігцяць.*

*Хоць час цяпер зімовы,*
*змрочны —*
*Настрой ва ўсіх людзей святочны.*
*У магазінах не прайсці*
*І ў тлуме цяжка што знайсці.*

*Дамы па-рознаму ўбіраюць,*
*А на ялінках цацкі з'яюць.*
*І кожная сям'я чакае,*
*Што хтосьці ў госці завітае.*

*Аднак не ўсе бываюць рады*
*На свята Божае Каляды —*
*Бо шмат каго турбуе сум*
*Ад горкіх згадак і ад дум.*

*Хто на чужыне без радні*
*Свайго жыцця праводзіць*
*дні*
*І спамінае аб тым свяце,*
*Якое меў у роднай хаце.*

### Сняжынкі

*Сняжынкі-пушынкі*
*Заткалі прастор,*
*Лятуць без супынку,*
*Як тысячы зор.*

*Кружляюць свавольна,*
*У паветры плывуць,*
*Няспешліва й вольна*
*Без крылаў лятуць.*

*Іх ветрык ганяе*
*Туды і сюды,*
*Ён з імі гуляе*
*Без гора, бяды.*

*Ды вось, пагуляўшы,*
*Яны знемаглі,*
*На пожні, на пашы*
*Ціхенька ляглі...*

*Калі б было можна —*
*І я б, як яны,*
*Прыпаўшы да пожні,*
*Спачыў да вясны.*

# Узыходжанне на Парнас

«ЛіМ» ужо расказваў пра падзеі, што адбываліся ў Гарадку, на радзіме неўміручага твора беларускай паэзіі «Тарас на Парнасе». Значнасць падзеі вартая таго, каб да яе вярнуцца яшчэ раз.

Сапраўды, нарэшце знята завеса ананімнасці з класічнай народнай паэмы, пра якую шаноўны даследчык літаратуры Генадзь Кісялёў пісаў: «Унікальны для новага часу выпадак — мы згубілі імя не проста аднаго з даравітых паэтаў, мы згубілі імя класіка, роўнага талентам Купалы, Коласа, Багдановіча. Аўтар на многія дзесяцігоддзі апярэджваў свой час. У гэтым яго трыумф і бяда».

Шматгадовыя пошукі апантаных знаўцаў беларушчыны не былі безвыніковымі. Гарадоччына першай абвясціла свету: тут у 1855 годзе нарадзілася паэма «Тарас на Парнасе», яе аўтар — ураджэнец вёскі Астраўляны, гарадоцкі мешчанін, віцебскі гімназіст Канстанцін Вераніцын, 1834 года нараджэння. На ўрачыстасці, прысвечанай адкрыццю памятных знакаў «Тарасу...», аўтарамі якіх з'явіліся выкладчыкі мастацка-графічнага факультэта Віцебскага дзяржуніверсітэта Іван Каладоўскі і Сяргей Сотнікаў, прыехалі літаратуразнаўцы і пісьменнікі з Мінска і Віцебска.

Ідэя ўстанавіць помнік «Тарасу...» з'явілася падчас правядзення першых літаратурна-краязнаўчых чытанняў па паэме, якія праводзіў у Гарадку Віцебскі дзяржуніверсітэт пад кіраўніцтвам яго першага прарэктара прафесара Анатоля Дарафеева. Ён, ураджэнец Гарадоччыны, чытаючы і перачытваючы геніяльны твор, упэўніўся, што паэма магла з'явіцца менавіта тут, на яго малой радзіме. Цікава, што сёння старэйшы жахар вёскі Астраўляны Сяргей Дзмітрыевіч Хрытаненка згадвае, як у 1934 годзе ў тутэйшай школцы дзятва чытала ўсю паэму на памяць, чым выклікала добрую зайздрасць у малодшага пакалення. Вось вяскоўцы і дачакаліся, каб на іх вуліцы паставілі памятны валун з гістарычным надпісам.

Прафесар Алег Лойка шчыра прызнаўся, што гэтая паездка на Гарадоччыну яшчэ раз яго пераканала: мы, беларусы — не вясковая нацыя, а гарадская, бо яшчэ ў X стагоддзі гэты край называўся Гердарыкай, краем гарадоў.

У гэты ж час была адкрыта і новая зала Гарадоцкага краязнаўчага музея — этнаграфічная. Мяркуецца, што цяпер музейныя супрацоўнікі і гісторыкі ўшчыльную прыступяць да распрацоўкі вераніцынаўскай тэмы для пашырэння экспазіцыі.

**Святлана ГУК**

*Віцебск*



*На здымках: памятны знак з урыўкам з паэмы «Тарас на Парнасе» і словамі Алега Лойкі пра месца паэмы ў беларускай літаратуры; прафесар А.Лойка выступае ў Астраўлянах.*

*Фота Міхаіла ШМЕРЛІНГА*

# Бюро знаходак

СТАРОНКІ З КНІГІ

Валерый ГРЫШКАВЕЦ

## Маскоўскі час

Здаўна, яшчэ з юначых гадоў жыве ўва мне празаік, але, напэўна, памрэ ён, так і не з'явіўшыся на свет. Колькі было задум, колькі разоў я спрабаваў пасадзіць сябе за стол пісаць вялікую прозу, раман, аповесць. Матэрыялу (маюцца на ўвазе тэмы, сюжэты і г.д., і д.т.п.) навокал і паўсюль, ды і ўва мне самім, у жыцці маім — не аднаму класіку на збор твораў хапіла б. Мусіць, няма вялікага таленту. Уседлівасці, а гэта — адзін са складнікаў таленту вялікага пісьменніка, — ува мне дакладна няма. І тым не менш сёе-тое са свайго жыцця я павінен, проста абавязаны распавесці людзям. Ну вось хоць бы пра тое, як і чаму я апынуўся ў Маскве. А яшчэ пра тое, як, а галоўнае — чаму забаранялі выдаваць маю першую кнігу, і хто забараняў. І як усё гэта адбывалася. Не сумняваюся, калі б нешта падобнае было ў біяграфіі якога-небудзь нягодніка (маю на ўвазе самазваных «класікаў», якіх цяпер распладзілася процьма), даўно б раздзьмулі такое... Тым больш, што ва ўсім беларускім Саюзе пісьменнікаў за ўвесь пасляваенны час не было ніводнага, падкрэсліваю, ніводнага дысідэнта. Баронь Божа, я таксама не дысідэнт. І ніколі не збіраўся ім быць. Зрэшты...

Сёе-тое з «Бюро знаходак» я паказаў сябрам у Маскве. Параілі быць сціплейшым, смялейшым і... не такім надта ўжо расхлістаным. Што ж, першае пастараюся ўлічыць абавязкова. І калі нешта не гэтак, даруйце вялікадушна.

Дык вось, я жыву ў Маскве. Сёй-той лічыць мяне паэтам. Ці паэт я? Сумняваюся. Асабліва, калі праходжу па Пушкінскай плошчы міма помніка (па-мойму, аднаго з лепшых помнікаў расійскай сталіцы) Аляксандру Сяргеевічу Пушкіну. А на Пушкінскай плошчы, як і на Цвярскім бульвары, дзе пастаўлены таксама цудоўны помнік выдатнаму рускаму паэту Сяргею Ясеніну, я бываю досыць часта — там знаходзіцца Літаратурны інстытут, дзе два гады я вучыўся на ВЛК — Вышэйшых літаратурных курсах, і дзе па сённяшні дзень з розных прычын даводзіцца бываць і цяпер.

Маскоўскі час — адметны час. Гэтак было заўсёды. Гэтак застаецца і дагэтуль. Карацей кажучы, пісаць ёсць пра што. Што ні кажы, а шосты год аціраюся тут. Маскоўскі час... Нездарма ж з парады паэта Юрыя Кузняцова не гляджу тэлевізар і не чытаю газет. Ну, за рэдкім выключэннем. Скажам, «Завтра». Часам — «Литературную Россию». І то «адным вокам». А калі б глядзеў «скрынку» ды чытаў што-небудзь кшталту «Московского комсомольца» —ляжаў бы даўно з інфарктам, а то і ў скрынцы. Ужо без двукосся.

Дык вось, жыву ў Маскве. Скончыў ВЛК. Было такое, пасля вучобы на курсах, не здаўшы па глупстве выпускных экзаменаў, вярнуўся на родныя берагі. Пабадзяўся па Пінску, папіў (ажно занадта) паскуднага віна і...

Вабіць белакаменная, ох як вабіць да сябе тых, хто глынуў аднойчы з ейнай да ачмурэння хмельнай чары!.. Прыехаў. Пасяліў знаёмы ў камуналку. Пайшоў на старое месца: вартаўніком у храм Дабравесця Прасвятой Багародзіцы, што ў Пятроўскім парку. Патрапіў я туды, здавалася б, зусім выпадкова ў канцы верасня 1994 года, на другім годзе вучобы на ВЛК. Галеча змусіла шукаць працу. І павёў мяне туды аднакурснік, растоўскі паэт Бажэн Пятухоў. Сам ён пакрукціўся тут вартаўніком месяцы два, не вытрымаў. Спачатку і я мучыўся. Ой, як пакутліва доўга цягнуліся першыя суткі дзяжурстваў, як я нудзіўся, я рваўся хутчэй за агароджу, у абшчагу...

Дарэчы, першы верш, які я напісаў у Маскве, называўся «Вецер». І заканчваўся ён гэтак:

***Я слыл непутевым, отчаянным,***
***От жен уходил и детей,***
***Мол, что мне?! Да вот же нечаянно —***
***Церквушка.***
***И стал у дверей...***

Было гэта напісана роўна за год да майго прыходу ў храм Дабравесця, 5 кастрычніка 1993 года.

А яшчэ, прыехаўшы ў студзені 1995 года дадому на канікулы, неяк сярод начы (памятаю, зачытаўся) вырашыў разгледзець, што за абраз вісіць у маім пакоі. Як жа я здзівіўся, калі падышоў бліжэй і ўбачыў: акурат абраз Дабравесця Прасвятой Багародзіцы вісеў на покуці майго пакоя. Хоць абразоў у нашай кватэры было заўсёды шмат — маці глыбока верыць у Бога, але ў маім пакоі вісела ўсяго адна ікона — Дабравесця Прасвятой Багародзіцы. Раніцою спытаў у маці, ці даўно вісіць у маім пакоі гэтая ікона. «Заўсёды вісела», — адказала маці. А жыў я ў гэтай кватэры — больш правільна, быў прапісаны — ужо 14 гадоў.

І вось што цікава. Калі на першыя дзяжурствы ехаў я, як на катаргу, дык пазней, пасля вучобы на ВЛК, жывучы ўжо самастойна ў Маскве, натаміўшыся ў ейнай несусветнай мітусні-штурханіне, я спяшаўся (і спяшаюся) у храм, як спяшаюцца людзі ў родны дом. Выйдзеш з метро, увойдзеш у парк... паўстае перад вачыма такі светлы, такі доўгачаканы, такі жаданы... Карацей кажучы, за царкоўнай агароджай адпачываў я (і дзякаваць Богу, адпачываю дагэтуль) і душою, і целам.

Варта сказаць, што не адзін я гэткі, хто знайшоў у храме прытулак, супакаенне душы і целу. Праўда, я да гэтай пары працую ў храме, хоць якая гэта праца?.. Сотні, тысячы масквічоў ідуць і едуць у храм Дабравесця Прасвятой Багародзіцы, каб паслухаць казань протаіерэя, айца Дзімітрыя Смірнова. Едуць з усіх канцоў Масквы. Пісьменнікі, мастакі, артысты, вайскоўцы, цывільныя — усе, хто ўбачыў, каму зззяе святло Праваслаўя.

Побач з храмам, літаральна цераз дарогу, яшчэ нядаўна вядомая ўсяму свету інжынерная акадэмія Ваенна-Паветраных Сіл Расіі імя Жукоўскага. Начальнік акадэміі — генерал-палкоўнік, двойчы Герой Савецкага Саюза, лётчык-касманаўт Уладзімір Кавалёнак.

Даваліся аднойчы бачыць, як наш славуты зямляк ішоў, глыбока ўцягнуўшы шыю ў генеральскі шынель і тужліва гледзячы пад ногі. А быў жа арлом, высока лятаў! Добра памятаю, як чытаў вершы і паэмы, прысвечаныя Уладзіміру Васільевічу, памятаю і тое, як, разявіўшы рот, глядзеў яму ўслед у гасцініцы «Мінск» у дарагой роднай сталіцы. Тады наш герой-касманаўт быў яшчэ і дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. На ўвесь Божы свет гуў самы дэмакратычны ў нашай нядаўняй гісторыі год — 1990-ы. Былыя саюзныя рэспублікі смела аб'явілі аб сваёй незалежнасці. Дэпутаты скрозь і ўсюды, ледзь не праглынаючы мікрафоны, крычалі пра свабоду і суверэнітэт. Не засталася збоку і родная Беларусь. І герой-касманаўт, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Уладзімір Васільевіч Кавалёнак, быццам між мікрафонамі, разрываўся між дэпутатамі, прыхільнікамі КПБ, тады яшчэ агульнасавецкай, і апазіцыяй ад БНФ. Нейкі час дэпутат Кавалёнак нацэльваўся нават на месца Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Але трэба было развітацца з Масквой, з Расіяй і яе Узброенымі Сіламі. Што ж, з Масквою канчаткова не развіталіся ні Аліеў, ні Шэварднадзе — ні першы, ні другі не перадалі свае шыкоўныя кватэры масквічам, як, зрэшты, уладальнікамі, больш правільна сказаць — уласнікамі шыкоўных маскоўскіх кватэр застаюцца дзесяткі, сотні і нават тысячы нацыянал-радыкалаў цяперашніх незалежных і ўсё яшчэ пакуль што залежных ад Масквы рэспублік...

На такія, досыць сумныя развагі падбіла мяне выпадковая сустрэча з земляком-касманаўтам у Маскве. Дарэчы, не лепшы час перажывае зараз і акадэмія імя Жукоўскага. Палац у Пятроўскім парку, дзе яна вольна «кватаравала» ў савецкія гады, адыходзіць у распараджэнне сенатараў (губернатараў) Расіі, так што неўзабаве Уладзіміру Васільевічу Кавалёнку на працу давядзецца ездзіць на адну з маскоўскіх ускраін, і мы цяпер наўрад ці сустрэнемся. Нават выпадкова. А працавалі, можна сказаць, побач, вобруку. Шкада, не ведаў пра гэта Уладзімір Васільевіч, можа... Хоць вершаў касманаўтам я не прысвячаў: не па чыне было. Але добра памятаю, як у снежні 1973 года, нас, салдат і афіцэраў, што затрымаліся на аэрадроме ля сапсаванага самалёта, ледзь не да панікі напалохаў другі зямляк — Пётр Клімук.

Снежаньскі вечар. Віхурны стэп і.. проста над галавой, а калі папраўдзе, здалёку проста на нашы галовы ляціць, рассыпаючы зыркія праменні ў бакі і ўніз, круглы, быццам вялізны месяц, шар. Усе перапалохаліся. Афіцэры — больш за іншых: ніхто ніколі нічога такога не бачыў. На наступны дзень з газет даведаліся: у космас запусцілі чарговы карабель. Я бегаў па казарме з газетай і гарэзліва зырыў вачыма: «Во хто нас пералякаў, зямляк мой, касманаўт з-пад Брэста Пётр Клімук!» Служыў я ў Сяміпалацінскай вобласці за нейкую хвіліну лёту касмічнага апарата ад Байканура. Сонца тым вечарам ужо села за небакрай, і паветраны карабель, быццам месяц, адбіваў яго святло і рассыпаў праменні па зямлі...

Усё добра, што добра канчаецца. Шчасліва скончыліся і касмічныя палёты нашых землякоў. Сёння герой-касманаўт Кавалёнак шле віншавальныя і іншыя дэпешы ў мой храм Дабравесця настаяцелю, протаіерэю айцу Дзімітрыю Смірнову. А айцец Дзімітрый чытае лекцыі будучым касманаўтам у акадэміі, падначаленай нашаму земляку. Ці мог хіба я зусім нядаўна ўявіць нешта падобнае герой-касманаўт? Я ўжо не кажу пра сябе — шараговага салдата калісьці вялікай Савецкай Арміі. І смех, і грэх. Вось ужо сапраўды: усё ва ўладзе Божай. Нездарма ж здаўна асвячае мой пакой у пінскай кватэры ікона Дабравесця Прасвятой Багародзіцы.

## Аднафамілец

У першастольнай забліскаў драматург, рэжысёр і акцёр Яўгеній Грышкавец. Сам ён з Калінінграда, а нарадзіўся і вырас у Кемераве і, само сабою, да пінскіх Грышкаўцоў ніякага дачынення не мае. Вядома, і ў Калінінградзе, і ў Кемераве могуць быць мае пінскія аднафамільцы. Я дакладна ведаю, што яны ёсць у Польшчы і нават... у далёкай Бразіліі. Сцвярджаю апошняе, бо заакіянскія Грышкаўцы — мае далёкія сваякі. Але тут зусім іншае, і гаворка акурат пра гэта. Так што вернемся да маскоўска-калінінградска-кемераўскага Грышкаўца. Дарэчы, я зусім нічога супраць яго не маю, больш за тое, мне нават прыемна, што ў мяне ёсць такі аднафамілец. Памятаю, у 1977 годзе чэмпіёнам Савецкага Саюза па боксе ў сярэдняй вазе стаў мой цёзка з далёкага Фрунзе Валерый Грышкавец. Я шчыра радаваўся за яго і доўга яшчэ «хварэў». Праўда, больш нічога істотнага ён не паказаў. Але ж і дагэтуль не забыўся мною, хоць мы з ім так і не пабачыліся. Ды ён наўрад ці што-небудзь і чуў пра мяне...

Першым, а папраўдзе першай, хто мне сказаў пра існаванне майго маскоўскага «сваячка», была мая сталічная прыяцелька. Яна ехала ў тралейбусе, а сусед чытаў газету, і ў ёй ішоў вялікі артыкул пра пастаноўку п'есы Яўгенія Грышкаўца, дарэчы, ім жа пастаўленай і сыгранай. Дык вось, у тым артыкуле ў падзагалоўку буйным шрыфтам было набрана імя майго слаўнага аднафамільца. Я тады яшчэ пажартаваў: маўляў, гэта не хто іншы, як я сам.

Аднак як перш, так і цяпер, ніхто пераблытаць нас не змог, дзеля чаго ўсё гэта пішыцца, неабходна сказаць, што Яўгеній Грышкавец досыць неардынарная асоба: у Маскве ён не вельмі даўно, паколькі чалавек ён малады і ўсюды прадстаўлены як калінінградзец. Малады яно малады, але ягоныя пастаноўкі і ігра маюць ашаламляльны поспех. Пазалетась Яўгеній Грышкавец стаў, як драматург, лаўрэатам досыць шумнай і прэстыжнай (чытайце: грашавітай) прэміі «Антыбукер», а як выканаўца і рэжысёр — яшчэ больш гулкай у тэатральным свеце прэміі «Залатая маска». І гэта не адзінкавыя яго прэміі і ўзнагароды.

Карацей кажучы, поспех і слава абрынуліся на яго, як гэта часта бывае, адначасова. Масква такіх — ой, як любіць! Сёння Яўгеній Грышкавец направа і налева раздае інтэрв'ю, ён, мяркуючы па друку, ажыццяўляе рэвалюцыю ў тэатры.

Жывучы ў Маскве, газеты чытаю ад выпадку да выпадку, а тэлевізар гляджу вельмі рэдка. І пасля размовы з прыяцелькай пра свайго аднафамільца, што пакарыў свет, неўзабаве начыста забыўся.

Але мне нагадалі.

У адной сталічнай напаўбагемнай забягалаўцы мяне высмыкнуў моцна «паддаты» Альберт Н. У Саюзе пісьменнікаў Альберт Н. лічыцца па разрадзе паэтаў. Вось ён мне і нагадаў.

— Слухай, Валера, а ты выпадкам не Гершковіч? — падкаціўся ён на аслабелых нагах да майго століка.

— Алік, ты ў сваім рэпертуары, — працягваў.

— Стары, тут справа сур'ёзная, — вытарэшчваў на мяне вочы, налітыя хмелем не аднаго дня п'янства, вершатворца Альберт Н, вялікі змагар за чысціню славянскай крыві, хоць сам жанаты ці то з армянкай, ці то з турчанкай, ці то... Яна, як і Альберт Н., актыўна займаецца вершапісаннем. Праўда, піша па-руску. Я сустракаў іх, і неадночы, яны часта разам сваім прыходам «ашчасліўліваюць» гэтую напаўбагемную піўнуху. — У нашых краях аб'явіўся твой б'гат (тут ён скорчыў міну) Яўгеній.

— Больш канкрэтна, Алік, больш канкрэтна, — кажу я, а сам ужо здагадваюся, пра што і пра каго пойдзе гаворка.

— Ды вось надоечы ўключаю «скрынку», а там твой б'гат Яўгеній адвальвае інтэрв'ю сваёй картавай супляменніцы. І ведаеш, твой б'гат — як дзве кроплі вады — мой сусед Сягёжа, як сам сябе называе, Бутман. Таксама мне «Ся-ро-жа»... Сярожа — Ясенін! А тут нейкі Бутман!..

Я міжволі ўсміхнуўся, уявіўшы, як на лесвічнай пляцоўцы сустракаюцца п'яны вершатворца Альберт Н. і нейкі Сярожа Бутман.

— Алік, у маім родным Пінскім раёне ёсць вёска Ласіцк. Добрая палова гэтай вёскі нараджаецца і памірае з прозвішчам Шэндзер.

— Арамейцы! — махнуў п'янай рукой вершатворца Альберт Н.

Я даўно ўжо ведаў: «арамейцамі» Альберт Н. называе яўрэяў.

— А яшчэ, Алік, ёсць у нас вёска Маладзельчыцы, у ёй ціха і мірна жывуць беларусы, якім ад нараджэння насіць прозвішча Зельман. І наогул, у мой Пінск з'ехаліся людзі з усяго Заходняга Палесся — уцякалі ад «шчаслівага калгаснага жыцця». Прывезлі яны з сабой, вядома ж, і свае прозвішчы: Мэндаль, Дырман, Бесман, Шуман, Шлома, Фіцнер, Габер, Кондзер, Шкіль, Шкут, Гмір, Квіт... А ёсць і Глінскія, якія не маюць аніякага дачынення да княжацкага роду царыцы Алены Глінскай, другой жонкі Васілія III.

— Якія вы беларусы?! — вытарашчыў п'яныя вочы вершатворца Альберт Н. — Жыды! Усе жыды! І ты — жыд!..

— Алік, — не стрываў я, — і ў цябе ж імя не зусім велікароскае.

— Штто-о?! Ды мой дзед па бацьку — белагвардзейскі палкоўнік, поўны Георгіеўскі кавалер!!!

— У такім выпадку, Алік, мой дзядуля — персідскі шах! А ты — круглы дурань!

Я падняўся з-за стала і, далей ад граху, пайшоў з піўнухі.

Дурнаватую натуру маскоўскага вершатворца Альберта Н. я адчуў адразу, упершыню ўбачыўшы яго ў гэтай самай забягалаўцы гадоў пяць назад. Неадноічы ягоныя, яшчэ досыць прыгожыя — на цвярозы стан — сінія вочы аздаблялі ліловa-фіялетавыя фінгалы. Ды й будучы цвярозым, праўда, гэткім я не часта яго бачыў, вершатворац Альберт Н., як і большасць масквічоў, не вызначаўся далікатнасцю, ветлівасцю...

Усё гэта можна спісаць на п'янку, звесці да жарту, але... Тут не проста драма, тут — самая сапраўдная прорва, з якой не вырвацца. І справа зусім не ўва мне. А, можа, якраз і ўва мне. Не стаў жа я абараняць свайго «брата» Яўгенія, а ляпнуў дзвярыма і пайшоў, збянтэжаны і злосны, думаючы не столькі пра тое, што здарылася, колькі пра тое, як жа ўсё-ткі добра, што мае продкі не з Ласіцка, а тым больш — не з Маладзельчыц...

## Як Анатоль Сыс купіў горад Смаленск...

Мокры лістападаўскі снег паскудліва шчыпле за шчокі. Спяшаюся пад дах метро. Ля ўваxода на станцыю «Барыкадная» хтосьці тузае за рукаў. Ого, якая сустрэча! Слава Ананьеў. Колькі выпіта-перажыта...

— Стары, а я цябе нядаўна ўспамінаў, — Слава па-птушынаму касавурыць вокам і цэпла глядзіць на мяне з вышыні свайго амаль двухметровага росту.

— Не інакш як з недапою, — падтрымліваю я жартаўлівы тон, які задае Слава.

— Стары, я ў завязцы, другі месяц, — на поўным сур'ёзе гаворыць Слава. — А вось вы там, у Мінску, нешта дурэеце. Камяні ў вокны адміністрацыі кідаеце.

— Слава, няўжо я падобны да таго, хто каменнямі шпурляецца?

— А хто вас ведае. — Слава па-дзіцячы крыўдліва глядзіць сваім касавокім позіркам. — Тут вы за шклянкаю адно кажаце, а там... Не, беларусы — добрыя хлопцы!.. Я сябраваў з Мішкам Стрыгалёвым, — рэзка мяняе тэму гаворкі Слава Ананьеў. — Мы з ім у Літінстытуце ў адным семінары вучыліся. І з Толем Кудласевічам. Памятаю, як з Толем на Беларускім вакзале прадавалі кніжку яго вершаў. Толя спяваў пад гітару свае песні на беларускай мове, падыходзяць землякі, слухаюць, а я ім кніжку ягоную ўпіраю... Падціснула нас тады з грашыма. Вось і сумяшчалі культуру і рынак...

— Та-ак, — быццам спахапляючыся, гучна кажа Слава. — А яшчэ ёсць у вас Анатоль Сыс. Добры паэт, проста выдатны! Ведаеш, — ужо цішэй гаворыць Слава, — ён, па-мойму, папраўдзе можа кідаць каменне... Мы з ім дзверы ў дзверы жылі ў Шарамецьеве ў 1989 годзе. На дзевятай Нарадзе маладых пісьменнікаў былога Саюза. Памятаю, пад раніцу выходжу са свайго пакоя, а ля дзвярэй насупраць — батарэя пустых пляшак. Ну, думаю, свой чалавек, можна зайсці, падлячыць пахмелле. Стукаюся. Дзверы адчыняе нейкае хлапчанё. Заходжу ў пакой. За сталом сядзіць барадаты, з круглым носам Анатоль Сыс. Я яго за дзень да гэтага прыкмеціў. Хто такі, пытаецца ў мяне па-беларуску. Вячаслаў Ананьеў, адказваю, рускі паэт. Аддаеш Смаленск? — пытае мяне проста ў лоб Сыс. А на стале ў яго цэсна ад бутэлек. Гарэлка, віно. Побач, як па камандзе «смірна», стаяць нейкія малалеткі, у рот яму зазіраюць.

— Рускі паэт, кажаш, — глядзіць на мяне з-пад ілба Сыс. — Мусіць, выпіць хочаш. Не дам! Аддавай Беларусі Смаленск, тады й гаварыць будзем!

Я разгубіўся. А выпіць хочацца. І тут я датумкаў. Давай, кажу, напішу распіску, што перадаю Беларусі Смаленск, а ты мне пляшку стаў.

— Дзве! — Сыс робіць сапраўды каралеўскі жэст і падсоўвае мне сшытак, што ляжаў перад ім на стале. — Пішы! «Ад імя рускага народа пры светлай памяці і цвярозым розуме я, паэт Вячаслаў Ананьеў, пішу распіску аб перадачы на векі вечныя горада Смаленска беларускаму народу, яго заснавальніку і сапраўднаму гаспадару». Падпісвайся.

Я падпісаўся, што рабіць, як ні кажы, а дзве пляшкі гарэлкі...

Сыс паказвае пальцам: «Перад сваім імем напішы «рускі паэт». А сам ніжэй напісаў: «Ад Расіі беларускі горад Смаленск прыняў паэт Анатоль Сыс».

— Забірай дзве пляшкі, — падае мне са стала гарэлку Сыс. — Гэта з сабой. А цяпер, як і належыць у такіх выпадках, будзем адзначаць сёе гістарычнае рашэнне. — Устаў з-за стала, басанож падышоў да дзвярэй, што вялі на балкон, расчыніў іх. Проста над балконам, заліваючы ўсё навокал сінаватым фантастычным святлом, вісеў велізарны месяц.

*(Заканчэнне на стар. 14—15)*

## *Восень вачыма мастака і... дзіцяці*

**У галерэі Маладзечанскага музычнага вучылішча экспанавалася выстава мастака Васіля Лазоўскага, на якой гледачы ўбачылі жывапісныя і графічныя творы аднае творчай восені. Усяго некалькі дзесяткаў работ у традыцыйнай «цёплай» восеньскай палітры: жоўты, зялёны, чырвоны, карычневы колеры... Але сам мастацкі стыль майстра — далёкі ад традыцыйных канонаў. Лазоўскі эксперыментуе з формай, выкарыстоўвае «наравістыя» (як і само натхненне) акрылавыя фарбы, расплывістыя абрысы, беспрадметныя кампазіцыі.**

**Васіль Лазоўскі працуе настаўнікам у дзіцячай мастацкай школе горада Маладзечна. «Кантакты з дзецьмі, — па прызнанні мастака, — своеасаблівасць іх падыходу да стварэння мастацкага твора, няўрымслівая радасць, вясёлая энергія юных і натхніла мяне на гэты цыкл работ». Мастак назваў яго «Фарбы восені на мяжы тысячагоддзяў». Навагодні феерверк, серпанцін, канфеці ўбачыліся мне ў ягоных каляровых плямах і лініях...**

## *Рамантычныя акварэлі*

**У Маладзечанскай гарадской бібліятэцы імя Максіма Багдановіча прайшла выстава акварэляў Рыгора Мяжуева. Пейзажы ўражваюць сваёй рамантычнасцю, адданасцю найлепшым традыцыям беларускай акварэльнай школы, а вобразы неба — сваёй глыбінёй і драматычнасцю. Асабліва вылучае маладзечанскі мастак сярод іншых творы, напісаныя падчас міжнародных мастацкіх пленэраў, у якіх ён браў удзел.**

**С. Л.**

## *Выдадзена ў Маладзечне*




**У гэтым годзе вядомаму гісторыку, літаратуразнаўцу Міколу Ермаловічу споўнілася б 80 гадоў. На жаль, ён не дажыў да гэтай даты. Аднак яго дзень нараджэння не застаўся не адзначаным і асабліва землякамі ў Маладзечне, дзе доўгі час жыў і працаваў Мікола Іванавіч. З нагоды юбілею і ў знак шчырай павагі да пісьменніка і памяці выдавец Міхась Казлоўскі выдаў паштоўку, якую выканаў мастак Рыгор Мяжуеў.**

## *Запрашаем*

**на вечарыну-прэзентацыю кнігі Міхася Скоблы «Нашэсьце поўні»**

**У вечарыне бяруць удзел: Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Леанід Галубовіч, Рыгор Сітніца, Людміла Рублеўская, Віктар Шніп, Алесь Пашкевіч, Антаніна Хатэнка, Эдуард Акулін, Алесь Камоцкі, Зміцер Сідаровіч.**

**У передкалядны вечар — з'яднайма душы ў паэтычным сумоўі!**

**Вечарына адбудзецца 27 снежня ў Беларускім гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа (вул.Кірава, 21)**

**Пачатак у 18.00.**

ПАМЯЦЬ

# Святло душы акцёрскай

Калі б не Алена Васільеўна Рынковіч, я ніколі не меў бы такога даху над галавой. Гэта яна, так бы мовіць, прабівала для мяне, маладога тады бяздомнага акцёра, кватэру. Ды якую! Раней тут жыла Вольга Уладзіміраўна Галіна, карыфей нашага тэатра. Дык вось тадышні наш прафсаюзны лідэр (старшыня мясцкома) таварыш Рынковіч абівала парогі розных інстанцый, вадзіла мяне ў нейкія кабінеты, каб дамагчыся права на жыллёвую плошчу для творчага, падкрэслівала яна, чалавека. На ўласныя вочы бачыў я, якой павагай і аўтарытэтам яна карысталася нат і ў закаранелага чыноўніка. Яе пазнавалі. Прыгадвалі: «О, бачыў вас у «Браме...» Дастаецца ад вас нашаму брату прафсаюзніку...» І адгукаліся на яе просьбу. А яна настойвала: «І тэлефон жа за ім трэ замацаваць!»

Не адзін я ў нашым тэатры такі, сапраўды ашчасліўлены ёю. Нашай шматгадовай прафсаюзнай начальніцы абавязаны многія артысты майго пакалення: уладкаваным бытам, атрыманай годнасцю «заслужанага» або і «народнага», запрашэннем у трупу Купалаўскага тэатра са студэнцкай вучэльні. Тое не афішыравалася ёю. Яна ўмела закінуць слаўцо на карысць каго з нас там, дзе трэба і калі трэба. І належныя паперы рухаліся, куды трэба. Азірнуцца не паспееш — агалошваецца адпаведны ўказ альбо каторы шчаслівчык увальваецца ў грымёрны пакой, памахваючы ордэрам на кватэру.

Каб не такія артысты, як наша Ляля Васільна (так з любасцю звярталіся мы да яе ў закуліссі), я асабіста даўжэй спасцігаў бы ўсё каларытнае багацце беларускай сцэнічнай мовы, якога вымагае ад нас, артыстаў, наша прафесія і само званне — купалавец. Справа ў тым, што Рынковіч чэрпала сваё моўнае харастэа ад бацькоў, якія настаўнічалі ў сельскай школе (вёска Лысая Гара на Лагойшчыне). Да таго ж варта помніць, што яе маці Вера і родная цётка Люба Тарасікі ў маладосці былі артысткамі яшчэ ў Першым таварыстве беларускай драмы і камедыі; разам са знакамітым Фларыянам Ждановічам рупіліся аб станаўленні прафесійнага нацыянальнага тэатра. І які дзівосны факт: калі наш тэатр (яго першая абрэвіятура — БДТ) пачынаў свой творчы шлях у дваццатых гадах, ролю Агаты Пустарэвіч у «Паўлінцы», як сведчаць гісторыкі, бліскуча выконвала Вера Рыгораўна Тарасік, матуля нашай Лялі Васільны. Ну а цяперашнія тэатралы ведаюць, якой надзіва маляўнічай зусім нядаўна паўставала Агата ў святле рампы, калі яе іграла Рынковіч. Колькі нязмушанага гумару і сапраўды артыстычнага камедыйнага густу выяўлялася гэтай актрысай!

Мне пашчасціла бываць ейным партнёрам у ролі пана Быкоўскага, і я заўсёды па-добраму дзівіўся яе жывымі сцэнічнымі паводзінамі без якіх-небудзь лішніх перабольшванняў, тых штучак і хітрыкаў, якія згрувашчвае каторы з нас, каб рассмяшыць гледача больш, чым тое прадугледжана аўтарскай і рэжысёрскай задумай, гэта значыць — Янкам Купалам і Львом Літвінавым.

Было ў Лялі Васільны не такое ўжо і частае ў акцёрскім асяроддзі спалучэнне прыроднага таленту з добрымі чалавечымі якасцямі. Яна жыла тэатрам. Як грацыёзна несла Рынковіч тое святочнае святло акцёрскай душы, якое праменіцца з вачэй і ўсмешкі актрысы, калі пасля закрыцця заслоны яна сыходзіць у акцёрскае фае, каб каўтнуць кубачак кавы, падыміць «беламорам» — з непрытоеным усведамленнем добра зробленай справы. Бывае, з паднесеным гледачамі букетам. Бывае, у гаворцы з сяброўкай. А то і зусім маўклівa, сам-насам з уласным уражаннем ад сыгранага толькі што. У такія хвіліны Алена Рынковіч выглядала, як недзе сказана ў Шэкспіра, ад галавы да пят актрысай. Рэдкасная, я вам скажу, гармонія адначасова і прыхаванай велічы, і вонкавай стрыманасці, і жаночай красы. Нібы працяг сцэнічнага жыцця з яго нюансамі, з яго недагаворанасцю, з раптоўным смуткам і раптоўнай асалодай. Рынковіч з тых актрыс, для якіх і іграць на сцэне — асалода, і перажываць, па-руску скажу, «послевкусие» ад сыгранага — таксама.

Нездарма, відаць, любімым яе часам быў той, што па-польску завецца «шара гадзіна». Калі светлы сонечны дзень агортваецца прыцемкам. Сціхае птушыны грай. Кладуцца на ізумрудныя травы доўгія цені дрэў. Роўным водсветам пераліваецца рачная плынь з ніцымі лозамі на беразе. Бывала, едзем кудысьці на раён са спектаклем, любуецца краявідамі за вокнамі Ляля Васільна, ды не-не і плясне ў далоні: «Ой, ну чыста як ваколіца маёй Лысай Гары!» А я вось цяперака думаю: мо і ад родных ніў нешта ўвабрала ў свой артыстычны характар актрыса Рынковіч. Тонкае адчуванне паўтонаў як у навакольным пейзажы, так і ў чалавечых узаемаадносінах было ўласціва ёй. Калі яркія колеры зліваюцца ў мяккую прывабную шэрань, а гукі як бы трацяць пэўную акрэсленасць у расплывістым матыве.

Я помню, чым і сапраўды ганарылася яна.



Бацька яе ў маладыя гады сябраваў з Янам Луцэвічам, а пазней бываў жаданым госцем у доме народнага песняра. У Купалавым доме. Той выпытваў вясковага вучыцеля: «Як, настаўнічак Васілёк, лысагорскія твае вучні гавораць — не фальшывяць у маўленні па-нашаму?»

Няма нічога дзіўнага, што актрыса Рынковіч пераняла з вуснаў бацькі тую моўную натуральнасць, якую сказіць альбо заглушыць не ў сілах аніякая самая арыгінальная характарнасць сцэнічнага персанажа. Далёка не кожны з нас такім дзівосным і затоена спеўным тонам перадае ўласцівыя беларусу дзеканне і цеканне з пераходам на мяккую афрыкату, як гэта гучала ў голасе Рынковіч.

І ніколі яна не выхвалялася гэтым сваім дарам жыва і прыгожа размаўляць на сапраўды матчынай для яе мове! Я спрабую акрэсліць самае істотнае ў таленце Рынковіч і атрымліваецца, бадай, нейкая недарэчнасць. Яна была надзіва сціплай у сцэнічных паводзінах, бо прытрымлівалася межаў, што дыктуюцца аўтарскім тэкстам ролі і рэжысёрскай задумай спектакля. Па-акцёрску выразнай, дзе трэба — тэмпераментнай і сакавітай. І — не больш. Ведаеце, наш брат акцёр, бывае, любіць «вы-

# Бюро знаходак

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)

— На калені! — скамандаваў Сыс свайму акружэнню. — Маліцеся — здзейсніўся гістарычны факт. З гэтага часу і на векі вечныя над горадам Смаленскам будзе ззяць, як гэты месяц у небе, наш сцяг!...

### Вось прыйшоў анахарэт Купрэеў...

Ці было гэта — малады май у бела-блакітным кіпені квітнеючых дрэў, бацькоўская хата з расчыненымі насцеж вокнамі, у садзе стол, маці ставіць талеркі з баршчом, мясам і іншай закуссю. У мамы, яшчэ такой нестарой, нягледзячы на бясконцыя турботы, прыўзняты настрой, яна светла — як умее толькі мама — усміхаецца. Вясна! А яшчэ — госць, галоўны віноўца турбот і весялосці, паэт Мікола Купрэеў. Жывая легенда, біч літначальства і ўсялякага роду дробных чыноўнікаў Беларусі. Мікола Купрэеў і на самай справе быў для іх БІЧ — былы інтэлігентны чалавек. Дзевяць гадоў назад, у 1976 годзе, у яго выйшла першая кніга паэзіі «Непазбежнасць».

Пра гэтую кнігу шмат пісалі ў рэспубліканскай перыёдыцы. І нават сама маскоўская «Праўда» ў аглядзе беларускай літаратуры адзначыла выхад гэтай сціплай кніжкі. Было прызнанне. І ўсё было гатова да прыёму Купрэева ў Саюз пісьменнікаў, што давала вялікія прывілеі пішучаму. Але Мікола, душа наросхліст, у нейкай вясёлай кампаніі непахвальна сказаў пра аднаго вядомага крытыка. Мала гэтага, дык яшчэ сарваў з яго шапку і шмякнуў ёю, смеючыся, аб зямлю. А шапка ж была начальніцкая...

І пайшло-паехала! Не прынялі ў Саюз пісьменнікаў, пад гарачую руку звольнілі са сталічнага выдавецтва, не далі абяцанай кватэры. І застаўся без працы, без даху над галавой. І паехаў на спадарожных ды прыгарадных цягніках «зайцам» бясхатні паэт Купрэеў у сваё задоўжанае на дзесяцігоддзі падарожжа-бадзянне па любай яму Брэстчыне. Добра яшчэ, што амаль у кожным райцэнтры жыў хто-небудзь з пішучай брацііі, само сабою, прытуляў яго. Такім чынам у маі 1976 зазірнуў і да мяне ў «Полесскую правду», дзе я быў супрацоўнікам, — стомлены, не першай, як кажуць, свежасці, але досыць-такі бадзёры Мікола Купрэеў.

З таго часу мой небагаты дом стаў непрацяглым, але частым прытулкам на бадзяжніцкім шляху паэта. Ішлі гады. Усё радзей і радзей імя Купрэева з'яўлялася ў беларускіх выданнях. Але слава Паэта не пакідала яго. Наведваў Мікола і суседнюю Украіну, дзе вершы ягоныя перакладалі, а талент цанілі. Асабліва на Валыні. Там ён таксама знаходзіў заўсёды прытулак і брацкую падтрымку.

Міколу бачыў я шмат разоў і ўсялякім — але ніколі, ні разу не бачыў і не ведаў яго крыўдлівым на кагосьці ці штосьці, не бачыў паніклым і разгубленым, не прыпомню яго сярдзітым, злосным. Я ведаў, што яму ўсё больш нагадвалі аб сабе хваробы, даўняя кульгавасць. Ягоны школьны вучань (Купрэеў пасля сканчэння Брэсцкага педінстытута некалькі гадоў настаўнічаў у вёсцы Сташаны на Піншчыне), паэт і рэдактар газеты ў райцэнтры Пружаны Мікола Антаноўскі ўладкаваў свайго былога настаўніка ў Попелеўскую сельскую школу, што на самым парозе Белавежскай пушчы. Там пасля доўгага бадзяжніцтва і асеў Мікола Купрэеў, ужо цяжкахворы, але поўны, як аказалася, нерэалізаваных сіл і задум.

Ужо ваўсю дзьмулі вятры дэмакратычных перамен. Беларускія літаратурныя выданні, якія заўсёды, бы чорт крыжа, баяліся крамолы, сталі літаральна нарасхват друкаваць важкія падборкі вершаў настаўніка з глыбінкі Купрэева. Яшчэ б, такая біяграфія! А вершы...

Дый самім выданням пазарэз хацелася хоць неяк рэабілітавацца перад чытачом і тым жа Купрэевым. А вершы, балады і паэмы яго на самай справе ў шмат чым біяграфічныя. На вачах у шасцігадовага Міколкі Купрэева паліцаі па-зверску замучылі маці: параненую жыўцом засыпалі зямлёй. За сувязь з партызанамі. Будучы паэт, у жаху зашыўшыся ў кусты, бачыў гэта. Пра гэта і расказаў дзядзьку, роднаму матчынаму брату. Помсцячы за гэта, дзядзька-партызан прывалок равесніка пляменніка Міколкі, сына галоўнага забойцы-паліцая да мурашніка і прывязаў да дрэва — на доўгую, пакутлівую смерць. Пра гэта таксама напіша Мікола Купрэеў...

Наступная, другая кніжка паэзіі «Правінцыйныя фантазіі», выйдзе ў 1995 годзе, амаль праз 30 гадоў пасля «Непазбежнасці». Выйдзе і адразу стане падзеяй у літаратурным жыцці рэспублікі. Кнігу вылучаць на Дзяржпрэмію, але — дзе там! Лёс які раз адвернецца ад Міколы Купрэева. Прэмію яму не дадуць: і зноў адзначаць... нядобранадзейнасць ціхага, мяцежна-праўдзівага паэта Купрэева. Самі таго не жадаючы, чарговы раз узбагацяць новымі фарбамі і без таго багатую легенду пра Паэта.

Да таго ж, часопіс «Крыніца» друкуе пятую ўжо аповесць Купрэева, а перад гэтым неаднойчы амаль цалкам аддаваў яму плошчы паэзіі.

Тут бы беларускім выдаўцам адкласці дзяльбу дзяржаўнай паперы пад зборы твораў надта ж сумнеўных жывых самазваных класікаў і выпусціць прыстойны том паэзіі і прозы сапраўды выдатнага сучасніка Міколы Купрэева. Ды й нагода для гэтага ёсць больш чым пераканаўчая: паэт размяняў сёмы дзесятак, здароўе ягонае — далёка не ў лепшым стане. А галоўнае — не гэтак сорамна будзе перад нашчадкамі за доўгае замоўчванне і цуранне неардынарнага паэта і празаіка, якіх не так ужо й шмат у Беларусі.

Канчаю гэтыя нататкі, а недзе ў Белавежскай пушчы сядзіць на пні Мікола Купрэеў і піша сваю новую аповесць, паэму ці верш. А можа, можа, у забытай Богам палескай вёсачцы, чыкільгае няспешна ў крамку па пляшку «грымучай сумесі», каб хоць гэткім чынам развеяць тугу і адзіноцтва. Але дзе б ні быў, што б ні рабіў, брат Мікола, — дай Бог табе здароўя, а нам — хуткай сустрэчы на нашай горкай, нашай добрай, нашай роднай зямлі..

### У беларускім горадзе Брэсце

Некалькі гадоў не быў у Брэсце. Раней, бывала, і ў Маскву, і з Масквы ехаў праз Брэст. Цяпер жа знайшоў шлях больш кароткі і зручны: цягніком да Івацэвічаў, а там аўтобусам у Пінск.

Брэст жа з усіх гарадоў Беларусі, уключаючы і родны Пінск, мне найбольш дарагі і любы. Як Львоў на Украіне. Самому сабе не хочацца прызнавацца: люблю ўсё рускае, але вось з украінскіх гарадоў самы любы мне Львоў, а не «рускія» Харкаў, Данецк (мяне туды ніколі і не вабіла) і нават «маці гарадоў рускіх» Кіеў...

Гэтак і Брэст. З пары юнацтва вабіў мяне не Мінск, не Гомель, не Гродна, не родны Пінск, а Брэст. Асабліва ў маладосці, калі жыў там паэт Міхась Рудкоўскі. Колькі было перагаворана, колькі выпіта віна...

Брэсцкі вакзал. Ён і цяпер прасторны, зручны, утульны. І самае дзіўнае — чысты. Падымаюся на мост і неўпрыкмет быццам заплываю ў сам Брэст, у стары горад. Мне трэба на вуліцу Наганава, у абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў. Там мяне чакае сакратар аддзялення паэт Алесь Каско.

Па вуліцы Савецкай даходжу да помніка Леніну. Памятаецца, у час маёй маладосці ў Брэсце шмат гаварылі аб тым, як нейкі камуніст з рабочых, знямогшыся хадзіць па калідорах улады (доўгія гады ён чакаў кватэры), паклаў на п'едэстал помніка партыйны білет, абліў сябе бензінам і падпаліў. Крыху раней выказаў падобным жа чынам свой пратэст супраць уводу савецкіх войск у Чэхаславакію чэшскі студэнт Ян Палах. Напэўна, ён і натхніў брэсцкага камуніста.

Цяпер час іншы. На плошчы Леніна ў неба ўзняў крыжы касцёл. Я ж памятаю яго як Музей Вялікай Айчыннай вайны. Уладзімір Ільіч якраз і паказвае брэстаўчанам і гасцям горада дарогу ў касцёл, як калісьці — у светлую будучыню.

З плошчы Леніна зварочваю направа, іду як бы ўніз. Праходжу па вуліцах Энгельса, Чапаева, Камуністычнай, Крупскай, Пугачова і, нарэшце, выходжу на вуліцу Наганава. Балазе, яны невялікія, нешырокія, утульныя. Тут не-не ды й патыхне яшчэ «польскім часам» — Брэст, як вядома, да верасня 1939 года быў цэнтрам Палескага ваяводства тадышняй Польшчы. «Белапанскай», як гаварылі ў слаўныя часіны маёй маладосці.

З Алесем Каско мы даўнія сябры. Гэтым разам хуценька вырашыліі нашы справы, і я наважыўся праведаць Міколу Пракаповіча, таксама паэта і дружбака маладосці. Шлях тут недалёкі. Міма Леніна, зноў, як і першы раз, направа. Пераходжу вуліцы Карла Маркса, Камсамольскую і напрамкі па Савецкай — на вуліцу Куйбышава. Тут тэлерадыёкамітэт, тут і студыя Брэсцкага тэлебачання.

Міколу Пракаповіча заспяваю на месцы.

ціскаць» з ролі ўсё магчымае і немагчымае, каб пакрасавацца перад публікай. Ну, маўляў, зараз вы ў мяне пасмеяцеся! Ну а цяперака даставайце хустачкі, бо я вас да слёз давяду!.. Нічога падобнага не было ў вобразах, якія стварала на сцэне Ляля Васільна. Мо гэта і ёсць тое, што нашы тэатральныя педагогі ў інстытуце называлі «ветлівасцю акцёра», не ведаю. Прынамсі, калі гледачы смяяліся з яе вадэвільных гераінь, накшталт той жа Агаты Пустарэвіч альбо Дар'і з «Мікітава лапця» М.Чарота (спектакль «Ажаніцца — не журыцца»), дык толькі таму, што актрыса арганічна паглыблялася і жыла ў характары, які вынікае з тэксту п'есы, а не з прыдумак і штукарства. Пераступіць мяжу па-мастацку сцэнічнай праўды яна сабе не дазваляла ніколі.

Чаму я загаварыў пра такую дзіўную рысу ў акцёрскай творчасці, як свядомае самаабмежаванне, як творчая вернасць акцёра аўтарскай і рэжысёрскай задуме? Бо і тут Ляля Васільна была носьбітам лепшай традыцыі купалаўскага артыста. Сапраўды, прыгадайце хоць бы Г.Глебава або В.Полу, У.Дзядзюшку ці Г.Макараву, гэтых майстроў у амплуа камедыйна характарнага мастацтва. Да якіх каларытных фарбаў, здавалася, і празмерна згушчоных, блізкіх да шаржыравання, яны звярталіся! Дык жа не: майстра застаецца майстрам у межах тае існай сцэнічнай праўды, што лічыцца ідэалам і ў драматургаў, і ў рэжысуры, і ў нас, артыстычнай брацiі. Такой была наша Алена Рынковіч у лепшых сваіх ролях... Не, прабачце, я агаварыўся — «у лепшых». Ва ўсіх, якія яна сыграла на купалаўскіх падмостках за пяцьдзесят пяць гадоў службы ў тэатры. Так, яна выхаванка Студыі пры тэатры выпуску 1946 года!

І які калейдаскоп безлічы разматых — галоўных і другарадных — роляў у яе рэпертуары: гэта п'есы Я.Купалы і А.Астроўскага, Б.Нушыча і І.Эркеня, А.Макаёнка і І.Шамякіна, Шэкспіра і Н.Хікмета, А.Дударава і І.Чыгрынава, гэта інсцэніроўкі твораў Л.Талстога і Ф.Дастаеўскага. Безліч выязных і шэфскіх спектакляў, якія мы ігралі ў самых аддаленых мястэчках і вёсках. І Ляля Васільна — заўжды такая звабна абаяльная, нястомная і вясёлая, гатовая вось зараз выйсці на клубную падлогу альбо на сцэну якога палаца культуры і сыграць сваю ролю так, як там, у Мінску, на акадэмічнай нашай... З поўнай творчай самааддачай. Не перабягаючы сцежкі партнёру дзеля таннага поспеху ў сённяшняга гледача. Без прэтэнзій на прэм'ерства. Прымадоннай яе і ўявіць сабе не магу: душэўная і гарэзлівая, яна паводзіла сябе ў нашым асяроддзі па-сямейнаму шчыра, гасцінна і натуральна.

Бачыце, я мушу казаць «была»... Так, яна была па-народнаму каларытнай і артыстычна бездакорнай у ролі Маці ў дудараўскім «Парозе», дзе мне давялося іграць галоўную ролю Андрэя Буслая. Помню, як менавіта ў Рынковічавых вуснах так мілагучна і кранальна прагучала імя персанажа, названага аўтарам проста Бацька: «Мі-і-цік...» Колькі спагады і жаночай ласкі паспявала яна ўплесці ў інтанацыю аднаго толькі імені свайго, паводле ролі, мужа, каханага з маладых гадоў, з свайго дзявочага шчасця... І калі ў каторага з крытыкаў гэты акцэнт у ролі Маці выклікаў захапленне, мы, яе калегі, лепш зразумелі і адчулі вытанчанасць таго акцёрскага мастацтва, якое зыходзіць ва ўсім з глыбіняў драматургічнага тэксту.

Варта яшчэ дадаць: Рынковіч і без тэксту магла выдаць такога, што дзіву даешся. Рэжысёр Ціхан Кандрашоў папрасіў яе, заслужаную артыстку рэспублікі, зрабіць у спектаклі бясслоўную эпізадычную фігуру, якой і ў паміне не было ў камедыі М.Матукоўскага «Амністыя». Ляля Васільна згадзілася і паказала нам такую дападкую і ўвішную буфетчыцу з прыдуманым ёю ж для сябе імем Фенечка, што мы толькі рукамі разводзілі. Тая Фенечка ў бялюткім фартушку, з карункавай наколкай на чупрыне, не вымаўляючы аніводнага слоўца, амаль нароўні з надта гаваркімі персанажамі Віктара Тарасава, Зінаіды Браварскай і Паўла Кармуніна ладзіла зухаватае баляванне ў доме прайдзісвета Салавейчыка. Дакладны жэст. Выразная міміка. Позірк агністых вачэй. І тая наколка, бы якая карона, гатова падтанцоўваць у лад са скокамі падпітых гулякаў.

Сама Рынковіч абагаўляла найвыбітнейшую актрысу нашых часоў Ірыну Ждановіч. Яе брала за ўзор свайго жыцця ў мастацтве. У творчасці. Іграла некаторыя ролі Ірыны Фларыянаўны, прымаючы ад яе, як той казаў, эстафету служэння Тэатру. Пасля дынастыі Ждановічаў (Фларыян Паўлавіч, яго брат Антон, што меў псеўданім Антук Крыніца, і памянёная І.Ф.) і Уладамірскіх (Уладзімір Язэпавіч, яго сын Барыс і ўнук Аляксандр упісалі яркія старонкі ў летапіс Купалаўскага) менавіта Рынковіч з'яўлялася носьбітам гэтай традыцыі. Нагадаю вам, як гэта выглядае: Вера Тарасік, яе дачка Алена Васільеўна, зяць Тадэвуш Кін-Камінскі, унук Валодзя Кін... Кінушка...

Мы праводзілі нашу Лялю Васільну ў апошні шлях. Жалоба агарнула Купалаўскі тэатр. Перарвалася дынастыя. І навечна змоўк непаўторна шчырай красы голас актрысы. Няма больш з намі заслужанай артысткі Беларусі Алены Рынковіч. Сумная бессардэчнасць лёсу: мартыралог Купалаўскага тэатра, на жаль, доўжыцца — Стэфанія Станюта, Мікалай Яроменка, Валера Філатаў, Паша Дубашынскі... Мы нізка схіляем галовы перад кожным з іх. Яны — наша слава.

**Арнольд ПАМАЗАН,**
**народны артыст**
**Рэспублікі Беларусь**

# Годна рабіў сваю справу

Гісторыю нацыянальнай культуры ствараюць канкрэтныя людзі, якія штодня робяць годна сваю справу, не думаючы пры жыцці пра будучую славу. Яны проста і апантана працуюць, не зважаючы ні на якія складаныя абставіны свайго жыццёвага лёсу і, як правіла, іх лёс і сэнс жыцця — гэта толькі работа.

Летапіс гісторыі стварэння і развіцця Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь у розныя перыяды звязаны з такімі імёнамі, як Мікалай Пракопавіч Міхалап, Алена Васільеўна Аладава, Юрый Аляксандравіч Карачун, якія ўнеслі свой уклад у справу нацыянальнай культуры.



У 1977 годзе кіраўніцтва музеем узяў на свае плечы Юрый Аляксандравіч Карачун, які прыняў эстафету ад сваіх старэйшых папярэднікаў і годна пранёс яе.

27 снежня гэтага года спраўляецца 70-гадовы юбілей з дня нараджэння Юрыя Аляксандравіча Карачуна, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь, старшыні Нацыянальнага камітэта ICOM, які заўчасна 11 чэрвеня 1997 года на 66-м годзе жыцця пайшоў ад нас.

За 20-гадовую дзейнасць Ю.Карачуна як кіраўніка музея мастацкі музей ператварыўся ў буйны музейны цэнтр рэспублікі, скарбніцу нацыянальнага беларускага мастацтва.

Шмат сіл і энергіі Юрый Аляксандравіч аддаваў будаўніцтву другой чаргі музея, стварэнню філіялаў у Раўбічах, Магілёве, Гурынах, захаванню і рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры ў Міры, Гальшанах, Лошыцы, адкрыццю іх музейных экспазіцый. Для пашырэння міжнародных сувязей ён шмат зрабіў як першы старшыня Нацыянальнага камітэта ICOM.

Вельмі важна, што Юрый Аляксандравіч, як выдатны кіраўнік і высокаадукаваны творчы чалавек, цудоўна спалучаў у сабе якасці адміністратара і мастака, музейшчыка і навукоўца. Ён творча і апантана працаваў і як мастак-графік, пісаў таксама манаграфіі аб беларускіх мастаках, удзельнічаў у стварэнні музейных альбомаў і каталогаў.

Не заставаўся ўбаку і ад мастацкіх працэсаў грамадскага жыцця: як сябра Беларускага саюза мастакоў актыўны ўдзел браў у шматлікіх журы, выстаўкамах, экспертных камісіях Міністэрства культуры Беларусі. За дасягненні ў музейнай справе ў 1997 годзе быў узнагароджаны ордэнам Дружбы Расійскай Фэдэрацыі.

27 снежня 2001 года ў 17 гадзін у Нацыянальным мастацкім музеі адбудзецца адкрыццё персанальнай выстаўкі графікі да 70-гадовага юбілею Юрыя Карачуна, на якую запрашаем яго сяброў і калег. У выкананні заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Галіны Паўлянок (партыю фартэпіяна выканае дыпламант міжнародных конкурсаў Алена Афанасьева) адбудзецца музычны канцэрт.

**Уладзімір ПРАКАПЦОЎ,**
**дырэктар Нацыянальнага мастацкага**
**музея Рэспублікі Беларусь**

Зноў жа чай, гаворкі пра паэзію, пра работу. Успомнілі Міхася Рудкоўскага. Ён добрых гадоў пятнаццаць сядзеў у гэтым кабінеце. Цяпер — толькі ягоны партрэт. На стале ў рамцы.

Бог мой, калі гэта было? У гэтым кабінеце з Міхасём (царства яму нябеснае!) мы пілі віно, гарэлку. Пад просценькую — на хапок — закусь. Чыталі вершы...

Мая туга перадалася і Міколу, вырашыў развесяліць яго, пажартаваў:

— Ведаеш, Мікола, а Брэст не змяніўся. Колькі ў ім не быў, а ён усё такі ж — прыгожы, ціхі, утульны. Ну хіба што Ленін заміж невядомага ўсім шляху дарогу ў касцёл паказвае. Не інакш, як папе Рымскаму прадаўся. А мо каталіцтва прыняў?

Жарту не атрымалася. Мікола Пракаповіч пасмутнеў яшчэ больш. На гэтым мы й развіталіся. Добра, хоць напаследак я ўспомніў, што майму сябру праз два месяцы спаўняецца пяцьдзесят гадоў. А гэта ўжо не жартачкі. Павіншаваўшы Міколу з будучым юбілеем, рушыў я на вуліцу Маскоўскую, да Міхася Рудкоўскага.

Першае, што кінулася ў вочы ля дома, дзе жыў паэт, — купалы новага, яшчэ ў рыштаваннях, праваслаўнага храма — царквы святога благавернага князя Аляксандра Неўскага. І царква гэтая — проста пад вокнамі Міхася Рудкоўскага. Праўда, цераз дарогу, і праз сем гадоў пасля ягонай смерці. Не дачакаўся Міхась...

Я паклаў да мемарыяльнай дошкі дзве кветачкі гваздзікоў, паглядзеў на ўжо ледзь бачны патрэт Міхася Рудкоўскага на другой дошцы, што вышэй той, дзе высечаны ягонае імя, даты нараджэння і смерці. Памаліўся. Пераждагнуўся і на купалы будуемага храма Аляксандра Неўскага і падаўся на прыпынак. Сеў у тралейбус, яшчэ раз азірнуўся на дом, у якім жыў мой сябра, цудоўны беларускі паэт Міхась Рудкоўскі, на храм Божы і цвёрда вырашыў як мага даўжэй не прыязджаць ва ўтульны, дарагі мне горад Брэст...

Сяджу, уталопіўшыся ў вакно тралейбуса. Уся тая ж Маскоўская вуліца. І ўжо — не тая... Што гэтак ціснe на сэрца? Быццам няма ўжо тут нічога роднага мне, быццам і сам я ўжо тут чужы.

Ёсць яшчэ адзін горад Брэст, у Францыі. На беразе Атлантычнага акіяна. Але там я й зусім ніколі не быў. Ды й што мне там рабіць, на беразе Атлантычнага акіяна?! А гэта — наш, родны, беларускі, слаўны горад Брэст. Брэст-над-Бугам. Брэст-Літоўск. Берасце.

Прашу не блытаць.

## Пахаванне «балахоўца» дзеда Рыгора

Гэты ўспамін — ці не самы яркі ўспамін дзяцінства. Пахаванне роднага брата майго дзеда па бацькоўскай лініі. У вёсцы іх звалі «балахоўцамі» — усе яны, чацвёра братоў, былі высокімі, станістымі, дужымі, прыгожымі. Адсюль, напэўна, і мянушка. А можа... Я сам і неаднойчы чуў гаворкі вясковых дзядоў пра коннікаў генерала Булак-Балаховіча. Прыгадваліся яны заўсёды, як легенда — гэтак успамінаюць самае дарагое: маладосць, першае каханне. Напэўна, гэтак на чужыне ўспамінаюць Радзіму, калі канчаткова прыходзіць усведамленне, што на яе ўжо ніколі не вярнуцца...

Праўда, мой дзед Хвядос ростам быў меншы за астатніх братоў і не такога волатаўскага целаскладу. Але затое ён іграў на гармоніку. Мала гэтага — спяваў песні, якія сам жа й складаў. Адным словам, дзяды былі — на ўсё сяло. Ды што там на сяло — на ўсё наваколле! Паважныя, спакойныя, упэўненыя ў сабе, велічныя. У вёсцы ўсе ведалі, якія яны, браты «балахоўцы», дружныя, працавітыя.

Як я любіў назіраць за імі... Разам бачыў іх разы са два, можа, тры, ад сілы — чатыры. А паасобку — досыць часта. Дый дзед Хвядос памёр, не дажыўшы да ста чатыры гады. Мне самому было ўжо за трыццаць. Памёр апошнім з братоў, хоць усіх іх можна было лічыць равеснікамі — у гэты свет яны прыйшлі адзін за адным: Іван, Тодась, Рыгор, Хведар. Былі і сёстры, але ведаць я іх не мог і нават не бачыў: адна «за польскім часам» з'ехала ў Амерыку, там і засталася, а другая памерла, тады ж, «за Польшчай», як у нас заўсёды гаварылі. Бывала, ідзеш услед, а то й побач з кім-небудзь з дзядоў і як жа на душы хораша, спакойна. І не ўцяміць, адкуль сіла ва ўсім целе, і гонар, рамантычны гонар, які й бывае толькі ў хлапчукоў...

Пахаванне. На калёсах, засланых белым радном, вялікая труна са свежагабляваных дошак, за труной — працэсія. Як заўсёды ў вёсцы, унушальная — хавалі вяскоўцы сваіх дзядоў (ды й не толькі дзядоў) усім сялом, хто б ні быў. З'язджаліся і сыходзіліся ўсе (без выключэння) сваякі, нават калі і быў хтонебудзь пасварыўшыся. Прытым, і далёкія. Уперадзе працэсіі, метраў за дзесяць-пятнаццаць, ідзе дзядзька Максім, родны бацькаў брат. На плячы — велізарны дубовы крыж.

Без перастанку лье дождж, пераходзячы ў мокры, ліпкі снег. Волкі, халодны вецер. А трэба быць з голай галавой. Бацюшка адпяваў дзеда Рыгора па поўным чыне і пахаванне задоўжылася на добрыя дзве гадзіны. Адчуваю, як праступа наскрозь працяла мяне. Спіна ўзмакрэла гэтак, што майка непрыемна ліпне да цела. Такі ж мокры — ад дажджу і снегу — твар; і рукі, мокрыя, скалелыя, я імі папераменна выціраю твар. Ён таксама непрыемна свярбіць. Не плачу. І амаль ніхто не плача. Хіба што мае цёткі, дочкі дзеда Рыгора. Калі пачалі развітвацца і забіваць вечка труны, яны й зусім загаласілі. Нарэшце паставілі крыж, закідалі зямлёй. Падраўнялі магільны грудок. Памятаю, я доўга, неадрыўна, нават забыўся на прастуду, глядзеў на крыж. «З дуба», — раз-пораз казалі мужчыны. Мне ён здаваўся жывым. Велізарны, моцны, які быў і дзед Рыгор.

А яшчэ запомніліся бацькавы словы, якія ён сказаў дзядзьку Пятру, майму хрышчонаму бацьку, калі мы ішлі назад у вёску, памінаць. Калі б не тыя словы, я наўрад ці запомніў бы гэтак выразна пахаванне «балахоўца» дзеда Рыгора: «Эх, і не любіў нябога гэты дзень...»

А дзень быў — 7 лістапада 1964 года.

# ХАЙБАХ

(Заканчэнне. Пачатак на стар.9)

Пасля гібелі 6-ай дэсантнай роты мяне перавялі – я ў земляка сам папрасіўся – у разведбатальён. Там я зноў сустрэў салдата Бігіна, падумаўшы, што мог бы і не сустракаць – вайна вялікая. Але мы сустрэліся, так лёсу трэба было, і зімой, пад канец лютага, мы падымаліся з разведгрупай, дваццаць шэсць чалавек, у горы, туды, дзе аул Хайбах.

Нечакана, як яно часта здараецца ў гарах, пайшоў-пасыпаўся снег, ды такі, што спіну першага перад табой яшчэ можна было ўбачыць, а другога – ужо не. Выпадкова мы наткнуліся на пячору ў падножжы стромай скалы, спыніліся і заначавалі. Пад раніцу трохі распагодзілася, «чэхі» заўважылі нашых вартавых, ударылі з мінамёта – і снег са скалы абрушыўся, заваліўшы выхад з пячоры. Мы апынуліся ў пастцы – цёмнай, сырой, душнай.

Спрабуючы выбрацца, разграбаючы снег, які напаўзаў і напаўзаў, гадзіны праз чатыры мы пачулі, што нас адкопваюць знадворку. З'явілася надзея, што гэта вартавыя, ці нават падмога – навошта «чэхам» нас з жывой магілы даставаць?.. Але як толькі на выхадзе з пячоры прабілася ў самым версе святло і абазначыўся лаз, адтуль крыкнулі:

– Кідай зброю і выпаўзай па адным!

Выйсця не было... Тут нас маглі зноў закапаць, задушыць дымавымі шашкамі – тут нічога не магло адбыцца, апрач смерці... А там, можа, удасца ўцячы, ці свае вызваляць – там нейкія варыянты...

Вочы нясцерпна разанула на белым свеце ад белага-белага снегу – і ўсё ж Ясу Джамаева сярод «чэхаў», якіх было ўтрая болей за нас, я і ўбачыў, і пазнаў адразу. І ён мяне пазнаў, сказаўшы нешта аднарукаму чачэнцу, што стаяў побач – Жандару, камандзіру... Я здагадаўся, што ён яму сказаў.

Нас загналі ў кінутую, пустую стайню, да якой не дайшлі мы ўчора ў снегападзе з паўвярсты. Калі б дайшлі, усё было б інакш. Мы б ваявалі – і нас бы проста пазабівалі, як забілі, на іх шчасце, трох нашых вартавых.

За рукі і ногі нас прывязалі да стаякоў у стойлах – дванаццаць з аднаго боку і адзінаццаць з другога. У дзвярах стайні стаялі каністры, ад якіх пахла бензінам. Адна дзверына была знята з завесаў і ляжала пасярод стайні на жардзяных, толькі што збітых козлах.

– За такі вялікі стол мы звычайна запрашаем гасцей, – пачаў гаварыць Жандар. – Але не вас, бо вы не госці, а ворагі. Вы прыходзіце сюды ворагамі амаль дзвесце гадоў. У адзін з вашых прыходаў вы спалілі тут жывымі семсот дваццаць шэсць чалавек, мужчын і жанчын, старых і дзяцей... Выспалілі іх у стайні – і мы таксама хацелі спаліць вас у стайні, бо ў свеце павінна быць справядлівасць. Ва ўсім і для ўсіх... – Жандар паглядзеў на Ясу, пасля на мяне. – Але мы перадумалі. Ніхто не хоча паміраць – і мы пакінем вас жыць. Мы адпомсцім вам так, што помста пойдзе ў будучыню – і ні вы сюды не вернецеся, ні дзеці вашы, ні ўнукі і праўнукі на зямлю нашу не ступяць. Мы спакладзем вас, як парсюкоў, бо вы і ёсць свінні.

– Яны самі сябе выпакладуць, – сказаў Ясу. – Кожны кожнага.

– Кожны пакладзе кожнага. Мы толькі пакажам, як...

Па знаку Жандара «чэхі» развязалі сяржанта Целяшэева, усцягнулі на рог стала, садралі порткі. Двое загнулі яму, разводзячы, пад краі стала ногі, двое прыціснулі галаву і рукі, а яшчэ адзін рэзануў паміж ног і кінуў тое, што выразаў, у стойла, дзе толькі што стаяў сяржант. Той, не разумеючы яшчэ, што адбылося, ускочыў, адразу ўпаў і, пырскаючы крывёй, падбіраючы порткі, папоўз па свае...

– Цяпер ты, – падышоў Жандар да камандзіра нашай разведгрупы капітана Сільнова. І паказаў на мяне. – Яго.

Сільноў плюнуў яму ў твар.

– Як сабе хочаш, – спакойна выцерся Жандар і падаў знак «чэхам».

Капітана ўскінулі на стол, адрэзалі вушы, нос, выразалі язык, выкалалі вочы, адсеклі ў кісцях рукі і ў шчыкалатках ногі, рэзанулі ўрэшце паміж ног і адкацілі, як абрубак, да сцяны.

– Так будзе з кожным, хто адмовіцца, – сказаў Жандар і спытаўся ў мяне. – Ты адмаўляешся?

– Забі мяне, Ясу, – папрасіў я. – Па былой дружбе.

– Ты надта многа хочаш, – адказаў Ясу. – Я ж сказаў табе тым разам: не прыходзь.

– Да капітана яго! – загадаў Жандар, але Ясу спыніў Жандара.

– Не. Гэты хай жыве, каб помніў... Ён не хоча, дык яго захочуць. – І Ясу ткнуў пальцам у салдата Бігіна, які цягаўся за мной, як хвост, і на першай, і на другой чачэнскай вайне. – Ты!

Салдат Бігін не адмовіўся... Сказаў толькі: «Гэта і стоячы можна зрабіць, нашто на стол валачы?..» Праз дзень, калі нас, дваццаць кастратаў, бо яшчэ двое адмовіліся і засталіся абрубкамі ў стайні, перакідвалі на самалёце з Маздока ў Маскву, салдат Бігін павесіўся на дзязе ў прыбіральні. Калі б за намі не глядзелі, не ён бы адзін павесіўся.

Я не спрабаваў павесіцца... Я ведаў, што, вярнуўшыся, стану супраць гэтай вайны, супраць усіх сваіх трох войнаў – і яны мяне заб'юць.

Падаючы ў роўны шум вады пад запрудай, які я звык любіць, я паспеў яшчэ пачуць галасы.

– Рыбам на корм, – сказаў той, што ўдарыў мяне першы, а другі запярэчыў:

– Тут няма рыбы. Атручаная рака.

– Усё атручанае, – сказала трэцяя.

– Нейкая рыба павінна быць...

Яны заспрачаліся, але я ўжо іх не слухаў. Калі ты нарэшце мёртвы, табе ўсё адно, ці ёсць рыба ў рэках.

# Мастацтва для народа

Радашковічы — маляўнічае мястэчка на зліцці рэк Вязынка і Гуйка. Са старым касцёлам, з драўлянымі дамамі, са стандартнай забудовай савецкага часу. Занятак мясцовага люду забяспечвае шэраг невялікіх прадпрыемстваў. Сярод іх — ААТ «Беларуская мастацкая кераміка». У сваёй галіне прадукцыя «Белмастацкерамікі», безумоўна, мае рысы унікальнасці. У гэтым пераконвае адмысловая выставачная зала, дзе экспануюцца лепшыя творы, лепшыя ўзоры прадукцыі за ўвесь час існавання фірмы. Гэта, так бы мовіць, і «музей працоўнай славы», і дэманстрацыі тэхналагічных магчымасцяў ды творчага патэнцыялу. У пэўным сэнсе гэта яшчэ і важны раздзел гісторыі беларускай мастацкай керамікі некалькіх апошніх дзесяцігоддзяў. На гэтым матэрыяле дасведчаны мастацтвазнаўца без праблем мог бы зрабіць дысертацыю — накшталт «Уплыў тэхналогіі, а таксама эстэтычных стэрэатыпаў грамадства на прынцыпы фармаўтварэння беларускай керамікі апошняй чвэрці XX ст.» Самім жа працаўнікам "Белмастацкерамікі" не выпадае займацца «чыстай» навукай — калі, зразумела, не лічыць навукай пошук сыравіны і рынкаў збыту, распрацоўку тэхналогій і вывучэнне эстэтычных і побытавых патрэб патэнцыяльных пакупнікоў.

Прадпрыемства ўтварылася не ўчора. Ганчарства ў гэтым краі мае даўнюю традыцыю, не адну сотню год гісторыі. А вось годам нараджэння прадпрыемства, пра якое ідзе гаворка, афіцыйна лічыцца 1940. Праўда, сякая-такая вытворчасць на месцы сучаснай «Белмастацкерамікі» была і да другой сусветнай вайны, пад польскай акупацыяй. Пасля ўз'яднання Беларусі ў Радашковічах утварылі напачатку арцель, а ў 1944 годзе рэарганізавалі яе ў камбінат, дзе рабілася шмат чаго — ад свечак і ваксы да абутку да прыладаў сялянскай працы. У 70-х гадах асартымент вытворчасці моцна скарацілі. З таго часу прадпрыемства спецыялізуецца на кераміцы ды яшчэ мае цэх па вытворчасці мэблі (тут робяць добра вядомы кухонны гарнітур «Вязынка»). Майстроў для «Белмастацкерамікі» рыхтуе ў асноўным бабруйская вучэльня, а мастакоў-распрацоўшчыкаў эталонаў — Беларуская акадэмія мастацтваў.

«Белмастацкераміка» стваралася як прадпрыемства мясцовай прамысловасці для задавальнення патрэб найперш рэспубліканскага рынку, і такім яно па сутнасці застаецца і сёння. Але прыблізна чвэрць прадукцыі ідзе ў Расію. Расійскія ганчары, мабыць, не горшыя за нашых, але прасцей весці справу з Радашковічамі. Бо прываблівае шырыня асартыменту. Прыязджаеш на «Белмастацкераміку» з вялікай машынаю, загружаеш яе вырабамі ста пяцідзесяці найменняў (гэта тое, што ёсць заўжды, — калі дамаўляцца папярэдне, дык можна прыдбаць усе дзвесце найменняў) і едзеш дадому на кірмаш. У той жа Расіі, каб прыдбаць такое ж, трэба аб'ехаць некалькі фабрык, раскіданых па розных рэгіёнах краіны. Выгода відавочная.

Трапляе прадукцыя «Беламастацкерамікі» і ў Чэхію, Летуву, Латвію, Ізраіль. Але ад кантактаў з «далёкім замежжам» і Балтыяй кіраўніцтва прадпрыемства не ў захапленні. Там народ больш «прадвінуты» ў сэнсе капіталізму, чым у краінах СНД, так што пры заключэнні кантрактаў даводзіцца змагацца за кожную капейку, цэнт, лат, каб у рэшце рэшт не застацца дурнем. З расейцамі, нібыта, прасцей. А, можа, проста больш звыкла....

Сярод аналагічных прадпрыемстваў краіны «Белмастацкераміка» вылучаецца адноснай стабільнасцю, але праблемы ёсць і тут. Скажам, ад прадпрыемства патрабуюць перадаплаты за сыравіну і электраэнергію, а гандаль пералічвае грошы «Белмастацкераміцы» не адразу, а толькі пасля рэалізацыі тавару. Гандлю добра, «Белмастацкераміцы» — не надта.

Кіраўніцтва прадпрыемства вельмі хвалюе тое, што беларускі рынак усё болей насычаецца замежнай прадукцыяй, у прыватнасці, таннай кітайскай керамікай, з якой вельмі цяжка канкурыраваць беларускім вытворцам. Бо ў кошт мясцовай прадукцыі ўваходзяць яшчэ і падаткі, якія вытворчасць плаціць дзяржаве і якія маглі б (па здаровым сэнсе) быць меншымі. Зноў жа заробак не варта ўсталёўваць дырэктыўным шляхам, ён мусіць залежаць ад прыбытку. Насамрэч атрымліваецца інакш...

І ўсё ж да гонару калектыву «Белмастацкерамікі» трэба адзначыць, што ва ўмовах не вельмі спрыяльных прадпрыемства шукае свой шлях да людзей, да рынку, спрабуючы пры гэтым захаваць усё лепшае, што назапашана за дзесяцігоддзі.

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**
*Фота М. ПРУПАСА*


*Генеральны дырэктар Мікалай КЛАДАЎ*


*Свой музей*


*Творчасць заўжды ад Бога*



*Радашковіцкія ганчары*


*Калядны настрой*

ПАРОДЫІ

Антось ПАДАБАС

## Хто ты?

Ах, Зоя, Зоя!..
Што ж ты, Зоя Шых!..
Ванда...
Уся ў рабацінні...
І раптам —
на сцежачцы... Ліна...
Гадаў я: хто ты?
Фаня?
А можа, Поля — ты?
Як Афрадзіта —
Наталі-Наталля.

Крычалі чайкі:
— О-ля! О-ля!

**Яўген ХВАЛЕЙ**

*Сказаў жа хтось:*
*два боты — пара.*
*А я адрозніць*
*не магу,*
*Ці Даміцэля,*
*ці Барбара*
*Мне наступіла на нагу.*

*Хоць ты на грудзі*
*вешай шыльды,*
*Каб падказаць*
*маглі яны,*
*Ці гэта Грыша,*
*ці Мацільда*
*Мае запэцкалі штаны.*

*А калі ездзіў*
*я на мора,*
*То не запомніў*
*аніяк,*
*Ці то Альжбета,*
*ці Тадора*
*Мяне цягнулі на маяк.*

*Ці то Праксэда,*
*ці Парася*
*Мяне цвялілі даўдна...*
*Я за абедзвюма*
*памчаўся,*
*Ды аніводнай*
*не дагнаў.*



*Наступны нумар штотыднёвіка "ЛіМ" выйдзе 4 студзеня 2002 г.*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІК
**ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**,
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**,
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ**,
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар*,
**Мікола ГІЛЬ**,
**Уладзімір МАРУК** — *намеснік галоўнага рэдактара*,
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**,
**Яўген РАГІН**,
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**,
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**





**ТЭЛЕФОНЫ:**
приёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-7985
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-8462
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462
Тэл./факс — 284-7965





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2647
Нумар падпісаны ў друк 20.12.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 7468

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12